Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Весьці

## Народнага Камісарыяту Юстыцыі Беларускае ССР.

Зьмест:


ЦЫНІТ П. — Рэвалюцыйная законнасьць і селькоры.
Проф. ГРЕДИНГЕР—Наша Гражданско-Судебная практика и вопрос о склонении сторон к миру
СЛУПСКІ С.—Злачыннасьць у БССР.
КАЦІН—Аб абавязковых пастановах.
ВАТАЦЫ Б.—Запродаж па грамадзянскаму Кодэксу БССР.
ВІШНЕЎСКІ А.—Аб сямейна-маемасных падзелах працоўных земляробчых гаспадарак.
МАКУНЯ—Аб няўстойцы ў дзяржаўным звароце.
РАХМАНІН С.—Некалькі слоў па поваду палажэньня аб дагаворы камісіі БССР.
ЧЕРНЯВСКИЙ Г.—Законодательство по жилищному строительству (працяг).
МАЛЁНАК М.—Асноўныя прынцыпы арганізацыі Саюзнага Натарыяту.
УЛАДАЎСКІ.—З блёк-нотам па рэвізіі (працяг).
СТАРОНКА ПРАКТЫКА—ГІНЗБУРГ.—Меры прасячэньня пры ўжываньні арт. 49 Крымін. Код. ВАТАЦЫ—Пытаньні Працэсуальнага права. РОЗЭНГАУЗ С.—Як лепш прасунуць законнасьць у вёску. ЛІЙЦ—Ашчадныя касы, як сродак барацьбы з злачыннасьцю.
РАСТЛУМАЧЭНЬНІ—Аддзелу заканадаўчых праэктаў.
ПРАКТЫКА Асобай калегіі Вышэйшага Кантролю па зямельных справах.
ПАСТАНОВЫ Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю.
АГЛЯД ВАЖНЕЙШЫХ АКТАЎ САВЕЦКАГА ЗАКОНАДАЎСТВА, апублікаваных за час ад І/І да І/IV—1927 г.
—ХРОНІКА
—КНІГАПІС
—АФІЦЫЙНАЯ ЧАСТКА



№ 4—5

КРАСАВІК—МАЙ 1927 г.
1-ы год выданьня.

Менск

# ЗЬМЕСТ.

Стар.

ЦЫНІТ П.—Рэвалюцыйная законнасьць і селькоры . . . . 1—3
Проф. ГРЕДИНГЕР М.—Наша Гражданско-Судебная практика и вопрос о склонении сторон к миру . . . . . 4—8
СЛУПСКІ С.—Злачыннасьць у БССР. . . . . 8—15
КАЦІН Г.—Аб абавязковых пастановах . . . . 15—21
ВАТАЦЫ Б.—Запродаж па грамадзянскаму Кодэксу БССР. . . 22—25
ВІШНЕЎСКІ А.—Аб сямейна-маемасных падзелах працоўных земляробчых гаспадарак . . . . . . . . . 26—30
МАКУНЯ—Аб няўстойцы ў дзяржаўным звароце . . . . 30—32
РАХМАНІН С.—Некалькі слоў па поваду палажэньня аб дагаворы камісіі БССР. . . . . . . . . . 32—34
ЧЕРНЯВСКИЙ Г.—Законодательство по жилищному строительству (працяг). 35—40
МАЛЁНАК—Асноўныя прынцыпы арганізацыі Саюзнага Натарыяту. . 41—43
УЛАДАЎСКІ—З блёк-нотам па рэвізіі (працяг) . . . . 34—43

## Старонка практыка.

ГІНЗБУРГ В.—Мера прасячэньня пры ўжываньні арт. 49 Крымін. Код. . 44—45
ВАТАЦЫ Б.—Пытаньні Працэсуальнага права . . . . 45—47
РОЗЭНГАУЗ С.—Як лепш прасунуць законнасьць у вёску. . . 47—48
ЛІЙЦ—Ашчадныя касы, як сродак барацьбы з злачыннасьцю . . 48—49

## Растлумачэньні.

Аддзелу законадаўчых праэктаў НКЮ БССР. . . . . 50—52
ПРАКТЫКА Асобае калегіі Вышэйшага Кантролю па зямельных справах. . 52—53
ПАСТАНОВЫ Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю. . . . 54—55
АГЛЯД ВАЖНЕЙШЫХ АКТАЎ САВЕЦКАГА ЗАКОНАДАЎСТВА, апублікаваных за час ад I/I да I/IV—1927 г. . . . . . 56—63

## Хроніка.

Пытаньні Крымінальнага законадаўства на III сэсіі ЦВК Саюзу ССР III скліканьня . . . . . . . . . 64—67
Акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты аб абавязковых пастановах . 67—69
— Разработка основ гражданского законадательства Союза ССР. . 70—74
— Сыстэматызацыя і ўніфікацыя двейнічаючага ў БССР законадаўства . 74—75
— У Народным Камісарыяце Юстыцыі . . . . . 75—76
— II-я Ўсесаюзная Нарада Юрысконсультаў дзяржаўнай прамысловасьці . 76—78
— Юрыдычныя курсы пры НКЮ . . . . . . 78—79
З месц. . . . . . . . . . 79—80

## Кнiгапiс.

РАХМАНІН С.—Юрыдычная картатэка . . . . . 81

Пролетары усіх краін, злучайцеся!

# ВЕСЬЦІ

Народнага Камісарыяту Юстыцыі Беларускае ССР

№ 4—5. Красавік—Май 1-ы год выданьня.

## РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ЗАКОННАСЬЦЬ І СЕЛЬКОРЫ.

Работа селькораў з кожным годам, з кожным месяцам прымае ўсё больш і больш шырокі ўсёахопліваючы размах.

Калі параўнальна нядаўна заметкі і заявы селькораў налічваліся паасобнымі адзінкамі, а ў рэдкіх выпадках дзесяткамі, то ў сучасны момант прыходзіцца мець справу ўжо з соткамі самых рознастайных заметак і заяў, у тэй або іншай ступені раскрываючых хворыя месцы і балячкі вясковага ўкладу і вясковых распарадкаў.

Колькасны рост мацнеючай арміі застрэльшчыкаў прабуджаючайся вясковай грамадзкасьці і сялянскай самадзейнасьці селькораў і прадукцыйнасьць іх работы сапраўджаюцца бясспрэчным ростам арганізаванасьці і плянамернасьці.

Паколькі Пракуратуры і наогул судова—следчым органам прыходзіцца мець справу выключна з матар‘яламі разаблачаючага характару, прыходзіцца адзначыць што прапрацоўка і верагоднасьць гэтых матар‘ялаў значна вышэй першапачатковага пэрыяду работы, яшчэ толькі пускаўшага першыя расткі селькораўскага руху.

Селькоры, калі яшчэ і не ва ўсёй масе, то ва ўсякім выпадку у большасьці яе прасякнуліся поўнай сьвядомасьцю сур‘ёзнасьці і важнасьці выконваемай імі работы, аграмаднасьці яе палітычнага, грамадзкага і культурнага значэньня.

У працэсе работы селькораў ужо прыкмячаецца вядомая навычка, назіральнасьць, чуласьць і зіркастасьць.

Выпрацоўваецца ўменьне, не падшукваючы тэмы для паведамленьняў, вырываць яе з сапраўднага рэальнага вясковага быту і сапраўднай вясковай сутнасьці. Уменьне адрозьніваць важнае і значнае, якое мае грамадзкі інтарэс, хвалюючае вёску, патрабуючае одкліку або адпаведнага ўплыву ад дробнага, нязначнага і няістотнага--вось дасягненьні ў працы селькораў за апошні час.

У гэтых дасягненьнях гарантыя і залог таго, што работа селькораў накіравана па правільнаму рэчышчу. Вялікая злосьць, нянавісьць, траўля, уціск, часта біцьцё і нават забойства абрушваюцца на селькораў з боку цёмных сіл вёскі у асобе кулацтва, усякага роду прахадзімцаў і іншае і іншае—лепшы паказальнік таго, што селькораўскія стрэлы папалаюць у цэль, што іх разаблачэньні б‘юць па самых хворых нарывах і балячках кулацкага пазорнага мінулага, яшчэ далёка ня выжытага ў вёсцы і ў сучасны момант.

Адзначаючы гэты культурны рост і сьвядомасьць селькора, выяўленыя ім на перавале наступацельнага руху вёскі да поўнага раскрапашчэньня ад кулацкага засільля, нельга не адзначыць, што тое і другое дасягнута і дасягаецца цаною вялізарнейшага напружаньня сіл селькора, здабываецца ў выніку цяжкай селькораўскай страды ў вёсцы.

Наш-жа абавязак аказаць селькору ўсямерную рэальную дапамогу ўсімі маючыміся ў нас сіламі і сродкамі, пакуль сама працоўная сялянская маса, бяз усякага страху, ня возьме яго пад сваю рэальную абарону, ня стане навокал яго непраніклівай шчыльнай сьцяною, аб якую ня мінуча павінны будуць разьбіцца ўсе кулацкія прагненьні.

Якімі-ж сіламі і сродкамі разьмяркоўвае ў гэтай галіне пракурорскі нагляд і судова—сьледчыя органы?

Перш за ўсё, гэта мера карна—судовага ўплыву, накіраваная супроць асоб, якія ўчыняюць злачынствы супроць жыцьця селькораў.

Наш Крымінальны Кодэкс, які прасякнуты ідэяй спраўленьня, а ніколькі не прасьледуючы мэты кары, ў даным выпадку са ўсёю бязьлітаснасьцю рэпрэсій абвальваецца на злачынцаў, якія рабілі замах на жыцьцё селькора.

Так забойства селькора, іменна, як селькора, зьвязанае з яго разаблачаючай дзейнасьцю ў весцы, аднесена да самага цяжкага віду злачынстваў: злачынстваў контр-рэвалюцыйных, пасягаючых на самую аснову савецкай улады, на паслабленьне ці падрыў яе.

Усякі тэрорыстычны акт, які накірован супраць селькора і яго жыцьця за яго працу і разаблачэньне караецца па арт. 64 Крым. Код. вышэйшай мерай пакараньня—расстрэлам з канфіскаваньнем усей маемасьці. Зьмякчэньня пакараньня, але і то ня ніжэй 5 год пазбаўленьня волі са строгім ізаляваньнем з канфіскаваньнем усей маемасьці, дапускаецца як выключэньне з агульнага правіла, пры наяўнасьці зьмякчаючых віну акалічнасьцяй.

Бязьлітасная кара, крайняя мера рэпрэсіі—расстрэл, вось што чакае ўсякага зрабіўшага замах на жыцьцё селькора. Няхай гэта цьвёрда вывучаць тыя, хто тоіць у вёсцы думку аб расправе з селькорам.

За ўдар па селькору,—бязьлітасны ўдар савецкага, у гэтым выпадку ўжо не спраўляючага, а караючага, закону. Удар ня толькі па злачынцу, непасрэдна забіўшаму ці ўчыніўшаму расправу, але і па ўсіх аўдзельніках і дапаможніках у ўчыненьні злачынства.

За забойства селькора, калі гэта забойства ўчынена ня ў сувязі з яго дзейнасьцю, а па асабістых, карысных або іншых нізкіх пабуджэньнях, учыніўшага злачынства чакае арт. 142 Кр. Код., які карае пазбаўленьнем волі на тэрмін ня ніжэй 8 год са строгім ізаляваньнем.

Ітак, жыцьцё селькора па лініі судовай абароны мае даволі надзейную і моцную броню.

У гэтай галіне абароны і падрымкі селькора мы павінны яшчэ раз рашуча і цьвёрда заявіць, што ў даны момант, пры даных умовах мы не адступілі ні на адзін крок ад тых магчымасьцяй і праў, якія нам валадарна прадыктаваны законам і дыктуюцца ўмовамі клясавай барацьбы.

Ня менш важнай мерай, побач з выключнай строгасьцю і цяжкасьцю кары, зьяўляецца прыбліжэньне моманту судовага ўплыву к моманту ўчыненьня злачынства. У гэтай плошчы ўвесь судовы апарат павінен аддаць максымум увагі справам аб селькорах, разгледжваць іх без усякай чаргі, пракурорскі нагляд і сьледчыя органы ў тым-жа парадку, без якіх-бы-то ні было затрымак павінны зрабіць па справе папярэдняе рассьледваньне ў самы кароткі тэрмін. Толькі пры гэтых умовах барацьба з злачынствамі супроць селькораў дасьць станоўчыя рэальныя вынікі.

Неабходна таксама, каб працэсы аб селькорах разьбіраліся ў гушчы сялянскага насельніцтва таго раёну, дзе злачынствы ўчынены, таксама як працэсы па справах, якія разаблачаны селькорамі. Гэта зьблізіць сялянства з судом, пракуратурай і сьледзтвам, народзіць давер'е, сілу і моц пралетарскага правасудзьдзя, утворыць у сялянскіх масах упэўненасьць у магчымасьці барацьбы з кулацтвам, а, галоўнае, магчымасьць посьпеху ў гэтай барацьбе, што мае вялікае грамадзкае і палітычнае значэньне. Апрача таго, такім разглядам справы ўтвараецца лішні пабуджальны стымул да барацьбы, разьвязжацца скованы маўчаньнем язык, паявіцца адсутнічаючая ў масе сьмеласьць гаварыць і дзейнічаць разам з упэўненасьцю, што і на кулацка-папоўскую і начальніцкую сілу і няпраўду ёсьць законная ўправа і сіла, што за злачынствы і парушэньні законаў рабоча-сялянскага ўраду сьледуе вздаяньне, а не беспакарнасьць.

Для больш пасьпяховай працы селькораў, павінна быць устаноўлена шчыльнейшая сувязь іх з пракуратурай і сьледчымі органамі на мясцох. Канечна, аб гэтай сувязі у першую чаргу павінны клапаціцца і самі селькоры і, ўстанавіўшы, яе ва што-б то ні стала і падрымліваць.

Высьвятленьне ў мясцовым друку пытаньняў права, ролі селькораў, вынікаў па справах расследаваньня і суду па селькораўскіх разаблачэньнях і заметках—гэта работа, ў большай сваёй часьці павінна быць прынята на свае плечы пракуратурай і судова-сьледчымі органамі на мясцох. Ні аднэй мала-мальскі істотнай заметкі або заявы аб беззаконнасьці, самавольстве, непарадках не павінна быць астаўлена без расследваньня.

Нарэшце, поўная тайна і абавязак неаглашэньня імён селькораў павінны быць асноўным правілам у далейшай нашай рабоце.

І вось па гэтых намечаных намі тычках мы абавязаны працу выканаць, як-бы трудна яна ня была.

Але, прыступаючы да яе і паглыбляючы яе, мы маем права чакаць і ад селькораў далейшага паглыбленьня ў мэтах работы, а, галоўнае, пратакольнай верагоднасьці павядамляемых зьвестак і абаснованасьці іх. Гэта неабходная і галоўная ўмова для далейшай работы, бо бяз гэтай верагоднасьці ў зьвестках і заметках падрываецца аўтарытэт самых селькораў у вачох сялянскіх мас і заграмаджаецца бескарыснай пустой работай пракурорскі і сьледчы апараты, якія павядуць справу па неадпавядаючых ісьціне паведамленьнях.

За лік колькасьці—болей увагі на якасьць заметак, памятаючы завет Ільліча: „Лепей меней, ды лепей“.

*П. Цыніт.*

# НАША ГРАЖДАНСКО-СУДЕБНАЯ ПРАКТИКА И ВОПРОС О СКЛОНЕНИИ СТОРОН К МИРУ.

Из некоторых, бывших в производстве белорусских судебных учреждений, гражданских дел усматривается, что процедура склонения сторон к миру не чужда нашей судебной практике.

В протоколах заседаний, как народных судов, так и Минского окружного суда (равно и бывшего высшего суда) встречаются фразы: „мира не последовало“, „примирения не состоялось“, „стороны не помирились“.

Судя же по тому, что указания на непоследование мира помещаются в протоколе судебного заседания непосредственно после упоминания о лицах, явившихся в суд, и, в частности, о тяжущихся, позволительно думать, что примирительная попытка имеет место в самом начале слушания дела, до судебного разбора его.

Однако, утверждать это с уверенностью не приходится; для такого вывода потребовалась бы целая анкета, тщательный опрос судей, пока же можно только ограничиться высказанным предположением о стадии процесса, когда склонение сторон к миру происходит.

Сомнение могло бы еще возникнуть и в другом направлении: из отмеченных фраз, помещенных в протоколах судебных заседаний, в точности не видно, от суда-ли исходит почин к примирению сторон, или же сами они заявляют суду о своем намерении окончить спор миром.

На самом деле здесь речь идет именно об инициативе суда или, точнее, председательствующего, предлагающего тяжущимся помириться.

Т. о. необходимо прежде разобраться в вопрос о том, допустима-ли по советскому гражданско-процессуальному законодательству процедура склонения сторон к миру и, если допустима, то в какую форму должна она вылиться, дабы не итти в разрез с требованиями законодательной политики и не нарушать классового подхода при расмотрении спорных дел.

Не предопределяя момента, когда начатый процесс подлежит прекращению за примирением тяжущихся, а равно не указывая, от кого может исходить инициатива к примирению, наш Гражданский Процессуальный Кодекс (БССР 1927 г). об окончании дела миром упоминает в двух местах, в ст. 18, устанавливающей, что полномочие дает представителю право на совершение всех процессуальных действий, кроме окончания дела миром и передачи дела в третейский суд. и в главе XXIII о третейских записях и решениях, определяющей, что всякий спор о праве гражданском между частными лицами, в том числе коллективами, может быть передан, по соглашению сторон, на разрешение третейского суда.

Собственно, важнейшее для занимающего нас вопроса значение имеет ст. 18 ГПК, так как из нее явствует допустимость прекращения миром дела, уже производящегося в суде. Что же, однако, представляет собой „мир“, о котором говорит приведенный закон и который кладется в основание решения о прекращении дела дальнейшим производством? Несомненно, это—договор, соглашение, в силу которого стороны обязуются устранить спорность данного правоотноше-

ния посредством взаимных уступок. В каждом имущественном праве, ведь, различаются два момента: субстанциальный, определяющий его содержание и формальный, указывающий на охранение права,--как выражается ст. 1 нашего Г.К.,--законом, на исковую защиту. Там, где принцип диспозитивности действует во всей чистоте и об'еме, граждане властны распоряжаться своими имущественными правами по своему усмотрению и вместе с тем пользоваться или не пользоваться своими процессуальными правами. Однако, если прежняя вера в то, что процессуальные законы, регулирующие ход гражданского процесса, относятся к праву частному, сильно поколеблена в большей части буржуазного мира,--то, естественно, в Советском государстве она должна была окончательно утратить всякий практический смысл. Поэтому отказ стороны от принадлежащих ей прав и судебной защиты их допускается, в силу ст. 2 нашего Гражданского Кодекса, лишь под бдительным контролем суда *).

Мировое же соглашение есть ничто иное как договор о взаимных уступках сторон относительно их имущественных прав и, следовательно, заключает в себе элемент отказа от последних, правда еще не проверенных судом. Поэтому „принять“ подобный отказ,--говоря словами Г.П.К. (ст 2), суд может не иначе, как взвесив положение вещей, ибо он призван, по силе ст. 5 того же кодекса, всемерно стремиться к уяснению действительных прав и взаимоотношений тяжущихся. **)

Отсюда вытекает, что было бы противно принципам Советского гражданского процесса, если бы суд прекратил дело за примирением сторон, не выслушавши их об'яснений по существу и не ознакомившись с обстоятельствами спора.

Отсюда, далее, ясно, что предпринимаемые до судебного исследования дела примирительные попытки представляются неуместными и беспочвенными.

С другой стороны мы не находим в нашем Гражданском Процессуальном Кодексе прямого ответа на вопрос о том, в праве ли сам суд склонить стороны к миру.

Но, несмотря на такое отсутствие нормативних определений, право гражданства этой процедуры в нашем исковом производстве все более укрепляется. Очевидно, существуют весьма сильные жизненные потребности, подсказывающие необходимость вмешательства суда и в эту область, раз процедура склонения тяжущихся к миру установилась, если и не вопреки основным началам Советского гражданского процесса, то все же самостоятельно, помимо прямых указаний закона. Однако, то обстоятельство, что в этом отношении недостает текстуальной опоры заставляет суды укрываться за общие фразы, как, например, за фразы „в виду состоявшегося примирения сторон“ или „за примирением тяжущихся“, которые не поднимают завесы над тем, как происходило примирение и не дают возможности усмотреть, кто является инициатором состоявшегося примирения. Фактически в 99 случаях из ста им является, конечно, председательствующий в суде, а в оправдание этого акта приводится в решениях ссылка на ст. ст. 2 и 5 ГПК.

*) Проф. Малицкий. Граж. Проц. Код. Сов. Республик, 1926 г., стр. VII.

**) По поводу ст. 2 ГК см. также мою статью: „Думкі аб неабходнасьці выданьня ГПК для Беларусі „в“ „Працы БДУ“, 1926 г, №11.

Из сказаного можно сделать следующие выводы.
Судья должен приступить к попытке склонить тяжущихся к миру только тогда, когда он убежден, что такой исход при данном положении вещей является наиболее целесобразным. Отсюда следует, что там, где иск представляется законом явно обоснованным и не допускающим никаких сомнений в отношении исполнимости искового требования, попытке примирения не должно быть места.

Далее, склонение к миру не должно превращаться в пустую формальность, делаться только для очистки совести. Во избежение же подобного уродливаго явления необходимо, как уже сказано, чтобы суд предварительно ознакомился со всеми обстоятельствами дела, а не действовал по наитию или на глазомер. Нужно, чтобы не только суд убедился в целесобразности окончания спора миром; нужно, чтобы и стороны прониклись тем же убеждением. В противном случае мир окажется только паллиативом, да притом таким, который породит лишь неудовлетворенность, раздражение, разочерование и в конечном итоге недовльство судом. *). Тем более склонение сторон к миру отнюдь не должно быть продиктовано стремлением к разгрузке суда. Хуже жэ всего обстоит дело, когда склонение к миру сопровождается большим или меньшим давлением на психику тяжущихся, несвободным иногда от угроз.

В Вюртемберге, напр., рассказывают о след. любопытном случае примирения сторон, который, — если ему даже присущ некоторый анекдотический оттенок, — предствляется довольно типичным в смысле характеристики того, как не следует склонять тяжущихся к миру. В камере одного участкового судьи, как-то раздавались душу раздирающие крики, ругань и проклятия, так что проходившие мимо камеры добрые граждане не на шутку перепугались. Когда же они в тревоге спросили стоявшего у входа камеры судебного рассыльного, чтотам такое происходит, последний с олимпийским спокойствием ответил: „Ничего особенного; г. судья склоняет тяжущихся к миру“.

Подобный метод примирения, конечно, не может быть рекомендован.

## II.

Итак прямых указаний на допустимость склонения сторон к миру в нашем ГПК не имеется. Меж тем процедура эта вполне жизненна и целесообразна, соответствует задачам законодательной политики и фактически уже пустила довольно глубокие корни в нашей гражданско-судебной практике.

При таких условиях представлялось бы уместным при предстоящем пересмотре гражданского процессуального кодекса БССР уделить внимание вопросу о склонении сторон к миру, давая ему определенные очертания в законе.

В виду чрезвычайной, принципиальной важности затронутого вопроса, не лишне будет, в интересах законоподготовительной работы, несколько остановиться и на прошлом опыте, и на нынешней постановке дела в Германии, не упуская при этом, понятно, из виду тех отличительных особенностей, которые характеризуют наш строй.

Примирительное производство знало дореволюционное русское законодательство. В ряде статей устава гражданского судопроизвод-

*) Дело в том. что на основании приказа настоящее примирение не достигается,—как верно заметил знаменитый французский процессуалист Гарсонэ.

ства возлагалась на единоличного судью и председательствующего в коллегиальном суде обязанность склонять сторон к миру, но не иначе, как по предварительном об'яснении с ними. При этом безусловной такая обязанность являлась в отношении судебно-мировых установлений, менее категоричной—в отношении т. н. общих судов **). Правда, сенат впоследствии признал, что несклонение тяжущихся к миру не может служить поводом к отмене решения. Но такое толкование явно шло в разрез с смыслом закона.

Идея предоставить широкое поле применения процедуре склонения сторон к миру со второй половины 19 столетия вообще находила большое сочувствие, но особенно горячо обсуждалась она, как в литературе, так и в законодательных сферах, с конца этого столетия. Она тесно связана с именем именитого процессуалиста, составителя австрийского устава гражданского процесса 1895 г., скончавшегося в прошлом году венского профессора Франца Клейна. В эту пору необходимость социализации гражданского процесса признавалась всеми. Гражданский процесс стали рассматривать как государственное учреждение благоустройства, в связи с этим выдвигая, как главнейшую цель и задачу его, желательность склонения тяжущихся к миру и мирного окончания споров. Правда, таким путем достигаемая развязка нередко представляется лишь „относительной справедливостью", но за то является вполне приемлемым для сторон выходом. Современный промышленный и торговый оборот, по словам Клейна, не столько заинтересован в том, чтобы выносимые по спорным делам решения соответствовали по всем правилам и статьям требованиям справедливости, сколько в том, чтобы они не затягивались: реквизит быстроты превалирует перед требованием выяснения материальной истины. Наряду с этим соображением выдвигался еще другой мотив, особенно ретиво поддерживавшийся во время империалистической войны и в послевоенный период,—мотив общеполитического свойства, заключающийся в требовании наивозможного сокращения государственных расходов, не исключая тех, которые идут на содержание судейского персонала. Из всех же законодательно-политических программ в Германии ни одна не нашла такого единодушного одобрения, как мысль о мирном улаживании гражданских споров, а в крайнем случае об обязательном третейском суде *) Казалось, что и режим экономии таким путем легче достигается в области юстиции и что этим способом предупреждается массовое накопление и затягивание дел.

Этой тенденции обязаны своим возникновением многочисленные суррогаты судов, создавшиеся в эпоху войны, во всех непосредственно задетых ею странах. Они, как грибы после дождя, выростали в виде разного рода третейских судов, примирительных камер, арбитражных комиссий и под самыми причудливыми наименованиями. Так, напр., возник особый суд под названием „третейского судилища по делам обувного товара" **). В конечном итоге, однако, финансовая цель,—режим экономии—связывавшаяся с организацией подобных заурядсудов достигалась только в чрезвычайно слабой степени, и весьма часто все дело сводилось лишь к перекладыванию денег из

---

*) Уст. Гр. Суд. ст. ст, 70, 177. 337.

**) Макс Рюмелин. Политика права и доктрина (по немецки). 1926 г. стр. 56.

***) Т. н. „Schuhwarenschiedsgericht". См. Nussbaum. Das neue deutsche Wirtcshaftsrecht 1922, стр. 114, прим 1.

одного кармана в другой или, точнее говоря, к перенесению ассигнований от одних учреждений на вновь организованные.

Тем не менее, в основе стремления создать примирительное производство лежало здоровое зерно, и оно не пропало даром. Германская процессуальная новелла 1924 г. ввела обязательное примирительное производство по всем делам, подсудным амтсгерихтам (участковым судам) *). Ст. 495-а германского устава гражданского судопроизводства определяет: „Пред'явлению иска должно предшествовать примирительное производство“ (1), которое, как полагают, явится солидным средством для дешевого и быстрого улаживании гражданских споров, в то же время избавляя судью от необходимости соблюдения целого ряда неизбежных в обыкновенном процессе формальностей и сосредоточивая его внимание на социально-хозяйственном значении данного спора**).

Но независимо от этого, германский устав гражданского судопроизводства устанавливает правило, в силу которого суд в любой стадии процесса в праве предложить сторонам уладить спор или отдельные пункты его миром или же в целях примирения отослать их к назначенному или самими сторонами выбранному судье*).

Полезность и целесообразность подобного производства не может быть отрицаема. Но такая постановка дела приобретает усиленный интерес в стране, где роль судьи не отделима от известных политических задач в смысле содействия переустройству общества на принципах социализма***).

*Проф. Гредингер.*

## ЗЛАЧЫННАСЬЦЬ У БССР ****)

„Праблема злачынства не перастае зыходзіць з старонак юрыдычнай літаратуры, а штодзённыя газэтныя зьвесткі аб здарэньнях“ складаюць адну з сумных старонак. Бліжэй прыглядваючыся да гэтых штодзёных напамінкаў і сыстэматызуючы іх, атрымоўваем доўгую галярэю тыповых злачынцаў—прафэсыяналаў: забойцаў, рабаўнікоў, ашуканцаў, хуліганаў і г. д., якія запісваюць на старонках гісторыі свае імены—хто крывёю, хто гразёю, а хто золатам. „То крадучыся, бяз шуму і ціха, то ўмела з палам імкнецца да нажывы і лёгкім барышом лісьціва ўціраючыся ў поўнае давер'е сваіх ахвяр, то ўрываючыся бурна і шумна, узброеная з ног да галавы „злачынnасьць“ робіць сваю грозную справу і зьбірае ў свае жытніцы тое, чаго яна ніколі ня сеяла*****). Не датыкаючыся індывідуальных асабліваcьцяй і псыхалёгіі „гэрояў“, у шэрагу нарысаў маем на ўвазе па пераважнасьці з дапамогаю крымінальнай статыстыкі, шляхам пабудаваньня розных камбінацыйных табліц, тых-жа лічбовых падсумаваньняў, якія зьбірае, усюды існуючы, вучот злачынства, прадставіць колькасныя і якасныя зьмены яе ў межах БССР. Вучот зла

*) Срв. мои „Думкі“; Працы БДУ 1926 г. № 11

**) Герм. устав гражд судопр., изд. Баумбаха, 1926, стр. 458—459.

***) См. § 296 Германск. уст. гражд. судопр.

****) Даклад прачытаны ў сацыяльна-крыміналёгічнай сэкцыі Габінэту па вывучэньню асобы і злачынства пры Б. Дз. У.

*****) „Злачынны мір Масквы“.

чынства правадзімы, з аднаго боку органамі дазнаньня, аз другога—судовымі ўстановамі, папаўняючы адзін аднаго, дае магчымасьць устанавіць як тэмп росту, так і каэфіцыэнт злачыннасьці.

## Рух злачыннасьці.

За апошнія тры гады ў злачыннасьці БССР адбыліся досыць значныя зьмены, якія абумоўліваюцца вырашэньнем продажу сьпірытусных напіткаў, а з другога боку адбілася зьмена законадаўства аб падсуднасьці цэлай катэгорыі спраў (лесарубачных, самагоначных).

Агульныя паказальнікі росту злачыннасьці могуць быць паданы ў наступных даных:

| Гады | Паступіла спраў. | | | | | | Зарэгістравана вышукам і міліцыяй | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У Народныя суды | | | | У Вышэйшы і акруговыя суды | | Усіх злачынстваў | | За выключэньнем самагоншчыкаў | |
| | Усяго спраў | | За выключэньнем ласарубачн. | | | | | | | |
| | Абс. | Адн. | Абс. | Адн. | Абс. | Адн. | Абс. | Адн. | Абс. | Адн. |
| 1924 . | 152143 | 100 | 72243 | 100 | 4175 | 100 | 59101 | 100 | 36180 | 100 |
| 1925 . | 93129 | 61 | 84811 | 117 | 4856 | 116 | 67212 | 114 | 47112 | 130 |
| 1926 . | 96437 | 63 | 89437 | 123 | 7556 | 180 | 72734 | 123 | 56379 | 155 |

Прыведзеныя даныя паказваюць агульнае павышэньне злачынстваў, як па колькасьці спраў, так і па колькасьці злачынстваў, зарэгістраваных вышукам і міліцыяй. Толькі агульная колькасьць спраў, паступіўшых у Нарсуды ў 1925 г., стала меншая параўнальна з 1924 г., што тлумачыцца зьменай падсуднасьці лесарубачных спраў, якія перадаины ў адміністрацыйныя органы. Зьдзіўляе сваёй высатою павышэньне спраў у Акруговых судох (на 80 проц. параўнальна з 1924 г. і на 64 проц. параўнальна з 1925 г.) Тут мела сваім адбіткам прыбліжэньне акруговых судоў да насельніцтва, ў сувязі з чым павысілася тэхніка справаводзтва дазнаньняў і вядзеньне сьледзтваў. Самы тэмп павышэньня колькасьці спраў, якія паступілі ў акруговыя суды ў 1926 г., досыць высокі. У той час, як у сярэднім, павышэньне колькасьці паступіўшых спраў і зарэгістраваных злачынстваў можа быць выражана як адносіна 100 : 121 : 136, а ў Акруговых судох, як адносіна 100 : 116 : 180 з тае прычыны, што ў акруговых судох разглядаюцца справы больш сур'ёзнага характару, неабходна выявіць, якія-ж злачынствы ў сапраўднасьці падняліся, якія панізіліся.

| Злачынствы | Паступіла спраў у судовыя ўстановы | | Зарэгістравана Вышукам і Міліцыяй. | | Проц. паступленьня спраў у суд. ўстановы. | | Проц. зарэгістраваных Вышукам і Міліцыяй | | Проц. 1926 г. к 1925 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | 1926 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1925 г. | 1926 г. | Паступіла спраў у суд. ўстановы | Зарэгістравана вышукам і міліцыяй |
| I. Дзяржаўн., супроць парадку кіраваньня і гаспад | 83985 | 30067 | 25675 | 23421 | 347 | 288 | 382 | 322 | 884 | 912 |
| у тым ліку самаўпр. | 7881 | 7473 | — | — | 80 | 71 | — | — | 947 | — |
| II. Супроць асобы | 42220 | 47302 | 8400 | 12115 | 431 | 453 | 125 | 166 | 1123 | 1443 |
| у тым ліку Забойства | 904 | 1287 | 1317 | 978 | 09 | 12 | 19 | 14 | 1424 | 743 |
| у тым ліку Пабоі | 23795 | 27133 | 3752 | — | 243 | 260 | 55 | — | 1140 | — |
| у тым ліку Хуліганства | 2285 | 1225 | — | 6022 | 24 | 12 | — | 83 | 536 | — |
| III. Маемасныя | 18566 | 20400 | 28850 | 28405 | 189 | 195 | 429 | 391 | 1099 | 985 |
| у тым ліку Разбоі і рабункі | 627 | 808 | 1345 | 1043 | 06 | 08 | 20 | 14 | 1289 | 776 |
| у тым ліку Пакража | 12221 | 13156 | 19238 | 20270 | 125 | 126 | 287 | 279 | 1077 | 1054 |
| у тым ліку Ашуканства | 1122 | 1206 | 1791 | 2481 | 12 | 12 | 25 | 34 | 1075 | 1386 |
| IV. Службовыя | 3184 | 5677 | 3968 | 5340 | 33 | 57 | 59 | 73 | 1877 | 1346 |
| у тым ліку Растраты | 949 | 1846 | 1531 | 1988 | 09 | 18 | 18 | 27 | 1945 | 1615 |
| у тым ліку Хабарніцтва | 509 | 649 | 631 | 464 | 05 | 06 | 09 | 06 | 1275 | 735 |
| V. Іншыя | 30 | 714 | 319 | 3453 | 00 | 07 | 05 | 48 | 2380 | 10823 |
| Усяго з самагон. | — | — | 67212 | 72734 | 100 | 100 | 100 | 100 | — | 1550 |
| Усяго без самагон. | 97985 | 104460 | 47112 | 56379 | 100 | 100 | 100 | 100 | 1064 | 1230 |

Процантныя разьмеркаваньні злачынстваў, як па даных вышуку так і па даных аб паступленьні спраў, хістаецца, але ў хістаньні процантаў па тых і іншых даных прыкмячаецца некаторае, як быццам -бы супярэчаньне, якое тлумачыцца тым, што крымінальны вышук міліцыя ўлічваюць злачыннасьць данага моманту, сягодняшняга дню, а судовыя ўстановы ўлічваюць дробныя правапарушэньні па момантах блізкіх да іх учыненьня, а больш сур'ёзныя, у выніку правядзеньня дазнаньня або папярэдняга сьледзтва, паступаючы такім шляхам у судовыя ўстановы мінімум праз шэсьць месяцаў пасьля ўчыненьня злачынства.

Зьвяртаючы ўвагу па тых і іншых даных агульнае павышэньне злачынстваў супроць асобы, значна ўзросшыя ў 1926 г. (па даных вышуку на 44 проц.), але забойствы панізіліся (на 25,7 проц.). Маемасныя злачынствы ў цэлым к данаму моманту зьніжаюцца, галоўным чынам разбоі і грабяжы (на 22 проц.); пакражы-ж некалькі павісіліся (на 25 проц.); ашуканства ўзрасло больш; падняліся таксама службовыя злачынствы, у асаблівасьці-ж растраты. Панізіліся злачынствы контр-рэвалюцыйныя (каля 10 проц.)

## Гарадзкая і сельская злачыннасьць.

Злачыннасьць рэзка адрозьніваецца па мясцовасьці ўчыненьня, у залежнасьці ад асабістых умоў жыцьця гарадзкой і сельскай мясцовасьці. Пры разгледжаньні злачынства гарадзкога і сельскага насельніцтва паўсюдна прыкмячаецца больш павышаная злачыннасьць гарадоў. Па цэламу шэрагу досьледаў злачыннасьць гарадоў у адносінах на 100.000 насельніцтва акрэсьліваецца лічбай 134, злачыннасьць-жа сельскага насельніцтва—96. У Расіі ў 1897—1904 г. на 10.000 адпаведнага насельніцтва прыходзілася ў гарадох 97 асуджаных, а ў паветах—37. Па нашых даных у БССР ў 1925--26 г. г. у акруговых гарадох на 10.000 насельніцтва прыходзіцца ў сярэднім--266 злачынстваў, зарэгістраваных вышукам і міліцыяй, у сельскіх мясцовасьцях--131, г. зн. тэмп злачыннасьці гарадоў у два разы вышэй, чым у сельскіх мясцовасьцях, але ў апошніх якасна злачыннасьць перавышае гарадзкую.

Возьмем некалькі лічбаў аб разьмеркаваньні злачынстваў, зарэгістраваных вышукам, міліцыяй НКУС БССР па мясцовасьцях:

| Найменьне злачынстваў | У проц. да агульнага ліку | | | | На 10.000 насялен. за 1926 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Акр. гарад. | | Іншыя месцы | | Акр. гар. | Іншыя месцы |
| | 1925 г. | 1926 г. | 1925 г. | 1926 г. | | |
| Пераважваючае ў гарадох: | | | | | | |
| Супроць парадку кіраваньня . . . . | 8,0 | 9,4 | 7,0 | 9,0 | 25 | 14 |
| Растраты . . . . . . | 3,5 | 3,4 | 2,0 | 2,6 | 9 | 4 |
| Пакражы . . . . . . | 56,0 | 49,5 | 37,0 | 23,7 | 132 | 37 |
| Ашуканства . . . . | 6,0 | 5,0 | 3,0 | 3,0 | 15 | 5 |
| Разам . . . . . | 73,5 | 67,8 | 49,0 | 383 | | |
| Пераважваючыя ў іншых мясцовасьцях: | | | | | | |
| Хабарніцтва . . . | 0,6 | 0,2 | 1,3 | 0,7 | 0,7 | 1,1 |
| Іншая маемасьць . | 3,0 | 9,2 | 4,0 | 11,6 | — | — |
| Канакрадзтва . . | 3,4 | 0,9 | 6,0 | 2,3 | 2,4 | 3,7 |
| Забойствы . . . . | 1,3 | 0,5 | 3,2 | 1,5 | 1,4 | 2,4 |
| Рабункі . . . . . | 2,0 | 0,9 | 3,0 | 1,4 | 2,0 | 2,3 |
| Падпалы . . . . | 0,7 | 0,3 | 5,0 | 2,9 | 0,8 | 4,7 |
| Іншыя . . . . . . | 15,5 | 20,2 | 28,5 | | | |
| РАЗАМ . . . . . | 26,5 | 322 | 51,0 | 41,3 | | |
| УСЯГО . . . | 100 | 100 | 100 | 100 | | |

Нязьменна паўтараецца з году ў год адно зьявішча, што злачыствы менш важныя супроць парадку кіраваньня, растраты, пакражы і ашуканства складаюць спэцыфічныя гарадзкія злачынствы, а хабарніцтва, забойствы, канакрадзтва, рабункі і падпалы (г. зн. больш сур'ёзныя) часьцей учыняюцца ў сельскіх мясцовасьцях. Сапраўды, умовы жыцьця гарадоў з інтэнсыўнымі зносінамі, разнастайнасьцю

самога жыцьця, б'ючага крыніцай, робіць больш магчымым усякія стыкі. Больш разьвіты гандлёвы зварот учашчае ашуканства, бязладзьдзе на вуліцах і рынках аблегчвае фармальныя пакражы, а застаўленьне кватэр бяз прыгляду, высачанае прафэсыяналамі—зладзеямі, дае ім у рукі верную дабычу.

Злачынствы ў вёсцы маюць некалькі іншую афарбоўку. Ужо даўно заўважана, што забойствы, цялесныя пакалечаньні, канакрадзтвы, падпалы, па пераважнасьці, вясковыя злачынствы. Адны з іх характарызуюцца грубасьцю і выклікаюцца помстаю, а ўмовы хаваньня каня ў вёсках (стайні без запораў, начлег без вартаўніка) аблягчае ўчыненьню канакрадзтва. У апошні час у БССР заўважваецца асабліва інтэнсыўнае разьвіцьцё ў вёсках забойстваў і хуліганства: першае ўзьнікае на грунце сямейных непаразуменьняў, зямельных падзелаў і ў большасьці адбываецца на папойках і сямейных традыцыйных сьвятах, другія-ж выключна на грунце п'янства.

## Узровень злачыннасьці і геаграфічнае падзяленьне.

У відах вывучэньня геаграфічнага разьмеркаваньня злачыннасьці ў БССР з аднаго боку, і ступені насычанасьці акруг, з другога боку, зьвернемся да адносіны ліку для паступіўшых у судовыя ўстановы і ліку злачынстваў, зарэгістраваных вышукам і міліцыяй на 10000 насельніцтва, адпаведных акруг, за 1925—26 г. і гэтым самым спрабуем вырашыць пастаўленае пытаньне:

На 10.000 насельніцтва:

| Акругі. | Паступіла спраў | | Зарэгістравана злачынстваў | |
|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | 1926 г. | 1925 г. | 1926 г. |
| Бабруйская . . | 237 | 262 | 113 | 229 |
| Барысаўская . . | 228 | 246 | 85 | 117 |
| Віцебская . . | 228 | 245 | 144 | 209 |
| Калінінская . . | 156 | 163 | 73 | 122 |
| Менская . . | 222 | 248 | 136 | 184 |
| Магілёўская . . | 203 | 204 | 90 | 129 |
| Мазырская . . | 264 | 258 | 96 | 120 |
| Аршанская . . | 211 | 198 | 119 | 209 |
| Полацкая . . | 234 | 204 | 133 | 157 |
| Слуцкая . . | 252 | 281 | 152 | 168 |
| Усярэднім па БССР . | 222 | 248 | 118 | 169 |

Па ўзроўню злачыннасьці на 10.000 насельніцтва акруг БССР могуць быць разьмешчаны гэтак: Бабруйская, Віцебская, Аршанская, Менская, Слуцкая. Полацкая, Магілёўская, Калінінская, Мазырская і Барысаўская, гэта па даных вышуку і міліцыі. Па колькасьці паступіўшых спраў расстаноўка акругаў, за выключэньнем Магілёўскай і Менскай, атрымоўваецца некалькі іншая, што тлумачыцца наплывам у суды гэтых (рэшты) акруг спраў малаважнага характару, а таксама лесарубачных.

Для яснасьці малюнку аб характары злачынстваў па акругах прывядзем даныя па галоўных відах злачынстваў як у абсалютных вялічынях, так і ў адносінах на 10.000 насельніцтва, зарэгістраваных вышукамі міліцыяй.

| Акругі | Забойствы | | | | Грабяжы | | | | Пакражы | | | | Ашуканствы | | | | Хуліганства | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | | 1926 г. | | 1925 г. | | 1926 г. | | 1925 г. | | 1926 г. | | 1925 г. | | 1926 г. | | 1926 г. | |
| | Абс. | На 10 т. насельн. | Абс. | На 10 т. насельн | Абс. | На 10 т. насельн | Абс. | На 10 т. насельн | Абс. | На 10 т. насельн. | Абс. | На 10 т насельн. | Абс. | На 10 т. насельн. | Абс. | На 10 т. насельн. | Абс. | На 10 т. насельн. |
| Бабруйская. . | 206 | 4 | 160 | 3 | 200 | 4 | 231 | 4,4 | 2727 | 55 | 3156 | 60 | 209 | 4 | 339 | 6,4 | 1375 | 26 |
| Барысаўская. . | 88 | 2 | 71 | 2 | 74 | 2 | 64 | 2 | 1333 | 35 | 1257 | 35 | 152 | 4 | 136 | 4 | 295 | 8 |
| Віцебская. . . | 219 | 4 | 154 | 3 | 251 | 4 | 162 | 3 | 2905 | 49 | 3317 | 57 | 392 | 7 | 479 | 8 | 918 | 16 |
| Калінінская. . | 106 | 3 | 72 | 2 | 70 | 2 | 58 | 1,5 | 1080 | 26 | 1029 | 27 | 71 | 2 | 153 | 4 | 352 | 9 |
| Менская . . . | 179 | 4 | 133 | 3 | 142 | 3 | 115 | 2 | 3221 | 54 | 3091 | 57 | 264 | 5 | 415 | 8 | 1044 | 19 |
| Магілёўская. . | 138 | 3 | 96 | 2 | 148 | 3 | 126 | 2,4 | 2196 | 42 | 2386 | 45 | 146 | 3 | 158 | 3 | 369 | 7 |
| Мазырская . . | 58 | 2 | 45 | 1,4 | 43 | 1 | 53 | 1,7 | 1236 | 40 | 1283 | 39 | 84 | 3 | 148 | 4,3 | 242 | 7 |
| Аршанская . . | 171 | 4 | 104 | 3 | 132 | 3 | 70 | 2 | 1721 | 42 | 2008 | 48 | 189 | 5 | 258 | 6 | 748 | 18 |
| Полацкая . . . | 63 | 2 | 73 | 2 | 107 | 3 | 49 | 1,5 | 1261 | 42 | 1131 | 35 | 132 | 4 | 200 | 6 | 442 | 14 |
| Слуцкая . . . | 89 | 3 | 70 | 2 | 178 | 2 | 47 | 6,1 | 1497 | 56 | 1612 | 52 | 152 | 5 | 195 | 6 | 323 | 11 |
| Па БССР. . | | | | 2,3 | | | | 2,3 | | | | 47 | | | | 6 | | 14 |

Прыведзяныя даныя паказваюць, што найбольш цяжкія віды злачынстваў пашыраны ў Бабруйскай, Віцебскай, Менскай і Аршанскай акрузе. Пры чым у той-жа час трэба адзначыць, што з агульным паніжэньнем ліку рабункаў, ва ўсіх акругах, адзначаецца некаторае павышэньне і найбольш інтэнсыўнае разьвіцьцё іх у Бабруйскай акрузе. Разьвіцьцё хуліганття дасягае найбольшай ступені ў тэй-жа Бабруйскай акрузе, а таксама ў Менскай і Аршанскай. Пакражы і ашуканствы з агульным павышэньнем ва ўсіх акругах, больш павышаны і больш інтэнсыўны ў Віцебскай і Аршанскай.

Дзеля спраўкі возьмем даныя даваеннага часу з аднаго боку і даных па РСФСР. Па даных даваеннага часу ў межах б. Менскай губ., прыходзілася асуджаных акруговымі судамі ў сярэднім за пэрыяд 1890--1894 на 100.000 насельніцтва--43, у Віцебскай 53,5, у Магілёўскай--31,7, у сярэднім-жа--42,7, а цяпер за год у сярэднім на 100000 насельніцтва прыходзіцца асуджаных акруговымі судамі БССР --30. Рабіць параўнаньне адных з другім ня прыходзіцца, але яны ў вышэйшай меры паказальны. Па даных РСФСР за 1925 г. на 10000 насельніцтва прыходзіцца зарэгістраваных--213 злачынстваў, а ў БССР за той-жа год--118.

Асноўныя тэндэнцыі руху злачыннасьці ў БССР 1926 г. выяўляюцца ў павышэньні малаважных праванарушэньняў і ў паніжэньні цяжкіх відаў злачыннасьці. Крывая асабовых злачынстваў ў 1926 г. паднялася. Адзначаецца ўстойлівасць лічбаў маемаснай злачыннасьці. Важна у далейшым выкрыць сацыяльны і ўзростны склад парушнікаў крымінальнага закону ў БССР, каб выявіць у якой меры ўдзельнічаюць у злачыннасьці тыя ці іншыя соцыяльныя групы насельніцтва, у якім пераважна ўзросьце і г. д, але выяўленьне гэтых умоў разьвіцьця злачыннасьці складаюць тэму наступнага нарысу.

*С. Слупскі.*

## АБ АБАВЯЗКОВЫХ ПАСТАНОВАХ.

Парадак выданьня абавязковых пастаноў рэгулюецца пастановай ЦВК і СНК БССР за 10 ліпеня 1925 г. аб парадку выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі абавязковых пастаноў і аб адміністрацыйным пакараньні за іх парушэньне (З. З. БССР за 1925 г. № 31, арт. 288).

Аднак, існуючае законадаўства не дае азначэньня паняцьцабавязковай пастановы і ўстанаўляе толькі, як агульную ўмову, кая абавязковыя пастановы выканкомаў не пашыраліся за межы іх камбпэтэнцыі і выдаваліся ў разьвіцьцё існуючых законаў і палажэньняў.

Гэтыя агульныя ўмовы, якім павінны здавальняць абавязковыя пастановы, адпавядаюць прыродзе абавязковай пастановы, як адміністрацыйнага распараджэньня, якое значна розьніцца, па моцы свайго дзеяньня, ад выдаваемых законадаўчай уладай законаў, але яны ня выказваюць юрыдычнай сутнасьці абавязковай пастановы, як пастановы, адрозьніваемай ад іншых адміністрацыйных распараджэньняў.

Паміж тым, азначэньне паняцьця абавязковае пастановы мае ня толькі тэарытычную цікавасьць, але і практычнае значэньне дзеля таго, што дакладная фармуліроўка гэтага паняцьця дасьць магчымасьць устанавіць круг тых пытаньняў, якія могуць складаць зьмест абавязковай пастановы, а таксама азначаць умовы, якім абавязковая пастанова павінна здавальняць, і гэтым адсунуць тыя памылкі, якія так часта сустракаюцца ў гэтай галіне.

Выданьне абавязковай пастановы мае на мэце забесьпячэньне інтарэсаў грамады шляхам устанаўленьня выканаўчай уладай прымусовых норм, якія рэгулююць парадак у розных галінах гаспадарчага і культурнага жыцьця, законам спэцыяльна не прадугледжаны.

Паказанае прызначэньне абавязковай пастановы азначае і яе сутнасьць: абавязковая пастанова ёсьць адміністрацыйнае распараджэньне, якое ў межах прадастаўленай адміністрацыйнай уладзе кампэтэнцыі ўстанаўляе беспасрэдна законам не прадугледжаны парадак у галіне гаспадарчага і культурнага жыцьця пад страхам пакараньня за яго парушэньне.

З гэтага вынікае, што абавязковая пастанова, з аднаго боку, ня можа датыкацца гэтакіх пытаньняў, рэгуляваньне якіх органам выканаўчай улады права не прадастаўлена, а з другога—траціць сваю прыроду, набываючы неналежны да яе характар зацьверджаньня законаў у тых выпадках, калі зьмяшчае ў сабе толькі пераклад тэксту закону, абавязковасьць выкананьня якога не патрабуе гэтакага зацьверджаньня.

Да гэтага трэба далучыць, што пераклад тэксту закону, як гэта часта мае месца ў сапраўднасьці, ня толькі скажае прыроду абавязковае пастановы, але мае і практычна шкадлівае значэньне дзеля таго, што складае ў насельніцтве прадстаўленьне, што закон мае моц ня сам па сабе, але па сіле зацьверджаньня яго мясцовай уладай, якая акалічнасьць можа сказіць прадстаўленьне насельніцтва аб моцы пастаноў цэнтральнай улады наогул.

Выходзячы з вышэй паказаных меркаваньняў аб прыродзе абавязковай пастановы, магчыма ўстанавіць наступныя асноўныя ўмовы, якім яна павінна здавальняць:

1. Поўная адпаведнасьць прадастаўленай выканкомам кампэтэнцыі і недапушчальнасьць вырашэньня гэтакіх пытаньняў, якія выходзяць за межы іх веданьня, як напрыклад, пытаньняў крымінальнага і грамадзянскага права.

2. Несупярэчаньне закону, як у адносіне зьместу ўстанаўляемых абавязковай пастановай правіл, так-і ў адносіне прадугледжваемага за іх парушэньне пакараньня.

3. Недапушчальнасьць датычэньня тых пытаньняў, якія спэцыяльна прадугледжаны законам ці пастановай цэнтральнага органу, і простага перакладу тэксту закону ці распараджэньня цэнтральнай улады.

4. Мэтазгоднасьць і абачлівасьць адносна ўстанаўленьня агранічэньняў для грамадзян, якія не выклікаюцца інтарэсамі грамады.

5. Вызначэньне разьмеру пакараньня за парушэньне абавязковай пастановы тымі спосабамі, якія ўстаноўлены законам.

6. Дакладная і зразумелая для ўсіх фармуліроўка правіл, якая адсоўвае магчымасьць сумненьняў пры іх прыстасаваньні.

Практыка сьведчыць, аднак, што выдаваемыя выканкомамі аба-

вязковыя пастановы не заўсёды здавальняюць паказаным асноўным патрабаваньням.

У якасьці прыкладаў, якія даюць малюнкі значных недахопаў абавязковых пастаноў, магчыма паказаць на наступныя выпадкі:

1) Абавязковая пастанова акрвыканкому аб рэгістрацыі аўта-мота-машын абавязвае ўладальнікаў гэтых машын прадставіць у Заходняе Акруговае Кіраўніцтва Мясцовага Транспарту НКШЗ адпаведныя аб машынах весткі па прадугледжанай пастановай форме і атрымаць на іх ад паказанага Кіраўніцтва адпаведныя пасьведчаньні, а таксама паведаміць Кіраўніцтва аб атрыманьні машын, аднаўленьні іх, зьменах і тэхнічным стане, зьмене ўладароў і інш.

Згодна пастановы Прэзыдыуму ЦВК СССР за 13 лістапада 1925 г. аб зьмене і дапаўненьні палажэньня аб НКШЗ вучот аўта-мота транспарту ўваходзіць у круг веданьня органаў НКШЗ, якія дзеля гэтага толькі і могуць выдаваць адпаведныя правілы і інструкцыі.

Вышэйпамянёная абавязковая пастанова выдана ў мэтах праўдзеньня вучоту аўта-мота-машын, што, як вышэйпаказана, уваходзіць у круг веданьня органаў НКШЗ, да ліку якіх акрвыканкомы не належаць, дзеля чаго выданьне гэтакай абавязковай пастановы выходзіць за межы прадастаўленай акрвыканкому кампэтэнцыі.

2) Абавязковая пастанова аб захаваньні гігіены і папярэджваньні пажарнае небясьпекі ў мясцох скучанасьці людзей за паленьне ў забароненых мясцох і нядбайна кінуты акурак альбо запалкі прадугледжвае пакараньне штрафам у разьмеры 50 кап., пры чым спагнаньне гэтага штраф ўскладае на дзяржаўную пажарную варту ў адказных дзяржаўных, у выпадку-ж адмовы ад уплаты штрафу пажарнай варце ці адказнаму дзяжурнаму азначае спагнаньне штрафу ў разьмеры да 100 руб.

Права адміністрацыйнага пакараньня прадастаўлена законам выключна выканкомам і гарадзкім саветам, якія ня могуць, без перавышэньня сваей кампэтэнцыі, перакладаць гэтага права на іншыя органы, як пажарная варта ці міліцыя.

Акрамя таго, павялічэньне кары ў выпадку адмаўленьня ад уплаты патрабуемага пажарнымі прадстаўнікамі штрафу мае характар асабістага прымусу да выкананьня іх патрабаваньня аб уплаце штрафу, што супярэчыць парадку прымусовага выпаўненьня невыкананае добраахвотна адміністрацыйнае кары і можа шкодна адбівацца на інтарэсах грамадзян дзеля таго, што гэта прымусіць іх плаціць штраф нават тады, калі вымаганьне пажарных прадстаўнікоў зьяўляецца няправільным.

3) Абавязваньне, пад страхам адміністрацыйнага пакараньня прадстаўніцтваў і агэнцтваў каапэрацыйных, трэстыраваных і іншых прадпрыемстваў рэгістравацца ў 24-х гадзіны тэрмін у адміністрацыйным аддзеле акрвыканкому.

Згодна з выданым СНК СССР палажэньнем за 20 кастрычніка 1925 г. аб гандлёвай рэгістрацыі, органамі гэтай рэгістрацыі зьяўляюцца толькі народныя камісарыяты ўнутранага і замежнага гандлю і мясцовыя органы рэгуляваньня ўнутранага гандлю, да ліку якіх адміністрацыйныя аддзелы акрвыканкомаў не належаць (З. З. СССР за 1925 г., № 32, арт. 623).

Паводле арт. 22 і 25 вышэйпаказанага палажэньня аб гандлёвай рэгістрацыі, рэгістрацыя павінна быць зроблена асобамі, да гэ-



дага абавязанымі, у 2-х тыднёвы тэрмін з моманту наступленьня таго факту, які належыць да рэгістрацыі, пры чым парушэньне гэтага правіла цягне за сабой адказнасьць у крымінальным парадку.

З выкладзенага відаць, што вышэйпаказаная абавязковая пастанова супярэчыць закону з усіх бакоў, як з боку некампэтэнтнасьці адміністрацыйнага аддзелу акрвыканкому ў пытаньнях рэгістрацыі прадстаўніцтваў і агэнцтваў прадпрыемстваў, так і з боку ўстанаўленьня тэрміну рэгістрацыі і адказнасьці за яе невыкананьне.

4) Абавязковая пастанова аб барацьбе з патравамі ўстанаўляе правіла, што „ніякі выпадак патравы ня можа лічыцца ўважлівай прычынай“, і за свавольную патраву прадугледжвае пакараньне ў адміністрацыйным парадку.

Арт. 196 К. К. прадугледжвае наўмыснае зьнішчэньне ці пашкоджаньне чужой маемасьці і азначае за гэты ўчынак пакараньне пазбаўленьнем волі ці прымусовай працай на тэрмін да 1 году ці штрафам да 500 руб.

Такім чынам, наўмысная патрава, як адзін з віду пашкоджаньня чужой маемасьці, караецца ў крымінальным парадку, і значыць, устанаўленьне за патраву адміністрацыйнага пакараньня супярэчыць закону.

Дакладны сэнс арт. 196 К. К. прыводзіць да вываду, што закон карае толькі наўмыснае пашкоджаньне чужой маемасьці і пакідае беспакараным пашкоджаньне неасьцярожнае, якое, сьледам гэтага, можа пацягнуць за сабой толькі маемасную адказнасьць у парадку грамадзянскага суду.

З прычыны гэтага прызнаньне ўсякіх патраў караемым учынкам („ніякі выпадак патравы ня можа лічыцца ўважлівай прычынай“) супярэчыць арт. 196 К. К. і агульным пачаткам пакараньня ўчынкаў.

5) Абавязваньне дзяржаўных, каапэрацыйных устаноў і прыватных асоб у месячны тэрмін зьмяніць шыльды на расейскай мове шыльдамі на мове беларускай.

Пастанова 2-й Сэсіі ЦВК Саветаў БССР аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні нацыянальнай палітыкі прызнае раўнапраўнымі мовы ўсіх нацыянальнасьцяй, якія насяляюць тэрыторыю БССР, надаючы пераважнае значэньне беларускай мове толькі ў галіне зносін паміж дзяржаўнымі, прафэсіянальнымі і грамадзкімі ўстановамі.

З другога боку, за кожным грамадзянінам, да якой бы нацыянальнасьці ён не належаў, забясьпечана права і рэальная магчымасьць карыстацца сваёй роднай мовай ва ўсіх выпадках, не выключаючы і зносін з рознага роду ўстановамі і арганізацыямі Рэспублікі, пры чым апошнія ў гэткіх выпадках абавязаны карыстацца тэй мовай, якую ўжывае грамадзянін, які да іх зварочваецца.

Такім чынам, закон у адносіне грамадзян, якія насяляюць тэрыторыю БССР, не надае пераважнага значэньня ніводнай з чатырох моў, на якіх гаворыць насельніцтва Беларускай Рэспублікі і нават, наадварот, падкрэсьлівае права кожнага грамадзяніна ўжываць родную мову.

З гэтага вынікае, што вышэйпаказаная абавязковая пастанова яўна супярэчыць устаноўленым законадаўчай уладай мерапрыемствам па ажыцьцяўленьню нацыянальнай палітыкі.

6) Абавязваньне ўсіх без выключэньня грамадзян, якія маюць

коняй, дастаўляць іх у выпадку пажару ў распаражэньне пажарнага дэпо пад страхам адміністрацыйнага пакараньня штрафам і прымусовай працай на тэрмін да 3-х месяцаў.

Згодна з існуючымі на тэрыторыі БССР пастановамі ЦВК і СНК РСФСР за 21 верасьня 1921 г. і 4 красавіка 1923 г., да працоўнай і гужавой павіннасьцяй можа быць прыцягнута працаздольнае насельніцтва і гужавыя сродкі, з захаваньнем выняткаў, якія паказаны: у адносіне асоб—у 12 і 13 арт. Кодэксу Законаў аб Працы, а ў адносіне гужавых сродкаў—у пастанове НКП і ЎсеЦСПС за 17 сьнежня 1921 г. (З. З. РСФСР за 1922 г. № 54, арт. 685 і БССР за 1923 г., № 7 арт. 64).

У частковасьці, ад выкананьня працоўнай і гужавой павіннасьцяй бязумоўна вызваляюцца мужчыны старэйшыя за 45 г. і жанчыны старэйшыя за 40 г., а таксама асобы, якія не дасяглі 18 год.

Акрамя звальненьня ад працгужпавіннасьці па ўзросту, закон прадугледжвае шэраг іншых азнак, налічча якіх выключае магчымасьць прыцягненьня да выкананьня працоўнай і гужавой павіннасьці (арт. 13 Код. Зак. аб Працы).

Роўным чынам, і ў адносіне гужавых сродкаў, у частковасьці, адносна коняй, закон устанаўляе падрабязны пералік азнак, якія звальняюць уладальнікаў іх ад гужавой павіннасьці, як напрыклад, пэўны ўзрост каня, разьмер яго непрацаздольнасьці і інш. (З. З. РСФСР за 1922 г., № 1, арт. 9).

Ухіленьне ад выкананьня працоўнай і гужавай павіннасьці складае ўчынак, прадугледжаны арт. 126 К. К., які карае, па 1-ай сваёй часцы, прымусовай працай на тэрмін ня ніжэй аднаго тыдня, а значыць, ня вышэй 1 году.

Дзеля гэтага абавязковая пастанова, якая ўскладае абавязак яўкі з коньмі на ўсіх грамадзян, пад страхам штрафу ці прымус. працы на тэрмін да 3-х мес., без якіх-небудзь выняткаў у адносіне прыцягваемых да павіннасьці асоб і гужавых сродкаў, знаходзіцца ў супярэчнасьці з законам.

7) Абавязковая пастанова аб захаваньні лугавых удоб'яў забараняе веснавую пасьбу жывёлы на ўсіх лугавых удоб'ях акругі.

Існуючае законадаўства абмяжоўвае права карыстаньня маемасьцю ўладарам толькі аднэй умовай: неабходнасьцю адпаведнасьці карыстаньню сацыяльна-гаспадарчаму прызначэньню маемасьці.

Пры захаваньні гэтае ўмовы ўладар мае права распараджэньня маемасьцю паводле свайго погляду.

Пасьба жывёлы на належных да ўладара лугавых удоб'ях цалкам адпавядае гаспадарчаму прызначэньню гэтых удоб'яў, як крыніцы кармленьня жывёлы.

Дзеля гэтага выканком ня мае падставы для забароны пасьбы жывёлы на лугавых удоб'ях, тым больш, што права выданьня правілаў аб мерапрыемствах заахвочаньня і прынукі да масавага паляпшэньня на лугавых удоб'ях прадастаўлена толькі СНК.

8. Абавязковая пастанова аб санітарным і гаспадарчым становішчы памяшканьняў у камунальных дамох, пад страхам адміністрацыйнага пакараньня, абавязвае жыхароў кожны дзень рабіць уборку, праветрываньне і сыстэматычнае апаленьне займаемых імі пакояў і мясцоў агульнага карыстаньня, а таксама забараняе ў жылым памяшканьні сыстэматычнае мыцьцё і сушку бялізны і іншыя работы, выклікаючыя вільгаць, трыманьне парасяці, коз, курэй і іншай хат-

няй жывёлы, колку дроў, хаваньне апалу і скарыстаньне пакояў пад складачныя памяшканьні.

Правовыя ўзаемаадносіны наймальніка і наймадаўцы, у тым ліку і адносіны да ўзятай у наём маемасьці, складаюць галіну грамадзянска-правовых адносін, якія рэгулююцца законам (3-м падзелам ГК) і дагаворамі, дзеля чаго ня могуць устанаўляцца абавязковымі постановамі.

Сьледам гэтага, утрыманьне наймальнікам маемасьці ў неналежным стане (напр., забруджваньне і неапаленьне жыльлёвых памяшканьняў, мыцьця бялізны і інш. работы, выклікаючыя вільгаць), а таксама карыстаньне маемасьцю нязгодна з яе прызначэньнем (напр., скарыстаныя кватэры ў якасьці памяшканьня для жывёлы ці складачнага памяшканьня) могуць мець выключна грамадзянска-правовыя вынікі, але ніколі ня могуць пацягнуць за сабой адміністрацыйнае пакараньне.

Камунальная маемасьць, у якасьці прадмету адносін па найму, ня робіць з гэтага выключэньне.

Дзеля гэтага ўмовы карыстаньня камунальнай маемасьцю з боку наймальніка павінны быць, наколькі яны не прадугледжаны абавязковымі палажэньнямі закону, устаноўлены дагаворам паміж камунальным органам і наймальнікам.

У гэтай мэце аддзелы камунальнай гаспадаркі могуць апрацаваць падрабязныя правілы карыстаньня маемасьцю наймальнікам, якія правілы, аднак, будуць мець абавязковую моц ня самі па сабе, але пры ўмове згоды наймальніка прыняць на сябе прадугледжаныя гэтымі правіламі абавязкі пры заключэньні дагавору (у выпатку нязгоды наймальніка дагавор утворан ня будзе) ці ў працягу дзейнасьці раней утворанага дагавору на іншых умовах), у гэтым выпадку нязгода наймальніка ня можа адбіцца на моцы раней утворанага дагавору).

9) Абавязковая пастанова аб ахове грамадзкага парадку забараняе, пад страхам адміністрацыйнага пакараньня, прадастаўленьне памяшканьняў для мэты распусты, а таксама дапушчэньне яе ў гасьцініцах і іншых гэтага роду прадпрыемствах.

Зводніцтва і ўтрыманьне прытонаў распусты прадугледжаны арт. 171 КК, які ўстанаўляе за гэтакія ўчынкі пакараньне ў крымінальным парадку пазбаўленьнем волі ня ніжэй 3-х гадоў.

Такім чынам, забароненыя абавязковай пастановай учынкі спэцыяльна прадугледжаны крымінальным законам, дзеля чаго гэтае пытаньне не магло быць вырашана выканкомам шляхам выданьня абавязковай пастановы з устанаўленьнем за яе парушэньне адміністрацыйнага пакараньня

10) Абавязковая пастанова аб недапушчальнасьці ўчыненьня рэлігійных абрадаў у дзяржаўных установах забараняе ўчыненьне ў гэтых установах рэлігійных цэрамоній і зьмяшчэньне ў іх рэлігійных абрадаў з устанаўньнем адказнаці паводле арт. 124 К. К.

Паказаны ўчынак прадугледжан арт. 124 К. К., абавязковасьць выкананьня якога не залежыць ад пацьверджаньня яго мясцовай уладай, дзеля чаго гэтая абавязковая пастанова, якая прадстаўляе сабой толькі пераклад крымінальнага закону, зьяўляецца зусім непатрэбнай.

11) Абавязковая пастанова аб ахове грамадзкага парадку забараняе газардоўныя гульні з карыснай мэтай, з прадастаўленьнем адміністрацыйнаму аддзелу і райвыканкомам права даваць дазвол на гэтую гульню інвалідам.

Абавязковыя пастановы ня могуць датыкацца пытаньняў, якія складаюць выключна вобласьць прыватнага жыцьця грамадзян, і абмяжоўваць іх свабоду у тых выпадках, калі карыстаньне гэтай свабодай не зачапляе грамадзкага інтарэсу.

Гэткае становішча, напрыклад, будзе заўсёды мець месца ў тым, выпадку, калі газардоўная гульня выпадкова ўтвараецца ў прыватным доме, паміж знаёмых, для забавы.

Але грамадзкі інтарэс зачапляецца ў тых выпадках, калі газардоўныя гульні арганізуюцца ў мэтах дабываньня для арганізатара. барышу, сыстэматычна, іншымі словамі, калі арганізуецца ігральны дом, у якім могуць бываць асобы, друг для друга і для арганізатара невядомыя, і дзе сумленнасьць гульні нічым не забясьпечана.

Такім чынам, забарона газардоўнай гульні бязумоўна, безадносна да таго, пры якіх акалічнасьцях яна вытвараецца, зьяўляецца збытачным уціскам грамадзян, які не выклікаецца неабходнасьцю

Акрамя гэтага, значэньне ігральнага дому, як грамадзкага зла, не залежыць ад індывідуальных асаблівасьцяй яго арганізатараў, і гэтага значэньня ігральны дом ня страціць з прычыны таго, што ён утрымоўваецца інвалідам.

Значыцца, стаўшы на гэты пункт погляду, немагчыма знайсьці ніводнай падставы для дазволу інваліду арганізаваць ігральны дом наўпрэкі вымаганьня грамадзкага інтарэсу.

12) Абавязковая пастанова аб капітальным і бягучым рамонце домаўладаньняў абавязвае ўладараў зрабіць рамонт іх дамоў і ў якасьці вынікаў невыкананьня рамонту прадугледжвае прад'яўленьне іскаў для ўстанаўленьня факту безгаспадарчага ўтрыманьня дамоў у мэтах іх муніцыпалізацыі.

Выкананьне абавязковай пастановы павінна санкцыянавацца ўстанаўленьнем мер адміністрацыйнага пакараньня штрафам ці прымусовай працай, без чаго абавязковая пастанова траціць прымусовы характар і мае значэньне толькі ні для каго не абавязковага пажаданьня.

Што-ж датычыцца муніцыпалізацыі дому, які ўтрымоўваецца ў безгаспадарчым стане, дык гэты вынік мае месца па сіле закону і не патрабуе для свайго ажыцьцяўленьня выданьня абавязковай пастановы.

13) Абавязковая пастанова аб дні адпачынку і часе працы ў парыкмахарскіх адказнасьць за парушэньне прадугледжаных ей правіл устанаўляе наступных чынам: „у адносіне аховы працы наёмных рабочых у судовым парадку па 132 арт. КК і ў адносіне прыватных асоб у адміністрацыйным парадку грашоваму штрафу да 300 рублёў прымусовай працы да 3-х месяцаў“.

Паказаная фармуліроўка парадку адказнасьці выкладзена ў на толькі няяснай рэдакцыі, што прадстаўляецца вельмі трудным устанавіць сапраўдную думку аўтара. У частковасьці, зьўляецца незразумелым проціпалажэньне наёмных рабочых прыватным асобам і ўстанаўленьне для тых і другіх align рознага парадку адказнасьці.

Выкладзеныя найбольш паказальныя і часта сустракаемыя прыклады няправільных абавязковых пастаноў, якія выданы, з парушэньнем вышэйпаказаных асноўных умоў, сьведчаць аб тым, што ў гэтай галіне рэвалюцыйная законнасьць не заўсёды стаіць на належнай вышыні, а аднаўленьне законнасьці шляхам адмены незаконных абавязковых пастаноў ня можа ня мець сваім вынікам памяншэньне аўтарытэту ўлады намясцох.

*Кацін.*

# ЗАПРОДАЖ ПА ГРАМАДЗЯНСКАМУ КОДЭКСУ БССР.

Адзін з акруговых пракурораў БССР зьвярнуўся ў Народны Камісарыят Юстыцыі з пытаньнем аб тым ці дапусьцімы дагаворы запродажу па нашаму дзеючаму праву. Пры гэтым Акрпракурор паведаміў, што ў межах яго акругі заключаецца даволі многа запродажных на будоўлю, чаму і неабходна ўстанавіць круг праўных норм, прыстасаваных да гэтага роду дагавораў.

Маючы на ўвазе, што ў сілу абежніку НКЮ натарыяльныя канторы адмаўляюцца прыймаць к натарыяльнаму засьведчаньню дагаворы на запродаж будоўлі, з дагаворамі-ж запродажу іншых радоў маемасьці насельніцтва звычайна і не зьвяртаецца да натарыусаў, прадстаўляецца затруднішельным выявіць, наколькі ў сапраўднасьці часта сустракаюцца ў жыцьці ўгоды па запродажу.

Аднак, ужо самае запытаньне акруговага пракурора дае падставу лічыць пастаўленае пытаньне актуальным, што пацьвярджаецца між іншым і фактам дапаўненьня (у 1925 г.) грамадзянскага кодэксу РСФСР некалькімі артыкуламі, рэгулюючымі запродаж будовы.

У адзнаку ад грамадзянскага кодэксу РСФСР наш Грамадзянскі Кодэкс зусім ня мае правілаў, рэгулюючых запродаж.

Гэта апошняя акалічнасьць дае падставу сьцьвярджаць, нібы па грамадзянскаму кодэксу БССР зусім не дапускаюцца ўгоды запродажу наогул і запродажу будовы ў прыватнасьці, як не ўваходзячыя ў той пералік дагавораў, які ўстанаўляецца грамадзянскім кодэксам БССР. Выкладзеная думка высоўвае такім чынам тэорыю аб так званым numerus clausus [замкнуты пералік] дагавароў, якія дапусьцімы па нашаму Грамадзянскаму Кодэксу. Гэта значыць, што ўсякі дагавор, які асобна не прадугледжан абавязальным правам грамадзянскага кодэксу, ужо ў сілу аднэй гэтай акалічнасьці павінен быць прызнан недапусьцімым па нашаму праву, а ў выпадку заключэньня такога роду дагавору ен павінен быць прызнан несапраўдным.

Аднак, калі зьвернемся да крыніц нашага грамадзянскага права, то выстаўленае вышэй палажэньне аб замкнутым крузе дагавораў адпадзе.

Такой крыніцай нашага Г. К. зьяўляецца дэкрэт за 22 мая 1922 г „Об основных частных имущественных правах, признаваемых РСФСР охраняемых ее законами и защищаемых судами“ (С. У. 1922 г. № 36 ст. 423).

Прадастаўляючы грамадзянам прыватныя маемасныя правы вышэй зазначаны дэкрэт разьбівае гэтыя правы на дзьве групы:

а) рэчавыя правы і б) абавязальныя правы.

У адносінах да рэчавых правоў дэкрэт гэты прытрымоўваецца прынцыпу, што дапусьцімы толькі тыя рэчавыя правы, якія ўстаноўлены законам і што ўстанаўленьне іншых, законам не прадугледжаных, рэчавых праў недапусьціма.

У адносінах-жа праў абавязальных пэўна праводзіцца працілеглая правіла. Дэкрэт прама кажа: „даецца права заключэньня ўся-

кага роду не забароненых законам дагавораў, у тым ліку дагавароў маемаснага найму куплі-продажу, мены займу, якія дагаворы атрымоўваюць законную сілу і карыстаюцца судовай абаронай.

Выкладзенае палажэньне дэкрэту 1922 г. зусім ясна і ня робіць сумненьня ў тым, што пералік дагавораў, прадугледжаных грамадзянскім кодэксам БССР, не зьяўляецца вычэрпываючым. Ёсьць цэлы шэраг дагавароў, як, напрыклад, вэксальнае абавязацельства, дагаворы аб аўтарскім праве, дагаворы паклажы, перавозкі і інш,, якія адсутнічаюць у грамадзянскім кодэксе і прадугледжаны асобнымі законамі. Але маюцца і такія, аб якіх закон наогул маўчыць і тым ня менш ніхто не сумняваецца ў іх дапусьцімасьці. Як на яскравы прыклад гэтага апошняга роду дагавароў можна саслацца на дагавор камісіі. Яшчэ вельмі нядаўна зьявіліся ў грамадзянскіх кодэксах БССР, РСФСР і УССР асобныя главы, якія выкладаюць падрабязныя правілы аб дагаворы камісіі. Да гэтага-ж часу ў заканадаўствах саюзных рэспублік (за выключэньнем УССР) зусім адсутнічаў упамінак аб гэтым дагаворы. І тым ня менш штодзенна заключалася многа дагавораў камісіі, і судом не прыходзіла ў галаву прызнаваць не сапраўднымі толькі па аднэй тэй адзнацы, што гэты дагавор не ўваходзіць у пералік дагавораў Г. К.

Зьвяртаючыся да пытаньня аб дагаворы запродажу, мы павінны перш -за ўсё адзначыць, што адносна забараненьня як раз гэтага дагавору ў нашых законах няма ніякіх паказаньняў; пагэтаму і маючы на ўвазе, што такія дагаворы нельга таксама прызнаць накіраванымі да зьдзяйсьненьня праў у супярэчаньні з іх сацыяльна гаспадарчым назначэньнем (арт. I Г. К.), мы прыдзем да цьвёрдага вываду аб дапусьцімасьці па нашаму праву дагавору запродажу, хоць у грамадзянскім кодэксе БССР ён і не ўпамінаецца.

Зроблены намі вывад пацьвярджаецца тым, што гэты від дагавораў прадугледжваецца гэрбавым статутам (п. 1 § 39 пераліку выключэньняў).

Грамадзянскі кодэкс РСФСР цяпер дапоўнены спэцыяльнымі правіламі аб запродажу будоўлі. Гэта сьведчыць, што Г. К. РСФСР дапушчае наогул угоды аб запродажу. Наш Г. К. прынцыпова не адрозьніваецца ад Г. К. РСФСР, значыцца, і ў нас дапушчаюцца ўгоды аб запродажу.

Але, калі дагавор запродажу дапусьцім, то адсюль запытаньне, якія-ж нормы закону павінны быць да яго прыстасаваны, раз ня маецца правіл, спэцыяльна трактуючых аб гэтым дагаворы.

Для выяўленьня гэтага апошняга пытаньня неабходна затрымацца, на юрыдычный сутнасьці гэтага дагавору. Мімаходам адзначым, што ў адзнаку ад старых заканадаўстваў (як напрыклад, т X ч. 1 Св. Зак.),. якія ўстанаўлівалі асобныя правілы аб запродажу, больш новыя заходня-эўрапейскія грамадзянскія кодэксы, як, напрыклад, нямецкі і швэйцарскі, зусім змоўчваюць аб дагаворы запродажу, у жыцьці-ж гэтыя дагаворы заключаюцца і да іх прыстасоўваюцца як агульныя нормы абавязальнага права, так і спэцыяльныя нормы аб куплі-продажу, наколькі яны рэгулююць моманты. агульныя абодвым дагаворам: куплі-продажу і запродажу.

Запродажам называецца дагавор, у сілу якога стораны абавязуюцца заключыць у вядомы т э р м і н дагавор куплі-продажу адносна п э ў н а г а п р а д м е т у і па ўмоўленай цане, гэта перш-за ўсё дагавор папярэдні ўстанаўляючага абавязацельства заключыць дагавор куплі-продажу.

Істотнымі пунктамі дагавору запродажу зьяўляюцца: а) тэрмін, на працягу якога стораны абавязуюцца заключыць дагавор куплі-продажу, б) прадмет куплі-продажу, адзначаемы індывідуальнымі адзнакамі і в) цана, па якой стораны умаўляюцца ўчыніць куплю-продаж прадмету.

Паводле арт. 130 Г. К. дагавор прызнаецца заключаным толькі тады, калі між старанамі адбылася згода па істотных пунктах дагавору. Дагавор, у якім ня маецца ўсіх істотных для яго пунктаў, ня можа лічыцца заключаным.

У прыватнасьці дагавор запродажу, у якім адсутнічае згода хоць-бы па аднаму з зазначаных вышэй істотных пунктаў, ня можа лічыцца заключаным і таму ня можа параджаць абавязнасьці.

Да дагавору запродажу, як і да ўсякага іншага дагавору дапасоўваюцца ўсе нормы Г. К., выкладаючыя агульную частку абавязальнага права, і ў прыватнасьці правілы арт. 143 Г. К. аб задатку, бо дагаворы аб запродажу вельмі часта дапаўняюцца выдачай задатку.

Для ўразуменьня-ж таго, якія яшчэ прыстасованы тут нормы і з асаблівай часткі абавязковага права Г. К. зьвернемся да сутнасьці дагавору.

Калі мы пакінем у баку запродаж будовы, то дагавор запродажу прадстаўіцца ў відзе такога дагавору, па якому адна старана абавязваецца перадаць маемасьць пакупшчыку к назначанаму часу за ўмоўленую цану. Значыцца, па сваёй сутнасьці, гэта нішто іншае, як дагавор аб продажу з умовай здачы або пастаўкі тавару к назначанаму тэрміну. Такім чынам ясна, што да дагавору запродажу прыстасаваны нормы аб дагаворы куплі-продажу. Тут узьнікае толькі пытаньне—чаму прыходзіцца ў жыцьці заключаць дагаворы запродажу, а не фармуляваць іх, як дагаворы куплі-продажу. На гэта даюць адказ арт. арт. 180 і 183 Г. К., паводле якіх купля-продаж абавязкова мяркуе ўпрадаўца права ўласнасьці на прадаваемую рэч, тады як запродажу такой умовы не патрабуецца, выключэньне ў гэтых адносінах прадстаўляюць выпадкі продажу з публічных таргоў. Рэч чужая або рэч яшчэ ня існуючая можа быць запродана, а ня продана. Непрыстасаваны да запродажу і нормы аб пастаўцы, бо запродаж адрозьніваецца ад пастаўкі пэўнасьцю рэчы, якая характарызуецца відавымі, а не радавымі азнакамі.

Пытаньне аб прыстасаваньні к дагавору запродажу норм, рэгулюючых куплю-продаж, ускладняецца некалькі, калі мы пярэйдзем да запродажных запісаў (тэрмін гэрб. статуту) на будоўлю. Да дагавору куплі-продажу будоўлі прыстасоўваюцца, напрыклад, такія, абмежаванага характару, нормы, як арт. арт. 182 і 185 Г. К. Ці прыстасоўваюцца гэтыя артыкулы, калі заключаюцца дагаворы запродажу будовы? Па гэтаму пытаньню таксама не назіраецца згоды і высоўваюцца два пункты погляду.

Адзін пункт гледжаньня грунтуецца на тым, што ў момант заключэньня дагавору запродажу, у адзнаку ад куплі-продажу індывідуальнай пэўнай рэчы, на здабывальніка не пераходзіць права ўласнасьці на прадаваемую рэч і наогул запродаж не ўтварае ніякіх рэчавых праў на тую рэч, адносна продажу якой устанаўляецца абавязнасьць. Словам, па дагавору запродаж, устанаўліваюцца чыста абавязальныя адносіны. Па гэтаму не прадстаўляецца ніякіх падстаў

прыстасоўваць да запродажу будовы абмежаваных правіл арт. арт 182 і 185 Г. К., якія адносяцца толькі да продажу будовы, у сілу якога дагавору ўтвараюцца рэчавыя правы на рэч.

Згадзіцца аднак з выкладзенымі вывадамі нельга. Перш за ўсё ня трэба забываць, што як ужо было зазначана вышэй, дагавор запродажу па сваіх азнаках вельмі блізак да дагавору куплі-продажу· Потым, у нашым Грамадзянскім Кодэксе адсутнічае забарона перадаваць запроданую рэч ва ўладаньне тэй асобы, якой яна запродана *). Пагэтаму ўпаўне магчымы выпадкі, што запроданае, напрыклад, будова пяройдзе неадкладна-ж пасьля ўключэньня дагавору запродажу ва ўладаньне і карыстаньне к тэй асобе, якой яна запродана. Няма патрэбы даводзіць, што такім шляхам лёгка могуць быць абыйдзены абмежаваныя нормы арт. 182 Г. К., а гэта, бясспрэчна, утварыла-б з дагавору запродажу зусім недапусьцімую ўгоду. Вось чаму і па фармальных падставах (блізкасьць запродажу да дагавору кіплі-продажу) і па матывах папярэджваньня абыходу закону трэба прызнаць, што пры заключэньні запродажу павінны прыстасоўвацца ў адпаведных выпадках правілы, устаноўленыя для дагавораў куплі продажу. І ў прыватнасьці, пры запродажу будовы павінны захоўвацца як у арт. 182, так і ў арт. 185 Г. К. бо азначаныя артыкулы закону маюць спэцыяльную мэту -барадзьбу з асерадкаваньнем у адных руках некалькіх будоў і з спэкуляцыяй на куплі-продажу будовы.

Узьнікае яшчэ пытаньне, якія вынікі могуць узьнікнуць, калі да назначанага ў дагаворы запродажу тэрміну продаж не адбудзецца па віне аднэй з старон. Адказ на гэта пытаньне павінен быць дан на падставе арт. 117 Г. К. Віноўная старана абавязана сплаціць другой учыненые невыкананьнем страты. У тых-жа выпадках, калі ў забясьпеку заключэньня дагавору продажу быў выдан задатак, прыстасоўваюцца спэцыяльныя правілы арт. 143 Г. К., устаноўленыя для задатку.

Такім чынам, у дзейнічаючых на тэрыторыі БССР грамадзянскіх законах мы знаходзім адказ на пастаўленыя вышэй пытаньні. Але гэта аднак не дае нам яшчэ дастатковых падстаў лічыць, што на падставе Г. К. БССР ўпаўне здавальняльна разьвязваюцца ўсе пытаньні, якія ўзьнікаюць пры тлумачэньні дагавораў запродажу. Напроціў, мы думаем, што існуючыя нормы невыстарчальны, і ў грамадзянскім кодэксе сьледна-б было ўвесьці паасобную главу аб дагаворы запродажу. У гэтай главе неабходна паказаць істотныя адзнакі дагавору запродажу, указаць максымальны тэрмін, які можа быць устаноўлен у дагаворы запродажу (дзейючы закон адказу на гэта пытаньне не дае), і потым рэгуляваць заключэньне дагавораў запродажу будовы.

*Б. Ватацы.*

---

*) У X т. 1 ч. Св. Зак. мелася такая пастанова (арт. 1684): „По одной запродажной записи, без совершения по ней купчей крепости. запрещается допускать ко владению недвижимым имением“.

# АБ СЯМЕЙНА-МАЕМАСНЫХ ПАДЗЕЛАХ ПРАЦОЎНЫХ ЗЕМЛЯРОБЧЫХ ГАСПАДАРАК.

Сутнасьць падзелаў працоўнае земляробчае гаспадаркі заключаецца ў стварэньні з яе двух або некалькіх самастойных гаспадарак шляхам разьмеркаваньня ў натуры паміж членамі двара ў паасобнае карыстаньне зямельных удоб'яў і маемасьці, якая знаходзіцца ў супольным карыстаньні ўсяго двара. Гэтым падзел адрозьніваецца ад маемаснага выдзелу, калі з складу двара выходзіць яго член, які не засноўвае новай земляробчай гаспадаркі і атрымлівае з ранейшага двара толькі выплату за ўкладзеную ў гаспадарку працу. Выдзел робіцца ў тым выпадку, калі зямельны надзел двара па нязначнасьці сваіх разьмераў не дапускае ўтварэньня на яго частках самастойных гаспадарак.

У вялікім жывучым дружна сялянскім дварэ адзін падрымлівае другога. Зямлі хапае, яна ўзгнойваецца і старанна апрацоўваецца, дзеля таго, што маецца быдла і рабочыя рукі. Зямля дае добры ўраджай, які ня толькі забясьпечвае ўсю гаспадарку хлебам і фуражом, але і дазваляе ёй лішкі вывезьці на рынак. Продаж часткі ўраджаю і сырызны, а таксама выхад на заробкі лішніх у гаспадарцы рабочых рук даюць сродкі, якія неабходны на аплату падаткаў і куплю інвэнтару, лесу, тавараў і вырабаў прамысловасьці. Супольная праца дае вялікі дастатак. Буйная гаспадарка ні ў чым ня мае патрэбы.

Зусім іншы малюнак атрымліваецца пасьля падзелу буйнага сялянскага двара на нескалькі дробных. Кожная ўноў утвораная гаспадарка мае мала рабочых сіл і матар'яльных сродкаў, а рабіць ёй трэба вельмі многа, каб стаць на ногі. Неабходна абзавесьціся жывёлай і надворнай будовай, жывым і мёртвым сельска-гаспадарчым інвэнтаром, усякім хатнім абсталяваньнем і насеньнем. Усё прыходзіцца здабываць паступовай цяжкай працай.

Толькі невялікая частка новых гаспадарак гадамі нясуць такую працу і становяцца потым на ногі. Большасьць-жа з іх гаспадарыць як небудзь.

Трудна стаць на ногі невялікаму двару, бо ў ім вядзеньне сельскае гаспадаркі зьяўляецца эканамічна-нявыгадным. Прыбытак, які даецца гэтай гаспадаркай, не акупае інвэнтару і будовы. Калі такая гаспадарка і абзавядзецца канём і плугам, то яны ў ёй ня могуць быць поўнасьцю выкарыстаны. У дробнай гаспадарцы параўнальна з буйнай на адзінку годнай плошчы прыходзіцца вельмі шмат будоўлі, абзавядзеньня, інвэнтару, а таксама непрадукцыйна расходуецца праца на гаспадарчыя работы.

Дзякуючы гэтаму дробная гаспадарка ня толькі ня вывозіць на рынак на продаж хлеба, фуражу і сырызны, але і сама ня можа пракарміцца з гаспадаркі, становіцца няспраўным плацельшчыкам падаткаў, ня ўсілах здабываць вырабы прамысловасьці, а гэта шкодна адбіваецца на ўсёй народнай гаспадарцы.

На падставе зьвестак, якія зьмяшчаюцца ў статыстычным штогодніку ЦСУ за 1923 24 г., а таксама ў пэрспэктыўным пляне разь-

віцьця сельскай і лясной гаспадаркі БССР на 1925—1930 г., можна скласьці наступную зводку аб колькасьці сялянскіх гаспадарак у БССР і забясьпечанасьці іх зямлёю ў 1877 г., 1917 і 1926 г.

| | 1877 г. | 1917 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|
| 1. Лік сялянскіх гаспадарак . . . . | 237.435 | 576.166 | 690.497 |
| 2. Колькасьць зямлі ў дзесяцінах у сялян разам з няўдобнаю . . . . . | 3.498.200 | 5.157.100 | 5.873.289 |
| 3. Прыходзілася дзесяцін у сярэднім на гаспадарку . . . . . . . . . . | 14,7 | 8,9 | 8,5 |
| 4. Лік душ у гаспадарцы . . . . . | (зьвестак няма) | 6,3 | 5,3 |

Як відаць з прыведзенай табліцы, колькасьць сялянскіх гаспадарак у БССР з цягам часу няўхільна ўзрастае, прычым узрастаньне гэта адбывалася галоўным чынам за лік падзелаў існуючых гаспадарак, бо тэрыторыя цяперашняй БССР ніколі ня была раёнам, у які дапускалася перасяленьне, а пасьля рэвалюцыі надзяленьне зямлёю без зямельнага насельніцтва складала толькі палову ліку ўсіх ізноў утвораных гаспадарак.

Павялічэньне плошчы надзельнай зямлі з 1887 па 1918 г. адбылося за лік куплі сяланамі зямлі ў памешчыкаў, а таксама за лік тэй зямлі, якую сяляне арандавалі ў памешчыкаў і якая дзякуючы рэвалюцыі засталася ў працоўным карыстаньні сялян. Павялічэньне-ж плошчы, якая знаходзілася ў іх карыстаньні ў 1926 г., адбылася ў выніку разьмеркаваньня сярод сялян быўшай непрацоўнай зямлі.

Параўнальна буйнае землязабесьпячэньне кожнага двара па табліцы тлумачыцца тым, што ў складзе сярэдняй плошчы двара паказана, як выгадная так і нявыгадная зямля. Аднэй-жа сенаворнай зямлі ў гаспадарцы будзе дзесяцін на тры менш. Па зьвестках пэрспэктыўнага пляну ў БССР 76 проц. сялянскіх гаспадарак маюць на двор менш 4 дзесяцін, 21 проц. маюць ад 4 да 8 дзесяцін і 3 проц. звыш—8 дзесяцін выгаднай зямлі. Лічбы гэтыя паказваюць, што зямельнае забесьпячэньне большасьці сялянскіх гаспадарак не дапушчае іх далейшага драбленьвя.

Падзелы працоўных земляробчых гаспадарак адбываюцца траякім спосабам: 1) двор дзеліцца дабрахвотна і нідзе не рэгіструе свайго падзелу, 2) складаемы па згодзе членаў двара падзельны запіс рэгіструецца ў раённым выканаўчым камітэце і 3) члены двара, дасягнуўшы згоды аб падзеле, падаюць аб ім судовы іск.

Зьвестак аб ліку дабрахвотных падзелаў двароў няма. Меркаваць аб іх можна толі па ўсё ўзрастаючай колькасьці гаспадарак. Лік-жа спраў аб сямейна-маемасных падзелах двароў у зямельных камісіях відаць з прывадзімай ніжэй табліцы, складзенай на падставе. гадавых справаздач Народнага Камісарыяту Земляробства:

| ГАДЫ | Лік усіх спраў у справаводзтве вал. (рай.) і пав. (акр.) земкамісій | З іх спраў аб падзелах двароў | Проц. спраў аб падзедах да агульнага ліку спраў. |
|---|---|---|---|
| 1922 г. . . | 15.880 | 4896 | 31 |
| 1923 г. . . | 14.457 | 4977 | 34 |
| 1924 г. . . | 26.242 | 9972 | 38 |
| 1925 г. . . | 25.884 | 8664 | 33 |
| 1926 г. . . | 27.461 | 9781 | 36 |

Преведзеная табліца паказвае, што колькасьць спраў аб падзелах двароў у зямельных камісіях зьяўляецца па гадох больш ці менш устойнай і складае ў сярэднім трэць усіх спраў.

Між тым на падставе пастановы Савету Народных Камісараў за 10 красавіка 1925 г. прыпынена рэгістрацыя раённымі выканаўчымі камітэтамі дабрахвотных падзельных запісаў і прыняцьце зямельнымі камісіямі іскаў аб сямейных падзелах. Толькі ў выключных выпадках падзел гаспадарак, непадлягаючых абрэзцы, можа быць дапушчан зямельнаю камісіяй.

Непамяньшэньне ў 1925 і 1926 г. г. колькасьці спраў у зямельных камісіях аб падзелах двароў паказвае, што сяляне і раней зьвярталіся ў зямельны суд з іскамі аб падзелах толькі ў выключных выпадках і што дапушчэньне пастановай Савету Народных Камісараў падзелаў пры наяўнасьці гэтых выпадкаў зьвяло на нішто самую пастанову аб прыпыненьні судовых падзелаў.

Многа розных прычын выклікае імкненьне членаў сялянскага двара зрабіць яго падзел, хоць кожны з іх разумее, што матар'яльнае становішча буйнае гаспадаркі зьяўляецца заўсёды больш выгадным, чым дробнае. Адны з прычын, якія выклікаюць падзелы, носяць маральны, другія—эканамічны характар.

Умовы жыцьця стварающца іншы раз у двара такія, што жыць супольна члены яго ня могуць, напрыклад, у выпадку разводу супругаў і ўступленьня аднаго з іх у новы шлюб, калі ў выпадку сьмерці гаспадара дому, у двара застанецца мачаха і пасынкі пры варожых між імі адносінах, у выпадку ганьбуючага павядзеньня членаў двара, атрауляючых існаваньне астатняму яго складу. Ня рэдка таксама падзелы выклікаюцца звычайнымі сваркамі ў сям'і, галоўным чынам сярод жанчын.

Ва ўсіх гэтых выпадках члены двара, якія ня могуць заставацца ў ім, зьвяртаюцца ў свой ранейшы двор, ідуць на заробкі, або стараюцца завесьці сваю асобную гаспадарку і патрабуюць разьдзелу двара ў натуры, а ў крайнім выпадку—выплаты за ўкладзеную ў гаспадарку працу і сродкі.

Апрача гэтых выпадкаў, вельмі трудна адхіляемых, падзелы двароў здабываюцца часта бяз усякіх відзімых падстаў. Пацзяляюцца дружныя і параўнальна забясьпечаныя сем'і. Практыка зямельных органаў давала да 1925 г. выпадкі хадайніцтва аб зарэгістраваньні дабрахвотных запісаў аб падзеле неразлучаных мужа і жонкі, згодна жывучых бацькоў і дзяцей, прычым і пасьля зарэгістраваньня такога падзелу сям'я прадаўжала весьці супольную гаспадарку.

Гэтыя па сутнасьці фіктыўныя падзелы выклікаліся імкненьнем двара пазбавіць буйную гаспадарку ад абрэзкі, падзяліўшы яе на некалькі забясьпечаных устаноўленай нормай. Гаспадаркі дробныя дзяліліся, каб атрымаць больш прырэзкі зямлі пры разьмеркаваньні запаснага фонду. Нарэшце, у гэтых выпадках маюць свае значэньне льготы, якія даваліся малазямельным і незабясьпечаным рабочаю сілаю гаспадаркам па сельска-гаспадарчаму падатку і закону аб абавязковай ваеннай службе.

Пасьля прыняцьця мер супроць фіктыўных падзелаў паводле пастановы Савету Народных Камісараў за 10 красавіка 1925 г. і забараненьня іх рэгістрацыі, гаспадаркі гэтыя сталі дзяліцца ў сап-

раўднасьці і прымаць усе меры да афармленьня падзелу зямельнымі камісіямі, даводзячы ў іх наяўнасьць „выключных акалічнасьцяй“. Былі іскі аб падзеле двара, якія падаваліся чуць дасягнуўшым 18 год сынам да бацькі, бо апошні нібы прымушаў ісца маліцца. У пасяджэньні зямельнай камісіі бацька не адмаўляў гэтай акалічнасьці.

Якія-ж меры маглі-б дапамагчы зьменшэньню так гібэльна адбіваючыхся на сялянскай гаспадарцы сямейна-маемасных падзелаў?

Выданьне закону, які забараняе падзелы, у гэтым выпадку не дасягае мэты. Лік спраў у зямельных камісіях аб падзелах двароў мала паменшыўся і пасьля выданьня пастановы Савету Народных Камісараў за 10 красавіка 1925 г. Што-ж тычыцца дабрахвотных падзелаў, дык яны не рэгіструюцца цяпер у раённым выканаўчым камітэце, але робяцца ў сапраўднасьці.

Для рашучай барацьбы з падзеламі трэба зьнішчыць тыя прычыны, якія іх выклікаюць. Адны з іх—маральнай уласьцівасьці—трудна зьнішчаемы. Толькі падняцьце агульнай культурнасьці вёскі можа паменшыць частыя шлюбы, разводы і падзелы ў сялянскіх сем'ях, варожыя адносіны паміж членамі двара, няўжыўчывасьць і сваркі часта з-за глупства. Мясцовыя партыйныя і грамадзкія арганізацыі, настаўнікі і іншыя працаўнікі вёскі павінны аказваць свой уплыў на палепшаньне вясковага быту і весьці агітацыю супроць сямейна-маемасных падзелаў.

Законадаўства можа зьнішчыць эканамічныя прычыны падзелаў. Не патрэбна даваць льгот па землянадзяленьню, сельскагаспадарчаму падатку і адбываньню ваеннай службы дробным дваром, якія ўтварыліся ў выніку падзелу.

У сучасны момант адбываецца ў сельскіх саветах складаньне падворных сьпісаў. У апошнія будуць занесены ўсе самастойна існаваўшыя гаспадаркі. У далейшым рэгістрацыю дабрахвотных падзелаў у раённым выканаўчым камітэце трэба скасаваць. Забараняць-жа дабрахвотныя падзелы немэтазгодна, бо немагчыма ажыцьцявіць на справе гэтае забароны. Ня трэба толькі даваць льгот дабрахвотна падзяліўшымся дваром, фармальна непрызнаючы гэтых падзелаў.

Нельга таксама забараняць і справаводзтва судовых падзелаў па рашэньнях зямельных камісій у тых выпадках, калі супольнае жыцьцё членаў двара зьяўляецца зусім немагчымым. Такая забарона прыводзіць да вельмі цяжкіх драм--забойстваў, падпалаў і г. д. Трэба толькі абмежаваць гэтыя падзелы, дапускаючы выдзел у натуры часткі зямлі і іншай маёмасьці, неабходнай для вядзеньня сельскай гаспадаркі толькі на карысьць такіх членаў двара, якія пэўна доўгі час, напрыклад, ня менш шасьці год, працавалі на гаспадарцы і якія здольны весьці сельскую гаспадарку і ня могуць устроіцца інакш, напр., не зварочваюцца ў свой ранейшы двор, не перасяляюцца або землянадзяляюцца, не паступаюць на службу ці заработкі. Пры наяўнасьці гэтых магчымасьцяй патрэбна дапускаць выплаты дапасавальна да арт. 84 Зям. Код.

У адносінах-жа членаў двара малалетніх, а таксама старых, якія ня могуць самастойна весьці сельскую гаспадарку, трэба дапускаць толькі прысуджэньне дастатковай для іх існаваньня ардынарыі.

Пры гэтым павінна павялічыцца прысуджэньне выплат выходзячым з складу двара членам. У сучасны момант спраў гэтай катэ-

орыі маецца мала, а іменна ў прошлым годзе іх было 447 з агульнага ліку 27.461 спрэчных спраў, якія знаходзіліся ў справаводзтве ўсіх раённых і акруговых зямельных камісій.

Дзеля таго, каб сялянская гаспадарка мела магчымасьць даць складзеную на яе зямельнай камісіяй выплату, патрэбна даць азначанай гаспадарцы права карыстацца ў гэтым выпадку доўгатэрміновым крэдытам. Выходзячыя з складу двара члены адразу атрымалі-б усю прысуджаную ім выплату, што дало-б ім магчымасьць так ці іначай жыць, а двор паступова сплачваў-бы атрыманую ім з крэдытнага таварыства пазыку, што не падрывала-б яго гаспадаркі *).

**А. Вішнеўскі.**

## АБ НЯЎСТОЙЦЫ Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ ЗВАРОЦЕ.

У № 2—3 нашай часопісі зьмешчан артыкул т. Ватацы: „к вопросу о неустойке“, у якім т. Ватацы выказвае думку аб пажаданасьці ўдакладненьня палажэньня аб ацэначнай няўстойцы шляхам прадстаўленьня ў законе права крэдытару, звыш спагнаньня няўстойкі, даспаганяць некаторыя яго страты і прызнаньнем момантам узьнікнавеньня права на няўстойку моманту прасрочкі даўжнікам выкананьня абавязацельства.

Пажаданьні аўтара ўпаўне прыемлемыя для няўстойкі, маючай ацэначны характар, але ўсё-ж я лічу неабходным разам з праф. Пергамэнтам ісьці далей—як раз у бок ізгнаньня з Г. К. прынамсі, у адносінах дзяржзвароту паняцьця штрафной няўстойкі.

Такая тэндэнцыя маецца ў практыцы АК, нават за апошні час „устойлівага звароту“, як гаворыцца ў адным з рашэньняў ВАК СПА.

Сапраўды, калі пераглядзець па Судова-Арбітражнаму бюлетэню практык ВАК СПА, хоць-бы за мінулы 1926 г., то, ня гледзячы на прызнаньні ў прынцыпе штрафной няўстойкі, ВАК СПА ў вельмі рэдкіх выпадках задавальняе іск аб ёй поўнасьцю. Для прыкладу возьмем шэраг рашэньняў. Найбольш характэрнымі выпадкамі прысуджэньня штрафной няўстойкі зьяўляюцца наступныя 2 рашэньні ВАК СПА: па справе Адэскага Трэсту Хімічнай і Салянай Прамысловасьці з Ацэтомэтылам ВАК СПА присудзіў з першага няўстойку ў суме 1650 руб. за парушэньне абумоўленага дагаворам абавязацельства Трэсту не прадаваць атрыманага для выкарыстаньня ў вытворчасьці хімічнага сыр'я--прыватным асобам на старану; тут няўстойка носіць характар спагнаньня за парушэньне дырэктыў НКГандлю, ня выражаных у форме абавязковай пастановы (С. Арб. бюл. № 76—77—1926 г.). Па справе Вінторга з Турквіна ВАК СПА паставіла спагнаць няўстойку з Турквіна ў сумме 35.000 руб. за невыкананьне дагавору аб пастаўцы віна ў тэрмін (З. А. б. № 22—23). У даным выпадку няўстойка, як відаць з матываў рашэньня носіць

*) Зьмяшчаючы гэты артыкул, рэдакцыя запрашае падпісчыкаў выказацца па зачэпленым у артыкуле пытаньні.

характар як-бы пакараньня за лёгкадумнае ўступленьне ў дагавор прыняцьцем на сябе вынікаў усіх абавязацельстваў, зазначаўшых на магчымасьць перашкод у выкананьні дагавору, у тым ліку неўраджаю вінаграду, ня меўшага, праўда, стыхійнага характару, прыблізны разьмер якога трэст павінен быў прадбачыць і падлічыць, калі-б дзейнічаў з належнай гаспадарчасьцю, і апрача таго, штрафу за познае паведамленьне Вінторгу аб выявіўшайся немагчымасьці выкананьня, што зрабіла ўплыў на плянавыя разьлікі апошняга. Але неабходна адзначыць, што і тут ВАК СПА, прысуджаючы няўстойку штрафнага характару, і разам з тым вызваляе трэст ад платы Вінторгу спаганяемых ім стратаў, лічачы „з прысуджэньня няўстойкі адносіны старон ліквідаванымі“.

Ва ўсіх-жа іншых рашэньнях ВАК СПА, прызнаваючы штрафны характар няўстойкі, альбо памяншае яе разьмер альбо адмаўляе ў яе прысуджэньні, знаходзячы ў чым-небудзь няправільнымі дзеяньні ісца.

Так, у рашэньні за 26/VIII—1926 г. па іску Сярпухоўскага баваўнапапернага трэсту да Саюзу Жыльлёвай Каапэрацыі аб 18600 р. няўстойкі за невыкананьне дагавору пастаўкі дроў (С. Арб. Б. № 56—57), ВАК СПА адмаўляе ў іску аб няўстойцы і прысуджае ўнесьці толькі аванс, выходзячы з тых меркаваньняў, што ісьцец ня выканаў ляжачай на абедзьвёх старанах пры заключэньні дагавору „неабходнай гаспадарчай абачлівасьці“ тым, што ня ўпэўніўся ў гаспадарчай моцы адказчыка шляхам навядзеньня належных справак у Крэдытбюро.

У рашэньні ВАК СПА за 23 сакавіка 1926 г. па іску Масстрою з правапрыемніка быўш. Вітстрою—Белдзяржстрою—аб 10.671 руб. аб няўстойцы за недагрузку лесаматар'ялаў (С. А. Б. № 1819) у іску Масстрою адмоўлена, з прычыны прасрочкі, праўда, абмоўленай няўстойкай, з боку ісца ў выкананьні абавязацельства па ўплаце ва ўстаноўленыя тэрміны грошай.

У рашэньні па справе Якторга з Торгахотай аб спагнаньні няўстойкі па 1/2 проц. у дзень за непастаўку паляўнічых прыладаў (З. А. Б. № 2) ВАК СПА прызнала, што невыкананьне дагавору з боку адказчыка прынесла значны ўбытак ісцу, але ў іску адмоўлена, бо „няўстойка ўзрасла па віне ісца, які падаў іск толькі праз паўгода па зыходу тэрміну выкананьня дагавору“. У гэтым-жа рашэньні ВАК адзначае, што няўстойка, якая носіць толькі фармальны характар, „незабараняючая ніякіх рэальных інтарэсаў ісца“, не падлягае прысуджэньню.

Пры прызнаньні нават абавязку плаціць няўстойку, разьмер яе пры прысуджэньні звычайна зьніжаецца, напрыклад, па іску Севдзяржтрэсту да Кусбастрэсту ВАК СПА, прызнаў іскавыя вымаганьні даказанымі ў разьмеры 1.000 рублёў за кожны пратэрмінаваны дзень (усяго 23.000 руб.), тым ня менш вызваліла адказчыка ад уплаты 22.000 рублеў, выходзячы з цяжкага яго грашовага становішча (С. А. Б. № 5).

Падобная-ж практыка ўстанавілася і ў АК пры Эканомнарадзе Саюзных Рэспублік: так АК пры Эканомнарадзе БССР (С. А. Б. № 1715) па іску Дзяржторгбелу з Белкопсаюзу прысудзіла няўстойку за неналежнае выкананьне дагавору пастаўкі лёну ня ў поўнай суме іску 6.100 г., а ў суме 10 проц. з недавыкананай часткі дагавору.

З гэтага невялікага агляду Арбітражнай практыкі можна прыйсьці да вываду, што хоць АК і не адмоўляюць наяўнасьці ў ГК штрафной няўстойкі, але не прыдаюць гэтаму штрафному прынцыпу самадаўлеючага характару, у поўнай адпаведнасьці з арт. 5 ГПК усебакова і дасканальна выяўляць узаемаадносіны старон і прысуджаюць няўстойку ў большай частцы ў якасьці сплачэньня панесеных ісцом страт. Такім чынам, як правільна адзначыў тов. Ватацы, адначасовае прысуджэньне штрафной няўстойкі і стратаў (1-я ўвага да арт. 141 ГК) зьяўляецца выключэньнем, а ня агульным правілам.

Гэта зусім зразумела, покольку АК маюць справу з плянавым зваротам, пры якім дзяржава мае ў сваім распараджэньні ўсе сродкі насаджэньня сярод дзяржорганаў прынцыпаў дагаворнай дысцыпліны і апрача спагнаньня штрафной няўстойкі, якая павінна мець месца толькі ў адносінах прыватнага гандлёвага звароту, які грунтуецца галоўным чынам на аснове аўтаноміі старон.

Такім чынам, пры далейшым умацаваньні плянавага прынцыпу ў дзяржзвароце роля штрафной няўстойкі павінна ўсё больш звужвацца і яна паступова адмірае, а пагэтаму ўпаўне пасьлядоўным прадстаўляецца выключэньне палажэньняў аб ёй пры пераглядзе ГК.

*Макуня.*

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПА ПОВАДУ ПАЛАЖЭНЬНЯ АБ ДАГАВОРЫ КАМІСІІ БССР*).

Першапачатковы праэкт Палажэньня аб дагаворы камісіі, складзены быўшай Камісіяй па ўнутранаму гандлю пры Савеце Працы і Абароны, насіў назву Палажэньня „аб дагаворы гандлёвай камісіі“. Упасьледку ён быў перапрацован і ўключан у Грамадзянскі Кодэкс саюзных Рэспублік, як палажэньне „аб дагаворы камісіі“, зьмяшчаючае нормы як для агульна-грамадзянскага, так і спэцыяльна для гандлёвага звароту—дзяржаўнага, каапэрацыйнага і прыватнага. З прычыны асаблівасьцяй савецкага эканамічнага ладу і рознага становішча ў гандлёвым звароце дзяржаўнага і каапэрацыйнага капіталу з аднаго боку і прыватнага—з другога, для законадаўцы зьяўляецца асабліва цяжкім увязаць у адным законе нормы, якія могуць быць прыстасаваны ў аднакавай меры да дзяржаўнага і прыватнага капіталу. І з гэтага боку мы крыху баімся, каб новы закон, пры ўсіх сваіх буйных паважнасьцях ня выклікаў пры прыстасаваньні на практыцы некаторых перашкод і непаразуменьняў.

Лічачы палажэньне аб дагаворы камісіі, прынятае ў БССР, цалкам прыгодным для рэгуляваньня камісійных апэрацый прыватнага гандлёвага звароту, мы думаем, што для дзяржаўных органаў могуць узьнікнуць непаразуменьні пры дапасаваньні наступных артыкулаў:

1) Увага да арт. 1-га дапушчае выступ дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў у якасьці камісіянэраў і камітэнтаў „з абмежаваньнямі, устаноўленымі асобнымі законамі“. Тут мы адразу сутракаемся з пытаньнем—якімі-ж законамі абмяжоўваецца гэтае права дзяр-

*) У парадку абгаварэньня.

жаўных органаў? Такім законам зьяўляецца пастанова СНК за 2/I—1923 г. аб мерах да ўрэгуляваньня гандлёвых опэрацый дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў (Зб. Зак. РСФСР—1923 г. № 14, арт. 173). Паводле гэтага закону, пасрэдніцтва прыватнага апарату паміж дзяржаўнымі ўстановамі не дапушчаецца, і яны могуць звярочвацца да прыватнага пасрэдніцтва толькі па справах з прыватнымі асобамі і ўстановамі; гэтае права, аднак, значна скарочана наступнымі распараджэньнямі дырэктыўных і рэгулюючых органаў. Пастановай СПА за 26/X—1926 г. і шэрагам абежнікаў Наркамгандлю СССР загатоўкі цераз прыватных асоб асноўным хлебазагатаўцелям забаронены. У выніку за дзяржаўнымі органамі засталося права карыстацца прыватным камісійным апаратам толькі ў адносінах да збытавых апэрацый; з загатоўчых апэрацый прыватны камісіянэр амаль што ня зусім выгнаны. Такім чынам, увага да арт. 1-га ўжо адышла ад жыцьця дзеля таго, што сапраўды правы дзяржаўных органаў у адносінах да карыстаньня камісійным апаратам абмежаваны ня толькі „асобнымі законамі“, але таксама шэрагам пастаноў адміністрацыйных органаў, хаця і не апранутых у форму закону, але тым ня менш абавязковых да выкананьня, і кіраўнікі дзяржаўных органаў, якія, абапіраючыся на ўвагу да арт. 1-га Палажэньня аб дагаворы камісіі, хацелі-б на практыцы лічыцца выключна з абмежаваньнямі „устаноўленымі асобнымі законамі“, напэўна былі-б зараз прыцягнуты да адказнасьці.

На наш погляд, належала-б у самым законе аб дагаворы камісіі канкрэтызаваць правы дзяржаўных органаў, не абмяжоўваючыся агульнай формай. У даным выпадку законадаўца, відавочна, кіраваўся жаданьнем прыдаць гібкасьць закону, каб прыстасаваць яго да чынных абмежавальных законаў, а таксама і да тых, якія могуць быць выданы упасьледку, і ўхіліцца ў адпаведнасьці з гэтым ад зьмены артыкулу закону аб дагаворы камісіі. Нам здаецца, што зьмена артыкулу Палажэньня аб дагаворы камісіі не прадстаўляе больш труднасьцяй і нявыгоднасьцяй у параўнаньні з выданьнем асобага абмежавальнага закону, магчыма, нават, наадварот.

2) Паводле арт. 5-га Палажэньня, камісіянэр, як правіла, не нясе адказнасьці перад камітэнтам за атрыманьне выплаты або за іншае выкананьне трэцяй асобай дагавору, заключанага камісіянэрам з гэтай асобай за кошт камітэнта; такая адказнасьць (дэлькрэдэрэ) можа быць ускладзена на камісіянэра толькі асобым дагаворам, заключаным ім з камітэнтам. Не датыкаючыся пытаньня аб тым, ці такое палажэньнне, наогул, адпавядае духу савецкага законадаўства, мы думаем, што дапасоўна да дзяржаўнага апарату было-б больш правільным устанавіць процілежнае правіла для абароны інтарэсаў дзяржавы. Напрыклад, Дзяржгандаль даручае коопэрацыі загатоўку таго ці іншага экспортнага сырцу; калі коопэрацыйная організацыя прыцягне без здавальняючай абачлівасьці ненадзейных контрагэнтаў вытворцаў, яна можа прапусьціць сэзон і пакінуць Дзяржгандль бяз сырцу; пры гэтым апошні, паводле закону, пазбаўлен магчымасьці прад'явіць прэтэнзію да камісіянэра. Праўда, што згодна арт. 5-га адказнасьць можа быць ускладзена на камісіянэра па дагавору; аднак, такі спосаб абароны інтарэсаў дзяржаўнага скарбу ёсьць па сэнсу закону толькі права, але не абавязак старон. Нам здаецца больш мэтазгодным устанавіць у законе, што у выпадках, калі ка-

мітэнтам зьяўляецца дзяржаўны орган, камісіянэр адказвае за выкананьне дагавору трэцяй асобай.

3) Арт. 18 цалкам падыходзіць да ўмоў прыватнага гандлёвага звароту, апроч апошняга палажэньня аб тым, што ў выпадку продажу камітэнту сваёй маемасьці або набыцьця маемасьці ад яго, камісіянэр траціць права на камісійную плату. Права камісіянэра выступаць у якасьці контрагэнта па ўгодзе з перадаручыцелем лёгічна выцякае ўжо з таго, што, згодна закону БССР, камісіянэр не абавязан называць камітэнту контрагента; з прычыны гэтага камітэнт, ня маючы магчымасьці ўстанавіць, што камісіянер выступае ў даным выпадку як контрагент, ня мае падставы пазбавіць яго ад камісійнай платы, і такім чынам права, якое даецца камітэнту апошнім абзацам арт. 18-га на практыцы нямінуча павінна зрабіцца фікцыяй. Іншая справа, калі ў якасьці камісіянэра выступае дзяржаўная або коопэрацыйная організацыя дзеля таго, што, зразумела, зьяўляецца недапушчальным, каб такія організацыі ўступалі ў зьдзелкі куплі-продажу засланяючы іх формай камісіі. У гэтым выпадку ў поўнай меры зьяўляецца рацыянальным устаноўленае правіла, што калі няма камісійнай апэрацыі, то камісійная плата ня выплачваецца. Было-б карысна ў гэтым выпадку узмацніць арт. 18 палажэньнем, што камісіянэры—дзяржаўныя і коопэрацыйныя організацыі, выступаючы ў якасьці самастойнай стараны, павінны абавязкова паведаміць аб гэтым камітэнта.

У выніку ўсяго вышэйпісанага, мы лічым, што арт. арт. 1 (увага), 5 і 18 павінны атрымаць у законе дзьве паасобныя рэдакцыі: адну для прыватнага і другую для дзяржаўнага гандлёвага звароту. Астатнія артыкулы пакуль не выклікаюць сумненьня; практыка пакажа іх жыцьцёвасьць і мэтазгоднасьць.

**С. Рахманін.**

## З Блёк-нотам па рэвізіі*).

(ПРАЦЯГ)

### ВЫКЛІК СТАРОН І СЬВЕДАК.

У шмат якіх абрэвізаваных народных судох не наладжана пытаньне выкліку старон і сьведак у судовыя пасяджэньні.

Пачынаючы з распарадчага пасяджэньня народнага суду, пытаньне аб выкліку сьведак не абмяркоўваецца, і ў выніку—мэханічнае зацьверджаньне сьпісу сьведак, прыкладзенага да абвінавачваемага заключэньня, паследуючая выпіска і рассылка позваў усім гэтым сьведкам (дарэмная трата паштовых сродкаў!), а потым: „дзеля яснасьці справы сьведак ня дапытваць!!“) хоць нарсуду ня дадзена такое права – арт. 394 КПК).

А варта ўважлівей прагледзець у распарадчым пасяджэньні сьпіс асоб, падлягаючых выкліку ў суд і сьведах, у допыце якіх няма ніякай патрэбы, не адрываліся-б ад сваіх заняткаў, ня было-б не прадукцыйных выдаткаў сродкаў і рабо-

*) Глядзі нумар 2—3 „Весьці НКЮ“.

# ЗАКОНОДАТЕЛЬСТВО ПО ЖИЛИЩНОМУ СТРОИТЕЛЬСТВУ.

(ПРАЦЯГ)

## Льготы жилкооперации.

Жилищная кооперация пользуется следующими льготами:

1. Все виды жилищной кооперации освобождены: а) от сдачи в коммунальный фонд определенной части жилой площади (постановление ЦИК и СНК БССР от 3-го апреля 1925 года);

б) от оплаты гербовым сбором сделок по ссудам, выдаваемым коммунальными банками на производство строительных и ремонтных работ (постановление СНК СССР от 5-го декабря 1925 года).

2. На паевые взносы членов (в жилищно-арендных и рабочих жилищно-строительных кооперативах, кроме строит. общегражданских) не могут быть обращаемы взыскания по их личным обязательствам и по налоговым недоимкам (пост. ЦИК и СНК СССР от 19-го августа 1924 г. и 19 марта 1926 года).

3. По обязательствам жилищно-строительных кооперативов (рабочих и общегражданских) не могут быть обращены взыскания частных лиц ни на постройки, ни на право застройки (пост. ЦИК и СНК СССР от 19 августа 1924 года).

4. Члены как рабочего, так и общегражданского жилищного кооператива имеют право постоянного пользования жилыми помещениями своего кооператива (площадью соответствующей количеству принадлежащих им паев независимо от нормы жилой площади, установленной для данного города, в течение всего времени существования у товарищества права собственности или застройки на данное строение (пост. ЦИК и СНК СССР от 21 дек. 1926 г.).

5. Рабочим жилстроительным кооперативам предоставляется преимущественное право, при прочих равных условиях, перед другими соискателями, право застройки и достройки (пост. ЦИК и СНК БССР от 3-го апреля 1925 г.).

6. Жилищно-арендным кооперативам предоставляется преимущественное при прочих равных условиях перед другими соискате-

---

чага часу на выклік тых жа сьведак і ня было-б лішніх повадаў для адмены справы ў касацыйным парадку з-за грубога парушэньня судом істотных норм справавядзеньня суду.

Апроч таго, вызыўныя позвы суду не рассылаюцца своечасова і, з зьвязаных з гэтым няявак у суд старон і сьведак, значны проц. спраў пераносіцца слуханьнем на другія тэрміны, што робіць уплыў на загрузку суду і ўдаражэньне працэсу.

Ненармальным трэба лічыць таксама практыкуемы нарсудамі спосаб назначэньня на адну і тую-ж гадзіну ўсіх спраў намечаных для разгляду на той альбо іншы дзень.

Нязручнасьці гэтай сыстэмы больш чым відавочны: асоба, выкліканая к 10 гадз. раніцы, прымушана на бязьдзельле на працягу некалькіх гадзін працоўнага дню, каб позна ўвечары даць суду пяцімінутнае паказаньне, у салі суду таўкатня, гразь і дым ад вельмі частага курэньня ў час перапынку, сумуючых і нэрвуючых людзей, судзьдзя надрываецца, заклікаючы прысутных супакоіцца, але знайсьці парушнікаў парадку ня так лёгка сярод цесна набітай салі суду.

лями право найма муниципализированных строений. Исключение введено для госучреждений и предприятий, если в данном строении проживает не менее 60 проц. рабочих и служащих этого учреждения или предприятия, выразивших согласие на прикрепление дома к предприятию или учреждению (Пост. ЦИК и СНК БССР от 3-го апреля 1925 г.)

7. Рабочие жилстройкооперативы и их союзы освобождены от уплаты гербового и нотариального сборов по всем сделкам, заключаемым по их строительству, пользуются льготными тарифами на перевозку лесных и др. строительных материалов (Пост. ЦИК и СНК от 16-го мая 1924 г.).

8. Вся строительная кооперация как рабочая так и общегражданская полностью освобождается в течении 3-х лет со дня возведения жилых строений (как по договорам о праве застройки, так и на землях предоставленных в бессрочное пользование) от подоходного налога падающего на эти строения (доходы от эксплоатации этих строений исключаются из общей суммы облагаемого дохода), от месного налога на эти строения и от рентного обложения земельных участков под строениями (основного и дополнительного).

По истечении 3 лет означенные налоги на все время действия договоров о праве застройки (а в отношении строений возведенных на участках, предоставленных в бессрочное пользование—в течении 30 лет) взимаются в размере 50 проц. при условии, однако, если жилая площадь возведенного строения составляет не менее 75 проц. всей площади возведенного строения.

Члены общегражданских жилищных строительных кооперативных т-в, возведших жилые строения на землях, предоставленных им по договорам о праве застройки или в бессрочное пользование, освобождаются от квартирного налога с занимаемой ими в указанных строениях жилой площади: в первые 3 года полностью, а в последующие годы на 50 проц.

Указанные в этом пункте налоговые льготы распространяются и на случаи достройки или восстановления недостроенных или разрушенных строений в целях использования их для жилья, если стоимость восстановления или достройки составляет не менее 30 проц. стоимости всего строения (Пост. ЦИК и СНК СССР от 14/I 1927 г.).

---

Усе гэтыя недахопы зусім могуць быць зьнішчаны, калі прывурочваньне тэрмінаў слуханьня спраў і яўка старон, сьведак і іншых, пры назначэньні на адзін дзень вялікай колькасьці спраў, будзе не на адну гадзіну, а да паступовага шэрагу іх (абежнік НКЮ № 40 1926 г.)

## ПАВЕРКА ВЫКАНАНЬНЯ РАСПАРАДЖЭНЬНЯЎ СУДУ.

Пры ўважлівым азнаямленьні з дзейнасьцю народных судоў, атрымоўваецца ўражаньне, што лёс значнай часткі крымінальных спраў закончваецца момантам вынясеньня прыгавару, бо за выкананьнем апошніх амаль не вядзецца ніякага нагляду.

Паміма таго, што ў большасьці абрэвізаваных народных судоў пытаньне сваечасовага нагляду за выкананьнем прыгавараў, ня ўзгоднена з пракуратурай і выкананьне прыгавараў дадзена на разгляд органаў міліцыі, у большасьці нарсудоў выяўлена доўгае залежваньне ў канцылярыях гэтых судоў уступіўшых у законную сілу прыгавараў бяз усякага іх выкананьня.

9. Отпуск леса для рабочих жилстроительных кооперативов и их союзов производится в порядке распределения (плановом) с оплатою по таксе 1924 года, при чем в первый год вносится 50 проц. в НКФин, а остальные 50 проц. стоимости леса вносятся в республиканский фонд содействия (для выдачи ссуд на строительство) в течении 13-ти лет равномерными суммами (Постановление СНК БССР от 1-го июля 1925 года и 4-го сентября 1926 года).

10. Договора, заключаемые жилищно-арендными кооперативами с коммунальными органами, подлежат оплате гербовым сбором в размере 0,25 проц. с суммы акта (вместо нормального 0,5 проц.) с правом рассрочки уплаты гербового сбора на весь срок аренды ежегодными частными взносами (Пост. ЦИК и СНК СССР от 19 июня 1925 г.).

Предоставляя целый ряд льгот жилищной кооперации, закон устанавливает вместе с тем и некоторые ограничения в праве распоряжения возведенными пастройками. Ограничения эти следующие. Как право зайстройки, так и строения, принадлежащие жилищностроительным кооперативам (как рабочим, так и общегражданским) на праве собственности, могут быть отчуждаемы ими только государственным органам или другим рабочим жилстройкооперативам, а общегражданские строительные кооперативы могут отчуждать и другим кооперативным организациям. Это правило действует и в случае отчуждения с публичных торгов права застройки или строений, принадлежащих этим товариществам. Что-же касается залога--то право застройки и строения, принадлежащие как рабочим так и общегражданским строительным кооперативам, могут быть закладываемы только государственным органам, кооперативным организациям и тем кредитным учреждениям, кои по уставу вправе принимать в залог строения или право застройки (Пост. ЦИК и СНК СССР от 21/XII 1926 г.

## Льготы госпредприятиям.

Для госпредприятий, производящих строительство рабочих жилищ, предоставлены следующие льготы (Постановление ЦИК и СНК СССР от 16 го октября 1925 года и 14 января 1927 и инструкция СНК БССР от 24-го февраля 1926):

1) Местные Советы обязаны отводить госпредприятиям по планам одобренным ВСНХ участки земли под застройки из расчета не

---

У сілу нейкай невядомай традыцыі, у нарсудох устанавіўся звычай адзін раз у месяц нарыхтоўваць і рассылаць для выкананьня адпаведным органам копіі, уступіўшых у законную сілу прыгавараў. А калі іншы раз, у сілу якіх-небудзь непрадбачаных акалічнасьцяй, не прадстаўляецца магчымым абярнуць вышэйпаказаныя прыгавары да выкананьня да намечанага тэрміну, то рассылка іх аўтэматычна пераносіцца на другі месяц, што ў канчатковым выніку большасьць прыгавараў на працягу некалькіх месяцаў ня выконваюцца.

Па некаторых справах нарсудамі выносяцца пастановы аб перадачы гэтых спраў у Акрсуды па падсуднасьці, або накіраваньня іх к дасьледваньню, але гэта і іншае ня выконваецца.

Справы гэтыя лічацца чамусь скончанымі і належным чынам захоўваюцца ў архіве суду разам з сапраўдна скончанымі справамі і з справамі, па якіх, уступіўшыя ў законную сілу прыгавары на абернуты да выкананьня і, як архіўны матар'ял, чакаюць перадачы ў аддзяленьне Цэнтрархіву.

У чым-жа прычына зазначаных недахопаў? Ці малыя штаты нарсуду, ці вялікая колькасьць работы, ускладзенай на іх, а можа ці судом выносяцца толькі тыя або іншыя пастановы, але ніхто ня сочыць за іх выкананьнем?

менее $^{1}/_{20}$ десятины на сооружаемую квартиру, на возможно близком расстоянии от фабрики или завода.

2) При возведении жилых строений по договорам о праве застройки госпредприятия пользуются теми же льготами по подоходному налогу, местному налогу от строений и рентному обложению, что и жилищная кооперация (см. выше п. 8).

Льготы эти распространяются на госпредприятия, а равно и госучреждения при возведении ими жилых строений и на закрепленных за ними землях, при чем льготы по рентному обложению предоставляются со дня начала строительных работ, а льготная оплата налогов в половинном размере после истечения 3 лет предоставляется в продолжении последующих 30 лет (Пост. ЦИК и СНК СССР от 14/1 1927 г).

3) Необходимый для постройки лес отводится НКЗ на возможно близком расстоянии от места постройки в необходимом количестве по заявкам, утвержденным в плановом порядке ВСНХ и Госпланом.

Оплата за лес производится по таксам 1924 года, при чем в первый год выплачивается 50 проц., а остальная сумма в течении 15--ти лет равными частями.

4) Суммы, израсходованные в отчетном периоде на рабочее жилстроительство, исключаются из облагаемого подоходным налогом дохода госпредприятия.

5) Заключаемые госпредприятиями сделки, связанные со строительством рабочих жилищ, освобождаются от гербового и нотариального сбора.

6) Льготный тариф на перевозку строительных материалов по железнодорожным и водным путям в том же размере, как и для рабочей жилищно-строительной кооперации.

## Льготы частным застройщикам.

Частным застройщикам предоставлены нижеследующие льготы:

1) Согласно постановлений ЦИК и СНК БССР от 17-го апреля 1925 года и 21-го августа 1925 г. владельцы домов вновь возведенных, а равно достроенных и восстановленных по договорам о праве застройки, вправе сдавать жилые помещения в этих домах по свободному соглашению со с'емщиками, хотя бы последними яв-

---

Віною адсутнічаньне сыстэматычнай праверкі выкананьня сваіх-жа распараджэньняў.

Большасьць нарсудзьдзяў не заглядваюць у свае канцэлярыі, ня цікавяцца пастаноўкай работы ў іх, ня сочаць за выкананьнем сваіх распараджэньняў, а лічаць сваім выключным абавязкам засядаць у салі суду, адкуль ісьці ў нарадчую і потым зноў у салю суду, а аб канцэлярыі... паклапоціцца сэкратар і дзелавод.

У выніку: ня выкананыя прыгавары і прылучэньне іх да архіўных матар'ялаў падшыўка да нарад рэклямных лісткоў, і анонсаў, а побач з гэтым утрата кіраўнічых цыркуляраў: прыём па кнізе рэчавых довадаў акрываўленай качалкі, а выдача ўзамен яе залатога цярсьцёнка; вынясеньне пастаноў аб штрафаваньні сьведак, або аб прыводзе абвінавачанага і неабарочваньне гэтых пастаноў да выкананьня і г. д.

Толькі сыстэматычная і грунтоўная паверка судзьдзёй-ж стану работы сваеканцэлярыі і ступені выкананьня супрацоўнікамі суду адпаведных пастаноў судзьдзі, або суду забясьпечыць іх сваечасовае і акуратнае выкананьне.

лялись рабочие, служащие и др. категории лиц, пользующихся льготами по квартирной плате (квартирная такса не применяется).

2) Постановлением ЦИК и СНК БССР от 17-го апреля 1925 года вместо установленных ранее 3-х льготных лет, в течении коих домовладения, выстроенные или достроенные на праве застройки, освобождались от выделения части жилой площади в коммунальный фонд, от 10 до 30 проц., установлен более длительный срок—10 лет, а по добровольному соглашению с органами коммунального хозяйства, срок этот может быть и более 10-ти лет.

3) При возведении или восстановлении жилых строений, частные застройщики в отношении подоходного налога, местного налога, от строений и рентного обложения пользуются теми же льготами что и строительная кооперация и госорганы (см. выше п. 8).

Жилая площадь в строениях, возведенных частными гражданами, занимаемая как ими самими, так и состоящими на их иждивении членами их семей, освобождается от обложения целевым квартирным налогом в первые 3 года полностью, а в последующие годы до истечения действия договора застройки в половинном размере (Пост. ЦИК и СНК СССР от 14/I-го 27 г.).

## Кредитование.

Кредитование жилстроительства производится Коммунбанком. По уставу Банка часть основного капитала предназначенного на долгосрочное кредитование не должна быть менее 50 проц. (фактически на долгосрочное кредитование банком помещено до начала текущего года 87 проц. основного капитала).

Долгосрочные ссуды на ремонт и строительство жилых помещений выдаются на срок не свыше 25-ти лет, а по ссудам рабочей жилстройкооперации, срок этот может быть продлен до 40 лет по соглашению Банка с Комитетом Содействия.

Кроме того Банк может выдавать долгосрочные промышленные целевые ссуды союзам жилкооперации на срок не свыше 10 лет на устройство подсобных предприятий по добыче и обработке строительных материалов.

Краткосрочные ссуды выдаются на срок до 12-ти месяцев. Постановлением ЭКОСО в июне 1926 года разрешено Коммунальному

---

## ХАРАКТЭРНЫЯ ПАРУШЭНЬНІ, ЯКІЯ ДАПУСКАЮЦЦА НАРСУДАМІ.

Шмат якія парушэньні, дапускаемыя ў нарсудох, зьяўляюцца агульнымі для большасьці з іх:

Так, напрыклад:

У справе няма зьвестак аб уручэньні позваў старон (у тым ліку і па крымінальных справах, а асабліва, калі яўка абвінавачанага абавязкова) і суд, ня лічачыся з гэтай акалічнасьцю, заслухоўвае справу, не задумваючыся над тым, што гэта будзе адным з істотных повадаў для адмены справы ў касацыйным парадку.

Па грамадзянскіх справах, дзе выступаюць прадстаўнікі старон, суд не клапоціцца аб праверцы ўпаўнаважаньняў гэтых прадстаўнікоў (арт. 17 ГПК) і не прылучае да спраў даручэньняў паказаных прадстаўнікоў.

Ня гледзячы на тое, што нияўка старон па грамадзянскай справе не зьяўляецца падставай прыпыненьня справаводзтва (арт. 113 ГПК) судзьдзі абсалютна

Банку удлинить срок кредитования жил-арендным товариществам на их строительные работы с 12-ти до 24 месяцев (прекращение краткосрочной в долгосрочную ссуду).

Ссуды, выдаваемые местным советам на строительство, обеспечиваются доходами и налоговыми поступлениями местного Совета и имуществом, состоящим в его распоряжении; ссуды выдаваемые другим учреждениям и лицам обеспечиваются залогом права застройки или строений.

Согласно постановления ЭКОСО от 15-го февраля 1926 года, кредитование частного жилстроительства в пределах, допускается не затрагивающих целевых средств на рабочее жилстроительство.

Заканчивая обзор нашего жилищного законодательства, необходимо отметить еще весьма существенный момент в деле жилищного строительства—это необходимость скорейшего издания строительных правил и норм и установления наиболее целесообразного и выгодного типа построек для рабочих жилищ.

Уже 28-го июля 1926 года СТО изданы были Временные Строительные Правила и нормы, распространяющиеся на поселковое жилищное строительство, производимое Общесоюзными предприятиями и рабочей жилстроительной кооперацией за счет общесоюзных средств. Правила эти подробно предусматривают вопросы планировки участков, квартир, технические и противопожарные нормы. Издавая эти правила СТО предложил Экономическим Совещаниям Союзных Республик принять правила эти за основу и разработать к предстоящему строительному сезону 1927 года правила и нормы для постройки жилых домов и поселков. Вопрос этот у нас находится пока в стадии разработки.

**Г. Чернявский.**

---

ігнаруюць патрабаваньні арт. 113 ГПК, заўжды прыпыняюцца грамадзянскія справы з-за няяўкі старон.

Ісьцец просіць аб налажэньні арышту на маемасьць адказчыка. у выглядзе забясьпечанасьці іску, а суд выносіць пастановы аб налажэньні арышту на маемасьць адказчыка, калі ісьцец ня просіць аб гэтым.

Абвінавачваемаму не даецца апошняе слова, наўпрэкі патрабаваньням арт. 309 КПК.

Ня маючы зьвестак аб паўторнасьці ўчыненых дзеяньняў, прадугледжаных 1-й ч. арт. 99 КК. народныя суды прымаюць да свайго справавядзеньня гэтыя справы і выносяць па іх абвінавальныя прагавары.

Пратаколы судовых пасяджэньняў вядуцца вельмі неахайна і не адбіваюць у сабе ўсіх дзеяньняў суду.

Такі кароткі пералік тых тыповых парушэньняў, якія нязьменна назіраюцца ў большасьці народных судоў.

Да ліку найбольш характэрных парушэньняў, выяўленых у народных судох адносяцца:

# АСНОЎНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ АРГАНІЗАЦЫІ САЮЗНАГА НАТАРЫЯТУ.

Дзяржаўны Натарыят да 1926 году ў кожнай Саюзнай Рэспубліцы будаваўся самастойна і, натуральна, рэзультаты такой будовы мелі свае асаблівасьці. Так, пры існаваньні ў паасобнай Рэспубліцы розных форм натарыяльных зьдзелак, Натарыусы аднэй Саюзнай Рэспублікі часта затрудняліся пры вырашэньні пытаньня, ці законна ўчынена, ці засьведчана ў другой такой-жа Саюзнай Рэспубліцы натарыяльная зьдзелка, прадстаўленая яму ў сувязі з іншымі якімі-небудзь далейшымі натарыяльнымі дзеяньнямі. Такое становішча тлумачыцца існаваўшым адсутнічаньнем агульнасаюзных норм, якія рэгулявалі-б асноўныя прынцыпы арганізацыі і дзейнасьці Натарыяту. Бяспрэчна, такія зьявішчы ставілі Натарыусаў тэй або іншай Саюзнай Рэспублікі ў затрудняльнае становішча.

Дзякуючы такой структуры Натарыяту, ні ў якім разе нельга было прызнаць нармальным становішча Натарыяльных Кантор у агульнасаюзным маштабе. У выніку ўзьнікла пытаньне аб устанаўленьні агульных норм для Натарыяту Саюзных Рэспублік.

Пастановай ЦВК і СНК СССР за 14 мая 1926 г. зацьверджаны самыя асновы арганізацыі дзяржаўнага Натарыяту,—і гэтым самым уведзена аднастойнасьць у сыстэму і дзейнасьць Натарыяльных устаноў Саюзных Рэспублік.

На падставе гэтых прынцыпаў Саюзным Рэспублікам даецца права, кожнай у сваёй Рэспубліцы, закладваць дзяржаўныя Натарыяльныя Канторы для натарыяльнага пасьведчаньня ўсякага роду зьдзелак і выкананьня іншых натарыяльных дзеяньняў. Выходзячы з гэтага, работа дзяржаўнага Натарыяту, у асноўным, будзе мець аднолькавы парадак выкананьня натарыяльных дзеяньняў ва ўсіх Саюзных Рэспубліках.

Агульнасаюзным законам аб Натарыяце цьвёрда ўстаноўлены асноўныя абавязкі дзяржаўных Натарыяльных Кантор усіх Саюзных

---

начнога вартаўніка,
Грамадзянін,які не падначальваецца распараджэньню
прыцягнут да крымінальнай адказнасьці і прызнан вінаватым па арт 88 КК, у
тым-жа народным судзе прызнан вінаватым па арт. 88 КК, грамадзянін, які
адмовіўся заплаціць трубачысту належную апошняму плату за ачыстку дымавых
труб.

Падставай ужываньня арт. 36 КК паслужыла тое, што абвінавачваемы сла-
віцца за храбрага ў акрузе байца і не адзін раз калаціў сваего брата, а пагэтаму
прыгавар лічыць у адносінах яго ўмоўным.

За зьбіцьце старухі жалезнай качаргой і абрабаваньне ў яе грошай, учыніў-
шы гэта злачынства прызнан віноўным у прысваеньні чужой маемасьці.

Член сэкты эвангелістых прызнан віноўным па арт. арт. 16 і 163 КК за тлу-
мачэньне пункту гледжаньня эвангельля пры зьвяртаньні да яго з просьбай аб
аказаньні дапамогі рожаніцы.

Пры адсутнічаньні якіх-бы то ні было довадаў, абвінавачваемы прызнан
вінаватым на падставе яго-ж паказаньняў, у якіх ён адмаляў сваю віну.

За падачу заявы аб пакрыжы рэчаў (не паказваючы падазраваемы) пры-
цягнут да адказнасьці па арт. 177 КК грамадзянін, які падаў паказаную заяву.

Рэспублік, у кампэтэнцыю каторых уваходзіць: натарыяльнае пасьведчаньне зьдзелак, учыненьне прадугледжаных законам пратэстаў, засьведчаньне вернасьці копій дакумэнтаў, выпісак з кніг і дакумэнтаў і сапраўднасьці подпісаў, пасьведчаньне акалічнасьцяй і фактаў, якія могуць мець юрыдычнае значэньне, у каторых Натарыус асабіста можа непасрэдна ўпэўніцца і для пасьведчаньня якіх закон не ўстанаўляе другога парадку, рэгістрацыя арыштаў, накладаемых на будоўлю і права забудоўкі, а таксама зьмен і зьняцьця іх, ханаваньне дакумэнтаў і іншыя дзеяньні, прадугледжаныя законадаўствам Саюзных Рэспублік.

Асноўнымі прынцыпамі ўведзены зьмены і ў стасунку назначэньня дзяржаўных Натарыусаў. Натарыусы назначаюцца, перамяшчаюцца і звальняюцца адпаведнымі Выканаўчымі Камітэтамі. Пры адкрыцьці вакансій Натарыусу, Акруговы Суд прадстаўляе ў адпаведны Выканаўчы Камітэт кандыдата з ліку асоб, якія маюць права быць абранымі ў Народныя Судзьдзі і вытрымаўшых у апрабавальнай Камісіі пры Акруговым Судзе спэцыяльнае апрабаваньне ў ведах натарыяльнай справы.

Пры выкананьні сваіх абавязкаў па службе Натарыусы ня могуць займаць ніякіх іншых дзяржаўных пасад, лічыцца Членамі Калегіі Абаронцаў, служыць па найму, а таксама ўдзельнічаць у гандлёвых і прамысловых прадпрыемствах. Сумяшчэньне пасады Натарыусу з пасадамі выбарчымі або выкладчыцкай дзейнасьцю хоць і дапускаецца, але ў кожным паасобным выпадку з асобнага дазволу законадаўчых органаў.

Апроч гэтага, у асноўных прынцыпах гаворыцца, што законадаўства Саюзных Рэспублік могуць ускладаць на народныя суды, раённыя Выканаўчыя Камітэты, сельскія Саветы і іншыя дзяржаўныя органы паасобныя функцыі дзяржаўных Натарыяльных Кантор, а ў тых мясцовасьцях, у каторых Натарыяльныя Канторы не закладзены, усе функцыі могуць быць ускладзены на народныя суды.

Гэтак-жа сама асноўнымі прынцыпамі законадаўствам Саюзных Рэспублік даецца права ўстанаўляць таксы аплаты натарыяльных дзеяньняў і аказваемых Натарыяльнымі Канторамі тэхнічных паслуг, але за агульнасаюзным законадаўствам застаецца права

---

Лясны аб'ездчык прызнан вінаватым у забойстве напаўшай ня яго асобы на тэй падставе, што аб'ездчык мог уцячы ад нападаўшага.

У замен сваечасовага прыстасаваньня арт. 4-а КПК. справа, па абвінавачаньню некалькіх гр. гр. па арт. 196 КК, адкладвалася некалькі раз на працягу 7-мі месяцаў: праводзіўся розыск аднаго з абвінавачваемых, пры чым усё тое злачынства выразілася ў тым, што прыцягнутыя па гэтай справе асобы спалілі на начлезе некалькі жэрдак з плоту.

Такія найбольш характэрныя парушэньні, якія дапускаюцца ў народных судох, што тлумачыцца няўважлівым анаямленьнем нарсудзьдзяў з справамі пры іх паступленьні ў суд, слабым вывучэньнем агульнай часткі КК і ўпэўненасьцю нарсудзьдзяў у знаньні паасобных арт. арт. таго або іншага кодэксу напамяць з ужываньнем апошніх па памяці, замест прачытаньня тэксту тых-жа арт. арт., што папярэдзіла-б большасьць памылак.

У выніку усяго вышэйсказанага, мімавольна ўзьнікае пытаньне ці выправімы тыя судзьдзі найбольш характэрныя недахопы, якія вышэй прыведзены? Ці магчыма патрабаваць ад налічнага складу народных судзьдзяў, у большасьці сваёй ня маючых спэцыяльнай адукацыі, дакладнага выкананьня шматлікавых пасказаньняў дзеючых кодэксаў.

ўстанаўленьня гранічных ставак аплаты гэтых дзеяньняў, каторыя могуць зьмяніцца, але ў межах дадзенага агульнасаюзным заканадаўствам права для Саюзных Рэспублік.

Зборы, якія атрымліваюцца па таксе за натарыяльныя дзеяньні, складаюць спэцыяльныя сродкі Народных Камісарыятаў Юстыцыі адпаведных Рэспублік і знаходзяцца ў распараджэньні іх. З іх, перш за ўсё, у каштарысным парадку робіцца выдатак на ўтрыманьне натарыяльных устаноў, а свабодная рэшта здаецца ў прыбытак казны.

Усе работнікі дзяржаўнага натарыяту, у тым ліку і Натарыусы, атрымліваюць за сваю працу ўзнагароду толькі ад дзяржавы і ніякай дадатковай узнагароды (накшталт працэнтаў) не атрымліваюць.

Уведзеныя асноўныя прынцыпы арганізацыі Саюзнага Натарыяту вызначылі агульнасаюзныя нормы ў дзейнасьці Натарыяту, на падставе якіх Дзяржаўны Натарыят будзе мець аднастойную форму натарыяльных зьдзелак і аднолькавы парадак натарыяльных дзеяньняў у Саюзных рэспубліках.

*М. Малёнак.*

Бязумоўна магчыма!—і аб гэтым павінны паклапаціцца перш за ўсё самі-ж народныя судзьдзі. Уважлівае азнаямленьне (хоць-бы на працягу некаторага пэрыяду) з назначаемымі да слуханьня справамі і разам з гэтым азнаямленьне з адносячыміся да гэтых спраў нормамі адпаведных кодэксаў; вывучэньне пастаноў касацыйных калегій Акруговага Суду і ўвязка іх з сваёю практыкаю, не ганяцца за колькасьцю разглядаемых спраў, а мець на ўвазе паляпшэньне якасьці іх разгледжаньня; найуважлівейшыя адносіны да канцэлярскіх дробязяў штодзённай работы і сыстэматычная праверка нарсудзьдзямі сваіх канцэлярый—вось тыя неабходныя прадпасылкі без якіх ня мысьлімы ні паляпшэньне пастаноўкі работы народных судоў, ні павышэньня кваліфікацыі паасобных працаўнікоў суду.

*Уладаўскі.*

# Старонка практыка.

## МЕРА ПРАСЯЧЭНЬНЯ ПРЫ ЎЖЫВАНЬНІ АРТ. 49 КРЫМІНАЛЬНАГА КОДЭКСУ.

Пытаньне аб прыстасаваньні высылкі (арт. 49 КК), як самастойнага віду меры сацыяльнай абароны, у апошні час ясна і непатрабуе асаблівых довадаў:

Пастановай Прэзыдыуму ЦВК БССР за 25 верасьня 1925 г. Дзяржаўнай Пракуратуры дадзена права ўваходзіць у адпаведныя суды з прапановамі аб прыстасаваньні да паасобных асоб арт. 49 КК.

Суд апраўдваючы тую або іншую асобу, за недаказанасьцю прад'яўленага абвінавачваньня па адпаведнаму артыкулу асаблівай часткі Крымінальнага Кодэксу мае права паставіць на абмеркаваньне пытаньне аб сувязі данай асобы з злачынным асяродкам тэй або іншай мясцовасьці і забараніць ёй, права пражываньня ў пэўнай мясцовасьці на тэрмін да трох год.

Зразумела, што наш Крымінальны Кодэкс прасьледуе мэты агульнага і прыватнага папярэджаньня злачынстваў, і такая мера, як высылка—зьяўляецца адной з даючых памысныя вынікі.

Куды больш складаным на першы погляд зьяўляецца пытаньне аб прыняцьці спосабаў прасячэньня, калі арт. 49 КК, прыстасоўваецца як самастойная мера сацыяльнай абароны, але пры ўважлівым разледжаньні адпаведных арт. арт. КПК, гэта складнасьць зьнікае.

Сапраўды, меры прасячэньня маюць сваёй мэтай прасеч магчымыя дзеяньні абвінавачваемага, накіраваныя на ўхіленьне яго ад суду і сьледзтва, ясна само сабою, што ў чалавека, да якога прад'яўлена абвінавачваньне на прадмет прыстасаваньня арт. 49 КК—могуць быць пабуджальныя прычыны ўхіліцца ад суду, таксама як і кожнага іншага абвінавачваемага.

Возьмем выпадак, калі абвінавачваемы апраўдан па адпаведных арт. арт. КК, але да яго прыстасован артыкул 49 КК і не абрана мера прасячэньня, то папершае—гэта асоба, на ўвесь час касацыйнага тэрміну, да ўступленьня прыгавару ў законную сілу (а гэтакі цягнецца ня менш двух месяцаў у сярэднім), прадстаўляе пэўную сацыяльную небясьпеку для данай мясцовасьці, бо ў супрацўным выпадку да яго-б не патрабавалася прыстасаваньня высылкі і, падругое, зусім няясна, што рабіць з асобай, падпаўшай высылцы, калі яна схаваецца,дзеля таго, што асабістае затрыманьне, арышт і г. д. зьяўляюцца мерамі прасячэньня.

Вывад напрашваецца сам сабою: супроць асобы, да якой прыстасован арт. 49 КК, як самастойная мера сацыяльнай абароны, можна абраць любы спосаб прасячэньня з пералічаных у арт. 144 КПК, сапраўды 340 і 341 арт. арт. КПК трактуюць у якіх выпадках мера прасячэньня адмяняецца і ў якіх прымаецца. Прынятая II-й сэсіяй ЦВК БССР VI скліканьня (кастрычнік 1925 г.) новая рэдакцыя агульнай часткі Крым. Код. адмовілася ад тэрміну „пакараньне“ і ўсюды замяніла апошняе „мерай сацыяльнай абароны“; і вось, прыстасоўваючы гэты тэрмін да КПК і ў паасобку да арт. 340, з іх літаральнага тлумачэньня стане ясна, дзеля таго што забарона права пражываньня ў пэўнай мясцовасьці—ёсьць адна з мер сацыяльнай абароны прадугледжаных КК, і падсудзімы ад яе не звальняецца, то ў парадку арт. 341 КПК закон патрабуе абраньня меры прасячэньня.

У заключэньне можа ўзьнікнуць пытаньне, а як быць, калі мерай прасячэньня абрана ўтрыманьне пад вартай,—ці падлягае заліку гэты час у тэрмін высылкі. Мне думаецца, што кіруючыся агульным духам арт. 31 КК—час праведзены ў папярэднім заключэньні—падлягае абавязковаму заліку, бо наш законадаўца, як максімальны тэрмін аддаленьне ад данага асяродку—прадугледзеў 3 гады, а адсюль відаць, што калі не залічыць папярэдняе ўтрыманьне, фактычнае адсованьня з мясцовасьці будзе правышаць максімальны тэрмін—3 гады і апроч таго гэтыя асобы акажуцца ў больш няпрыемных умовах, чым тыя, супроць якіх быў прыняты больш лёгкі спосаб прасячэньня.

*В. Гінзбург.*

## ПЫТАНЬНІ ПРОЦЭСУАЛЬНАГА ПРАВА.

*(З судовай практыкі).*

У адным з акруговых судоў БССР быў падан іск, пры чым ісьцец прасіў акруговы суд вызваліць яго на падставе арт. 43 Гр. Проц. Код. ад уплаты судовай пошліны і іншых збораў і выдаткаў па справе.

Акруговы Суд у выкладзенай вышэй просьбе адмовіў ісцу, знайшоўшы, што ён займаецца спэкуляцыяй, мае непрацоўныя даходы і таму ня можа быць аднесен да катэгорыі працоўных, якія на падставе арт. 43 п. „в“ ГПК звальняюцца ад уплаты збораў па справе.

Пасьля вынясеньня пастановы Акрсуду ісьцец зьвярнуўся да Народнага Судзьдзі з просьбай аб прызнаньні за ім права на звальненьне ад уплаты ўсіх збораў па іску, прад'яўленаму ім у акруговым судзе.

У выніку сваёй просьбы ісьцец атрымаў ад народнага суду і прадставіў у Акрсуд пастанову аб тым, што ён прызнан нямаючым сродкаў для ўплаты судовых пошлін і на гэтай падставе вызваляецца ад уплаты судовай пошліны і іншых збораў і выдаткаў па справе па іску яго паданаму ў акруговым судзе.

Такім чынам утварылася калізія пастаноў па аднаму і тамуж пытаньню двух судоў. Для правільнага вырашэньня гэтай калізіі суду неабходна адказаць на ніжэй наступныя пытаньні:

1. Ці можа народны судзьдзя на падставе арт. 43 п. „в" ГПК пастанавіць аб вызваленьні прасіцеля ад уплаты судовай пошліны і іншых збораў па справе, якая разглядаецца ў другім судзе.

2. Якое значэньне мае пастанова народнага суду для суда, які разглядае справу, аб вызваленьні ад збораў, па якому іськец прасіў народнага судзьдзю.

Паводле нормы, выкладзенай у п. „в" арт. 43 ГПК, ад уплаты судовых пошлін і іншых збораў і выдаткаў па справе вызваляюцца тыя з працоўных, якія народным судзьдзёю або судом, разьбіраючым справу, прызнаны нямаючымі дастатковых сродкаў да ўплаты судовых пошлін.

Значыцца іськец, які жадае скарыстаць права, дадзенае арт. 43 ГПК, можа дабівацца гэтага двума шляхамі. Ці ён просіць аб вызваленьні яго ад збораў той-жа суд, у якім падан іск. У такім выпадку суд перш за ўсё вырашае пытаньне аб тым, ці зьяўляецца іськец працоўным і, калі да, то ці можна яго прызнаць нямаючым выстарчальных сродкаў на ўплату пошлін.

Па вырашэньню гэтых пытаньняў у станоўчым сэнсе суд выносіць пастанову аб вызваленьні ісца ад спагнаньня збораў па арт. 43 ГПК.

У супраціўным выпадку тым-жа судом выносіцца пастанова аб адмове ў просьбе. Такая пастанова ня можа быць абскарджана паасобна ад касацыйнай скаргі.

Другі шлях—гэта зьвяртаньне да народнага судзьдзі. Народныя судзьдзі могуць прызнаваць тую ці іншую асобу нямаючаю сродкаў да аплаты збораў па справах, якія вытвараюцца ў судзе, але яны ніякім чынам ня могуць выносіць пастановы аб вызваленьні ісца ад збораў па справе, якія вытвараюцца ў другім судзе. Вынясеньне падобнай пастановы, бясспрэчна, зьяўляецца правышэньнем права, дадзенага народным судзьдзям, арт. 43 ГПК.

Прызнаўшы даную асобу нямаючаю выстарчальных сродкаў да ўплаты судовых пошлін, народны судзьдзя выдае пасьведчаньне, з паказаньнем к вядзеньню якой іменна справы яно адносіцца. Пасьведчаньне гэта падаецца ў суд, які разглядае гэту справу. Пры гэтым суд, у якім разгледжваецца іск, на падставе пасьведчаньня народнага судзьдзі можа ісца вызваліць ад спагнаньня збораў. Але, з другога боку, суд ня можа быць пазбаўлен права вынесьці пастанову і аб адмове ісцу ў яго просьбе аб вызваленьні збораў, калі на падставе пасьведчаньня народнага судзьдзі нельга ясна бачыць, што судзьдзя падверг заяву ісца належнай праверцы або, калі на працягу працэсу выявіцца, што іськец не адносіцца да катэгорыі працоўных або што ён мае дастатковыя сродкі да ўплаты збораў.

На падставе ўсяго вышэйвыкладзенага даюцца адказы і на пастаўленыя вышэй пытаньні:

Народны судзьдзя ня меў, напэўна, права выносіць пастанову аб вызваленьні ісца ад уплаты збораў па іску, паданаму ў другім судзе, у даным

выпадку ў Акрсудзе. Ён мог толькі выдаць ісцу пасьведчаньне аб няіменьні выстарчальных сродкаў.

На падставе пасьведчаньня выданага народным судзьдзёю, суд можа, але неабавязан, вынесьці пастанову аб вызваленьні ісца ад спагнаньня збораў.

У даным выпадку яшчэ адна акалічнасьць—Акруговы Суд, яшчэ да зьвяртаньня ісца да народнага судзьдзі, разгледжваў пытаньне аб вызваленьні ісца ад уплаты збораў, пры чым адмовіў у вызваленьні як раз таму, што прызнаў ісца пражываючым на непрацоўныя даходы, а значыцца нямаючым права на вызваленьне ад збораў па арт. 43 ГПК.

Як мы ўжо зазначылі пастанова Акруговага суду ня можа быць абскарджана паасобна ад касацыйнай скаргі—яна канчаткова. Пагэтаму ісьцец пасьля вынясеньня такой пастановы і ня меў права зьвяртацца ў народны суд. Пастанова народнага суду ў даным выпадку ня можа быць нават разгледжваема акруговым судом з прычыны раней адбыўшагася рашэньня.

Выкладзенае вышэй растлумачэньне абапіраецца на дакладным сэнсе арт. 43 Гр. Проц. Код. Яны знаходзяць сабе пацьвярджэньня і ў рашэньнях найвышэйшага суду РСФСР.

Так напрыклад, абежнік ВС № 14—1924 г. (ЕСЮ 1924 г. № 22) і пастанова ВС, па ГКК за 16/I—24 г. па справе Канпына (ЕСЮ № 17 1924 г.).

*Б. Ватацы.*

---

## ЯК ЛЕПШ ПРАСУНУЦЬ ЗАКОННАСЬЦЬ У ВЁСКУ.

Нам што дня прыходзіцца сустракацца з селянінам, з яго сялянскімі патрэбамі, якім ён шукае дзе колечы дапамогі. Акрамя гэтага непадрыхтаванасьць і нежаданьне вясковых працаўнікоў паразважаць з селянінам выклікае тое, што селянін за дробным нікчэмным пытаньнем падзярэ 10 пар лапцей, пабывае ў сельсавеце, у РВК, у АВК, нават дойдзе да ЦВК—„усё праўды шукае“. У той час калі гэта пытаньне пры ўважлівасьці мясцовых працаўнікоў, можна было-б вырашыць самым найлепшым парадкам.

Бывае ня толькі няўважлівасьць працаўніка, але часта і няведаньне закону, бо тыя зборнікі законаў ураду, а таксама бюлетэні СНК БССР ляжаць надта часта наразрэзанымі, а астатніх кодэксаў, то ў сельсаветах напэўна няма.

Хто тут павінен дапамагчы?

На гэты бок павінны быць накіраваны ўсе юрыдычныя сілы вёскі— гэта Пам. пракурора, судзьдзя, сьледчы, член калегіі абарон-

цаў. Неабходна з'арганізаваць і наладзіць справачныя сталы ў сельсаветах, пры хатах-чытальнях, і самае галоўнае, больш трэба рабіць выездаў у вёску з дакладам, асабліва вучастковаму пракурору, для азнаямленьня з вучасткам, з патрэбамі, з скаргамі вёскі і аднача сова даць вёсцы ўразуменьне нашай законнасьці, даць тлумачэньне куды і зачым ісьці.

Вучасткаваму Пракурору, будучы прыблізна у м-ц ў 7--8 вёсках, ёсьць магчымасьць там-жа пасьля сходаў прыняць скаргі, заявы і г. д. даць тыя ці іншыя юрыдычныя парады. Бываюць у вёсках крыўды, якія закранаюць інтарэсы ўсёй вёскі, як несваечасовы водпуск лесу, адсутнасьць пашы і г. д., тут патрабуецца вялікая дапамога юрыдычных працаўнікоў.

Астатнім юрыдычным працаўнікам у гэтым напрамку трэба зрабіць тое-ж самае-больш увагі трэба зьвяргуць на даведачныя сталы ў хатах-чытальнях.

Пры некаторай такой працы мы будзем мець належныя вынікі і прасунем нашы законы бліжэй да насельніцтва.

Пам. Пракурора 3-га вуч.
Менскае акругі *С. Рэзэнгауз.*

## АШЧАДНЫЯ КАСЫ, ЯК СРОДАК БАРАЦЬБЫ З ЗЛАЧЫННАСЬЦЮ*).

Грашовая гатоўка заўсёды і больш усяго прыцягвала ўвагу тых, хто гатоў пажывіцца за чужы рахунак.

З ростам нашай эканамічнай моцы, мы заўважаем і вялікі рост так званых маемасных злачынстваў.

З усіх уноў узьнікшых спраў па арт. арт. 183 і 184 КК (рабункаў і разбойных нападкаў), ня менш 90 проц. адносяцца да такіх, дзе галоўным пабуджальнікам зьяўлялася імкненьне заўладаць грашоваю гатоўкаю, якая схоўваецца дома у „надзейным месцы“ або непасрэдна на руках у намечанай ахвяры.

Цікава адзначыць, што большасьць з гэтых выпадкаў зусім невыклікалася вялікаю сумаю грошай, былі выпадкі аграбленьня з рублёў, пры чым нападаўшыя рабаўнікі загадзя ведалі аб мізэрнасьці гэтай сумы.

Вялікі лік растрат, у асаблівасьці такіх, якія робяцца сыстэматычна, невялікімі сумамі, на працягу больш ці менш доўгага часу, абумоўліваюцца хаваньнем гэтых грошай пры сабе.

Такім чынам, большасьць з гэтых злачынстваў ня мелі-б месца, калі-б грашовая гатоўка, як агульны парадак, замест таго, каб схоўвацца дома або на руках--клалася ў ашчадныя касы.

---

*) Зьмяшчаецца ў дыскусійным парадку.—РЭДАКЦЫЯ

Нашы ўмовы ашчадных кас настолькі прыбліжаны да інтарэсаў працоўных мас, што амаль нічога агульнага ня маюць з былымі ашчаднымі касамі царскага часу. Але гэтыя ўмовы мала знаёмы тым, хто аб іх павінен больш усяго ведаць--рабочыя, а галоўным чынам, сяляне. Гэтаму мы абавязаны слабай працай нашых ашчадных кас і бязмэтнаму, беспарадачнаму хаваньню грошай дома або на руках.

З дакладу т. РЫКАВА на XV Партканфэрэнцыі відаць, што на 1 студзеня 1926 г. сялянскія ўклады ў нашых ашчадных касах складалі толькі 2,4 проц., тады як у царскія часы сялянам прыналежала больш 28 проц. усёй сумы ашчадных кас. І гэта, ня гледзячы на крайнюю складанасьць апэрацыі ашчадных кас, мёртвы фармалізм, чыноўнічы бюракратызм і г.д. тых часоў.

Неабходна падняць растлумачальную кампанію сярод шырокіх мас рабочых і сялян аб умовах нашых ашчадных кас. І дзеля таго, што гэта мае вялікую сувязь з папераджальнымі мерамі па барацьбе з злачыннасьцю, то на працаўнікоў суду, сьледзтва і пракуратуры падае не малая доля працы за магчыма большы і шпаркі прыток сялянскіх узносаў у ашчадныя касы.

Даволі ўказаць на такія ўдобствы як магчымасьць унясеньня грошай па ашчаднай кніжцы ня толькі ў тэй касе, адкуль выдана гэта кніжка, але і ў кожнай іншай ашчаднай касе. Што некаторыя касы працуюць ня толькі ўдзень, але і ўвечар, г. зн тады, калі іншыя ўстановы бываюць зачынены, што для атрыманьня грошай ня трэба мець асобных даручэньняў. а даволі подпісу ўладальніка кніжкі, з паказаньнем патрабуемай сумы і грошы выдаюцца падавацелю. Што, сумы якія хаваюцца ў ашчадных касах, ніякім падлікам для абкладаньня не падлягаюць і шмат іншых выгад , каб адзначыць поўную магчымасьць выкарыстаць ашчадныя касы, як сталага і надзейнага схоўцу ўсіх гаспадарчых ашчаднасьцяй, прымаючага грошы ўсюды і зьвяртаючага іх у кожны час самому ўкладчыку або таму, каму ён перадае кніжку з сваім даручэньнем не саромячыся ніякімі сумамі.

Для большай назіральнасьці можна прывесьці такі прыклад: селянін прывёз у горад свае прадукты, прадаў іх. Частку грошай патраціў на куплі, а рэшту--да апошняй грыўні ўносіць у адну з ашчадных кас у горадзе па ашчаднай кніжцы сваей вёскі і спакойна едзе дадому. У выпадку неабходнасьці ён накіроўваецца сам ці давярае атрымаць іншаму з сваёй ашчаднай касы грошы ў любой суме.

*Лійц.*

# Растлумачэньні.

## Па пытаньню аб дапасаваньні ведамственых абежнікаў БССР на тэрыторыі ўноў далучаных Гомельскай і Рэчыцкай акруг.

На тэрыторыі Гомельскай і Рэчыцкай акруг павінны прыстасоўвацца ведамственыя абежнікі, якія выданы ў разьвіцьцё тых законаў, якія на тэрыторыі азначаных акруг дзейнічаюць. З прыпыненьнем дзеяньня закону трацяць сілу і абежнікі, выданыя ў яго разьвіцьцё. Абежнікі, якія выданы рознымі ведамствамі БССР з першага студзеня 1927 г. ў разьвіцьцё законаў, якія яшчэ не распаўсюджаны на Гомельскую і Рэчыцкую акругі, павінны ўжывацца на тэрыторыі гэтых акруг, калі яны не супярэчаць адпаведным законам РСФСР, дзеяньне якіх на азначанай тэрыторыі яшчэ захована.

## Па пытаньню арт. 155 Грамадзянскага Кодэксу, з суадносін з пастановай ЦВК і СНК БССР за 19-II аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з займаемых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках (З.З. БССР 1927 г. № 12, арт. 42).

Азначаная пастанова за 19 лютага 1927 г. не адмяняе і не зьмяняе ні аднаго з артыкулаў Грамадзянскага Кодэксу, а зьяўляецца зводкай тых норм, якія заключаліся ў некалькіх раней выданых законах, таксама не ўнасіўшых зьмен у Грамадзянскі Кодэкс.

У паасобку арт. 1-ы вышэйвыкладзенай пастановы за 19 лютага прадугледжвае толькі выпадкі датэрміновага прыпыненьня наёмнага дагавору, на якія, як на повады да скасаваньня дагавору найму паказвае артыкул 171 Г. К. (п. п. „в“, „г.“, „д.“, „ж“ і „з“).

Пры гэтым пастанова за 19-га лютага толькі пацьвярджае, што высяленьне ў такіх выпадках жыльцоў дапусьціма толькі ў судовым парадку.

Пастанова за 19 лютага г. г. не адмяняе, напэўна, права наймадаўцы і наймальніка ва ўсякі час прыпыніць заключаны імі без вызначэньня тэрміну дагавору найму, папярэдзіўшы аб тым другую старану. Значыцца, права, прадугледжанае ў арт. 155 Г. К., захоўваецца з тымі абмежаваньнямі, якія ўстаноўлены арт. 156 ГК. г. зн., што асобы, якія прыналежаць да катэгорыяў, пералічаных у артык. 156 Г К., могуць быць выселены толькі ў выпадках, зазначаных у арт. арт. 171 і 172 Г.К. і выданны ў іх разьвіцьцё пастановай за 19 лютага 1927 г. аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з займаемых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках.

## По пытаньню, ці маюць права займацца паляўніцтвам грамадзяне, якія не зьяўляюцца сябрамі Беларускага Саюзу Паляўнічых.

Аддзел Законадаўчых Проэктаў НКЮ па запытаньню Віцебскага Акруговага Выканаўчага Камітэту растлумачвае, што права паляваньня не зьяўляецца манаполіяй Саюзу Паляўнічых, і забароны займацца паляўніцтвам іншым грамадзянам няма.

Дазвол на права набыцьця і хаваньня паляўнічае зброі, паводле інструкцыі НКУС за 25 жніўня 1926 г. даецца Народным Камісарыятам Земляробства і яго мясцовымі органамі.

Выдача пасьведчаньняў на права паляўніцтва вытвараецца органамі Народнага Камісарыяту Земляробства (З.З. 23г. № 11, арт. 100).

## Па пытаньню, ці могуць быць гандляры сябрамі Гарадзкога Таварыства Ўзаемадапамогі.

По запытаньню Полацкага Акруговага Адміністрацыйнага Аддзелу Аддзел Законадаўчых Проэктаў НКЮ растлумачвае:

Паводле пастановы за 24 чэрвеня 1925 году „Аб арганізацыі гарадзкіх таварыстваў Узаемадапамогі“ (З. З. 25 г. № 28 арт. 254) і Нармальнага Статуту Таварыства Ўзаемадапамогі (З. З. 26 г. № 11, арт. 43), арганізацыя Таварыстваў мае на мэце ўзаемадапамогу сярод беднага гарадзкога і мястэчковага насяленьня, якое ня мае права на сацыяльнае страхаваньое і дзяржаўнае забясьпячэньне, і паводле гэтага і гандляры могуць быць членамі гарадзкіх і мястэчковых Таварystваў Узаемадапамогі.

## Па пытаньню аб тым, ці павінны Народныя Суды прыймаць для разгляду справы аб прызнаньні грамадзян нямаючымі даволі сродкаў для аплаты гэрбавага збору.

Аддзел Законадаўчых Проэктаў НКЮ на запытаньне члена Аршанскага Акруговага Суду дае наступнае тлумачэньне:

Усе пытаньні аб гэрбавым зборы разьвязваюцца на падставе статуту аб гэрбавым зборы (дадатак 2-гі да статуту аб гэрбавым зборы) звальняюцца ад гэрбавага збору „асобы, зя якімі Судом прызнана права беднасьці па вызначанай справе ўсё роўна, дзе яна разглядалася“. Дзеля гэтага народныя суды павінны прыймаць да свайго разгляду справы аб прызнаньні беднасьці для вызваленьня ад гэрбавага збору. Пры гэтым, калі гэтае вызваленьне датычыць справы, якая падаецца Нарсуду і падлягае яго разгляду, Народны Суд пастанаўляе ня толькі аб прызнаньні права беднасьці, але таксама і аб вызваленьні ад гэрбавага збору па данай справе. Калі-ж вызваленьне датычыць справы, якая павінна разьвязвацца не народным судом, нарсуд пастанаўляе толькі аб прызнаньні беднасьці з паказаньнем, па якой справе, але ў такім выпадку нарсуд не разьвязвае пытаньня аб вызваленьні ад гэрбавага збору.

У пастанове народнага суду павінны быць выкладзены падставы, па якіх прызнана права беднасьці.

Пастаноўленае пытаньне было ўжо растлумачана НКЮ ў абежніку № 33 1924 г. (Зб. узак. 1924 г. № 5, арт. 72).

Што-ж датычыць пастановы ЦВК і СНК БССР за 20 мая 1925 г. (Зб. Зак. БССР 1925 г., № 29, арт. 273), па якой Народныя Суды былі пазбаўлены ад разгляду некалькіх спраў і ў тым ліку спраў аб прызнаньні грамадзян ня маючымі досыць сродкаў на выплату гэрбавага і іншых збораў за несудовыя справы, то гэты як раз пункт падставы за 29 мая 1925 г. быў скасаваны новай пастановай ЦВК і СНК БССР за 6 лістапада 1926 г. (Зб. Зак. БССР 1926 г., № 46, арт, 174), дзеля чаго пакідаецца асноўны парадак разгляду такога роду спраў, які выкладзены вышэй і ў абежніку № 33—1924 г.

## Практыка Асобае Калегії Вышэйшага Кантролю па зямельных справах.

10. Полацкі Акруговы Зямельны Аддзел прасіў растлумачыць, хто, у зьвязку з правядзеньнем работ па складаньню падворных сьпіскаў, павінен рабіць публікацыю ў газэтах аб бязьведама адсутнічаючых, бо нельга без канца лічыць іх у бязьведамай адсутнасьці і не ўзбуджаць пытаньня аб прызнаньні памершымі.

Разгледзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым пасяджэньні 22 сакавіка 1927 году, Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю журналам сваім № 25 растлумачыла: „Публікацыю ў газэтах аб бязьведама адсутных землякарыстальніках робіць народны суд. Для зямельных органаў неабходнасьць узбуджэньня ў народным судзе пытаньня аб прызнаньні асобы бязьведама адсутнай, узьнікае ў мэтах правільнага вядзеньня падворных сьпіскаў, а таксама аховы маёмасьці, якой аддзельна карысталася адсутная асоба. Калі-ж апошняя ўваходзіць у склад сялянскага двара, у агульным карыстаньні якога знаходзіцца яе маёмасьць, дык пытаньне аб прызнаньні яе бязьведама адсутнай, а потым памёршай, узбуджаецца зацікаўленымі на атрыманьне гэтае маёмасьці асобамі.

Пры складаньні сельскім саветам падворных сьпіскаў у іх азначаюцца і адсутныя, але ня выступіўшыя са складу двара яго члены, прычым супроць адсутных азначаюцца падставы і час іх адсутнасьці, бо згодна 16 і 73 арт. арт. зям. код. ня ўдзел члена, які пашоў на працоўныя заробкі, у гаспадарцы больш 2 севазваротаў, а пры адсутнасьці правільнага севазвароту больш 6 гадоў, ні працай сваей ні сродкамі выклікае для яго страту права на зямлю і іншую маемасьць у складзе яго двара. Дзеля гэтага неабходнасьць узбуджэньня справы аб прызнаньні асобы бязьведама адсутнай, а потым і памёршай, можа для зямельных органаў узьнікнуць толькі ў адносіне да тых членаў двара, якія на грунце арт. 16 Зям. Код. павінны лічыцца ў складзе двара, сколькі-б не цягнулася іх адсутнасьць“.

11. Бабруйская Акруговая Зямельная Камісія прасіла растлумачыць наступнае пытаньне:

„Грамадзянін мае $3^1/_2$ дзес. сельскагаспадарчай зямлі ў межы гараду, і 2 дз. зямлі працоўнага карыстаньня ў вёсцы. У ёй робіцца ўнугрыпасельнае землярпарадкаваньне. Ці можа зямельная камісія пры разглядаваньні землярпарадчага праэкту пазбавіць грамадзяніна гарадзкой зямлі і даць яму мінімальную норму ў вёсцы, ці пазбавіць яго зямлі працоўнага карыстаньня з тым, каб гарадзкі савет кампэнсаваў яго ў горадзе“.

Разгледзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым паседжаньні 27 студзеня 1927 году, Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю журналам сваім № 23 ў разьвіцьцё арт. 17 Зям. Код. растлумачыла:

„Пазбаўленьне грамадзяніна зямлі можа рабіцца толькі на падставах, паказаных у законе. Правядзеньне землярпарадкаваньня не зьяўляецца такою падставаю, калі землякарыстаньне не перавышае максімальнае нормы. Злучэньне двох або некалькіх вучасткаў у адзін пры землярпарадкаваньні магчыма толькі ў тым выпадку, калі ўсе гэтыя вучасткі ўваходзяць у агульную дачу разьмеркаваньня, чаго ў даным выпадку нама. Па гэтаму калі ў прыведзеным прыкладзе землякарыстальнік сам ад зямлі не адмаўляецца, ён павінен быць пакінут пры фактычным землякарыстаньні, месца разьмяшчэньня і межы якога пры землярпарадкаваньні могуць быць зьменены“.

12. У практыцы Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю ўзьнікла такое пытаньне:

„У якім парадку павінна рабіцца адплата ўкладзеных у зямлю, але нескарыстаных затрат, пры забраньні палепшанай зямлі ў парадку арт. 22 Зям. Код. для дзяржаўных і грамадзянскіх патрэб насьцяй, пры ўнутрыпасельным земляўпарадкаваньні і пры адабраньні лішкаў зямлі ад бывшых гаспадарак.“

Разгледзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым пасяджэньні 27 студзеня 1927 году, Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю журналам сваім № 22 растлумачыла:

„У выпадку забраньня мэліараванай зямлі ацэнку нескарыстаных затрат па палепшаньні робіць земляўпарадчык у парадку, устаноўленым пунктам 2 абежніку Народнага Камісарыяту Зямляробства за 28 ліпеня 1926 г. № 18. Вынікі ацэнкі запісваюцца ў земляўпарадчы праэкт, які на агульнай падставе прад'яўляецца старанам і разглядаецца затым зямельнымі камісіямі. Пастанова апошніх выконваецца ў гэтай часьці адначасна з пераходам удзельнікаў земляўпарадкаваньня да землякарыстаньня ў новых межах паводле ўвагі да арт. 169 Зям. Код. У прыватнасьці, пры забраньні засеянай зямлі, апошняя павінна перадавацца новаму землякарыстальніку пасьля зьняцьця ранейшым ураджаю ў тым-жа годзе. Калі-ж на вучастку застаюцца яшчэ некаторыя многагадовыя культуры, дык новы землякарыстальнік аплачвае выдаткі ранейшага на падставах, паказаных у земляўпарадчым праэкце“.

13. Пытаньне Чарэйскага Раённага Выканаўчага Камітэту.

„Ёсьць распараджэньне не затрымліваць перасяленцаў. Якім чынам можна хутка зрабіць рэгістрацыю ўмовы аб продажу перасяленцамі будынкаў з застаўленьнем іх на месцы, калі згодна тлумачэньню Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю (журнал 15 тл. 4) прадаць такім спосабам будынкі можна толькі таму, хто атрымлівае ў парадку надзяленьня ад зямельных органаў сядзібу пад будынкамі, надзяленьне-ж патрабуе многа часу, бо яно павінна прайсьці стадыі складаньня земляўпарадчага праэкту, прад'яўленьня яго і разгляду зямельнымі камісіямі.

Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю, разгледзеўшы пытаньне ў распарадчым паседжаньні 22 сакавіка 1927 г., у разьвіцьцё арт. 24 Зям. Код. журналам сваім № 25 растлумачыла;

„Умова аб продажу працоўным землякарыстальнікам належачых да яго будынкаў з застаўленьнем іх для скарыстаньня на месцы можа быць зарэгістравана раённым выканаўчым камітэтам толькі ў тым разе, калі раённы выканаўчы камітэт прызнае, што пакупнік будынкаў мае права надзяленьня зямлёю ў першую чаргу згодна арт. 10 Зям. Код., пасьля чаго прызнаньне гэтае будзе аформлена ў парадку землянадзяленьня“.

Пытаньне Калінінскае акруговае зямельнае камісіі:

14. „Пасьля вынесеньня ў парадку арт. 25 і ўвагі 3 да арт. 199 Зям. Код. прыватнае пастановы аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня, ці павінна зямельная камісія назначыць справу да разгляду ў судовым парадку для разьмеркаваньня спрэчкі аб парушаным праве па сутнасьці, калі зацікаўлены адказчык не хадайнічае аб гэтым і, значыць, згаджаецца з прыватнай пастановай зямельнай камісіі аб адабраньні ад яго самавольна захопленай ім зямлі“.

Разгледзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым паседжаньні 30 студзеня 1926 г. Асобая Калегія Вышэйшага Контролю журналам сваім № 3 растлумачыла:

„Зямельная Камісія разглядае пытаньне аб справе спрэчнікаў на зямлю, аб якой зроблена прыватная пастанова, толькі ў тым разе, калі іск аб гэтым будзе прад'яулен зацікаўленай стараною“.

15. „Ці не пярэчыць разьдзел XXIII інструкцыі зямельным камісіям аб спрошчаным парадку разгляду спраў аб захопах зямлі артыкулу 103 карн. код. і ці не пазбаўляе гэты разьдзел пацярпеўшага права на ўзбуджэньне карнага прасьледаваньня за зробленае адказчыкам свавольства“.

Па гэтаму пытаньню Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю дала 20 сакавіка 1926 г. ў журнале № 7 наступнае тлумачэньне:

„Права на іск у спрошчаным парадку аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня ўстаноўлена артыкулам 25 і ўвагай 1 да арт. 199 Зям. Код. Разьдзел XXIII інструкцыі толькі больш дакладна вызначае працэсуальны парадак разгляду гэтых спраў. Ніякага пярэчаньня паміж названымі артыкуламі зям. код. і арт. 103 карн. код. няма, бо з аднаго боку ня ўсякае парушэньне землякарыстаньня і перашкода ў гаспадарцы дасьць адзнакі свавольства, а з другога—права ўзбуджэньня карнага прасьледаваньня адказчыка за зробленае ім свавольства заўсёды належыць да пацярпеўшага на грунце арт. 192 інструкцыі.

## Пастановы Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю.

### По іску Віцебскага Райвыканкому да гр-н Івановых аб скасаваньні арэнднага дагавору і спагнаньні 125 р.

У 1926-м годзе Віцебскі Раённы Выканаўчы Камітэт падаў заяву ў Акруговую Зямельную Камісію аб скасаваньні арэнднага дагавору, які заключан быў ім з гр-нам ІВАНОВЫМ 10 сакавіка 1925 году аб здачы ў арэнду на тэрмін 8 год цэнтру маёнку Дзеканы з прычыны невыкананьня арандатарамі яго ўмоў дагавору і прасіў аб прысуджэньні з апошніх няўплачанай арэнднай платы ў суме 125 р.

Арэндная плата была вызначана ў разьмеры 187 руб.

28 студзеня 1927 г. Віцебская Акруговая Зямельная Камісія, разгледзеўшы гэту справу, пастанавіла скасаваць арэндны дагавор за 10 сакавіка 1925 г. і прысудзіла з гр-н Івановых у карысьць Райвыканкому 125 р.

Гр-намі Івановымі была падана скарга ў Асобую Калегію Вышэйшага Кантролю, у якой яны паказваюць, што з іх прылічалася нядоімкі толькі ў разьмеры 39 р. 50 кап., што разам з арэнднай платай яны ўлажылі за два гады ў арандуемую ім маемасьць каля 1000 руб., маючы на ўвазе, што яны будуць карыстацца на працягу 8 гадоў, і што ня было ніякіх падстаў для скасаваньня дагавору.

Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю разгледзеўшы гэту справу 15 красавіка 1927 г. знайшла;

1) З тае прычыны, што дагавор ад 10 сакавіка 1925 г., які па агульнай сваёй суме больш 1000 руб., наўпрэкі вымаганьням арт. 137 Гр. Код., ня быў засьведчаны ў натарыяльным парадку, у моц арт. 29 Гр. Код. зьяўляецца несапраўдным незалежна ад таго, ці выконвалі арандатары ўсе пункты яго або не.

2) Паводле арт. 36 Гр. Код. і ўвагі 1 да арт. 130 таго-ж Кодэксу, вышэйпамянёны арэндны дагавор зьяўляецца несапраўдным з моманту яго заключэньня, а таму з гэтага моманту ня можа быць крыніцай якіх небудзь праў і абавязкаў, на ім аснованых. Між тым, Акруговая Зямельная Камісія ў падставу прысуджэньня з арэндатараў Івановых 125 руб. палажыла істотны пункт несапраўднага дагавору, які тычыцца арэнднай платы.

3) Дзеля таго, што арэндны дагавор за 10 сакавіка 1925 г. падлягаў прызнаньню несапраўдным з прычыны парушэньня вымагаемай законнай формы, то пры вытварэньні разрахунку між старанамі Акруговай Зямельнай Камісіі належыла кіравацца арт 151 Гр. Код., паводле якога кожная з старон абавязана зьвярнуць другой старане ўсё тое, што атрымана паводле дагавору, г. з. стороны павінны зьвярнуцца ў перша-пачатковае становішча адносна прадмету дагавору. У зьвязку з чым, арандатары Івановы павінны зьвярнуць Райвыканкому ўсе прыбыткі, якія мелі ў сувязі з карыстаньнем арандуемай маемасьцю, а Райвыканком павінен зьвярнуць арандатарам Івановым усе выдаткі і затраты, якія яны мелі і ўлажылі ў арандуемую імі маемасьць.

Кіруючыся арт. 201 і 203 Зямельнага Кодэксу, Асобая Калегіа Вышэйшага Кантролю пастанавіла:

Пастанову Віцебскай Акруговай Зямельнай Камісіі за 28 студзеня 1927 г. адмяніць і справу дзеля новага разгляду накіраваць у тую-ж Камісію ў іншым складзе. Паведаміць Віцебскаму Акруговаму Пракурору аб прыцягненьні да адказнасьці вінаватых службовых асоб за невыкананьне арт. 137 Гр. Код.

### Па іску Ізабелы Насьцюшонак да Даменіка Насьцюшонка аб падзеле гаспадаркі.

Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю па спрэчных зямельных справах 14 студзеня 1927 г., разгледзеўшы касацыйную скаргу Ізабелы Насьцюшонак на пастанову Барысаўскай Акруговай Зямельнай Камісіі за 30 чэрвеня 1926 г. па іску Ізабелы Насьцюшонак да Даменіка Насьцюшонка знайшла наступае:

1. Ізабела Насьцюшонак падала да свайго сьвёкра Даменіка Насьцюшонка іск аб падзеле іх супольнай гаспадаркі, маючай 6 дзес. зямлі. Барысаўская Акруговая Зямельная Камісія, разгледзеўшы гэту справу 30 чэрвеня 1926 г., зьмяніла адбыўшуюся па гэтай справе пастанову Раённай Зямельнай Камісіі і прысудзіла ісцу Насьцюшонак ад яе сьвёкра ў парадку арт. 84 Зям. Код. компэнсацыю за частку маемасьці, якая ёй прылічаецца, у разьмеры 93 руб, заставіўшы зямлю спрачаючыхся ў іх супольным карыстаньні.

2. У парадку арт. 84 Зям. Код. можа быць толькі дабрахвотны выхад з недра-

бімай гаспадаркі члена яе. Дзеля гэтага Зямельная Камісія ня мае права без хадайніцтва аб тым ісца пазбавіць яго праў членства ў дварэ, прысудзіўшы яму выплату, паводле арт. 84 Зям. Код.

Зямельная Камісія, разглядаючы справу па іску аб падзеле і ўстанавіўшы факт недрабімасьці гаспадаркі, павінна высьветліць, ці хочаісьцец выйсьці з гаспадаркі ў парадку арт. 84 Зям. Код. У выпарку згоды яго на гэта Зямельная Камісія разглядае справу ў парадку арт. 84 Зям. Код., у супраціўным выпадку належыць з прычыны драбімасьці гаспадаркі абмежавацца толькі адмаўленьнем у іску аб падзеле яе.

3. Калі-ж Акруговая Зямельная Камісія разглядала гэту справу ў парадку арт. 84 Зям Код., яна няправільна заставіла зямлю гаспадаркі грамадзян Насьцюшонкаў у сумесным іх карыстаньні, бо член гаспадаркі, які выходзіць з яе ў парадку арт. 84 Зям. Код., перастае быць членам гэтага двара, а дзеля гэтага паводле арт. 65 Зям. Код., ён ня мае права на супольнае карыстаньне зямлёю з астатнімі членамі двара.

4. Дзеля таго, што Ізабела Насьцюшонак не прасіла аб прысуджэньні ёй кампэнсацыі ў парадку арт.84 Зям. Код., прыймаючы гэта пад ўвагу, аскарджаная пастанова Акруговай Зямельнай Камісіі падлягае адмене.

Кіруючыся арт. 201 і 203 Зям. Код. Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю пастанавіла:

Пастанову Барысаўскай Акруговай Зямельнай Камісіі ад 30 чэрвеня 1926 г. адмяніць, і справу дзеля новага разгляду накіраваць у тую-ж камісію ў іншым складзе.

# АГЛЯД ВАЖНЕЙШЫХ АКТАЎ САВЕЦКАГА ЗАКОНАДАЎСТВА, АПУБЛІКАВАНЫХ ЗА ЧАС АД 1/I да 1/IV—1927 г.

## *А. Пастановы Ураду СССР.*

### I. Праца.

1) Пастанова ЦВК і СНК СССР за 14 студзеня 1927 г. аб службовых камандыроўках у межах СССР (З. З. № 4, арт. 42) зьяўляецца адным з мерапрыемстваў па правядзеньні рэжыму эканоміі. Службовай камандыроўкай прызнаецца паездка працаўніка па загаду наймаўцы для выкананьня службовага даручэньня па-за месцам сталай работы. Службовая камандыроўка ня можа прадаўжацца больш двух месяцаў, ня лічачы часу знахаджэньня ў дарозе. У выпадку асобнай неабходнасьці дапушчаецца прадоўжаньне тэрміну камандыроўкі ня больш чым на адзін месяц. Для пакрыцьця ўсіх асабовых выдаткаў камандыраванага, апрача найму кватэры, выплачваюцца сугачныя ў разьмеры ад 2 р. 50 к. да 10 руб. (1/30 месячнага заработку). За наём кватэры адшкадоўваецца ад 3 руб. (сельскія мясцовасьці, павятовыя гарады) да 7 р. (сталіцы). Праезд аплачваецца: на чыгунцы—па тарыфу жорсткага вагону, па водных шляхох па тарыфу 2-й клясы, па шасэйных і грунтавых дарогах—па існуючаму кошту. Дапушчаецца паводле згоды старон памяншэньне ўстаноўленай нормы сутачных ня больш чым на 50 проц.

2) Пастанова ЦВК і СНК за 14 студзеня 1927 г. аб умовах працы тымчасовых рабочых і служачых (З. З. № 9, арт. 80) рэгулюе гэтыя ўмовы, нездавальняюча нармаваныя Кодэксам Законаў аб Працы. Тымчасовымі прызнаюцца рабочыя і служачыя, якія наймаюцца на вызначаны ў межах 2-х месяцаў тэрмін, або на тэрмін нявызначаны, але ня звыш 2 месяцаў, а таксама рабочыя і служачыя, якія наймаюцца на тэрмін ня звыш 4 месяцаў, каб замяніць працаўнікоў, якія часова адсутнічаюць і за якімі на законнай падставе захоўваецца іх пасада. Важнейшыя выняткі з працоўнага законадаўства ўстаноўлены ў адносінах да парадку і тэрміну парваньня працоўнага дагавору. Пры найме на нявызначаны час наймаўца мае права парваць дагавор ва ўсякі час без вытлумачэньня прычын, папярэдзіўшы наняўшагася за суткі. Для парваньня дагавору аб найме на вызначаны час устаноўлены падставы, аналёгічныя прадугледжаным арт. 47 К. ЗАП, але адпаведна тымчасоваму характару працы скарочаны тэрмін: для прыпынку работ ў прадпрыемстве, для знаходжаньня наняўшагася пад вартай, а таксама для няяўкі з прычыны тымчасовае страты працаздольнасьці—адзін тыдзень. Папярэджаньне аб звальненьні за трое сутак і выдача выхадное дапамогі пры адсутнасьці папярэджаньня ўстаноўлены толькі для выпадкаў ліквідацыі прадпрыемства, скарачэньня працы ці прыпынку яе; ва ўсіх іншых выпадках папярэджаньня не патрабуецца. Тымчасовыя рабочыя і служачыя правам на водпуск або на замяняючую яго компэнсацыю не карыстаюцца.

### II. Жыльлёвае будаўніцтва.

3) Пастанова ЦВК і СНК СССР за 31 сьнежня 1926 г. аб устанаў-

леньні мэтавай надбаўкі да складак на сацыяльнае страхаваньне і адлічэньняў ад іх на ўтварэньне фонду рабочага кватэрнага будаўніцтва (З. З. № 2, арт. 19) выдана з мэтаю пашырэньня рабочага жыльлёвага будаўніцтва. Надбаўка спаганяецца органамі сацыяльнага страхаваньня ў разьмеры, устаноўленым у процантных адносінах да выплачанай заработнай платы.

## III. Народная Гаспадарка.

4) Пастановай СНК СССР за 11 студзеня 1927 году зацьверджана палажэньне аб заўсёдным дзяржаўным хлебным фондзе (З. З. № 5, арт. 49), які арганізуецца для здавальненьня патрэб насельніцтва ў харчах, пошары і насеньні на выпадак няўроды або іншае бядоты, для здавальненьня надзвычайных патрэб дзяржавы ў хлебе і пошары, для зьнішчэньня перабояў у здавальненьні спажываючых раёнаў і рэгуляваньня хлебных цэн на выпадак надзвычайнага іх павялічэньня. Выдаткаваньне фонду робіцца загадамі Наркамгандлю СССР.

5) Пастанова ЦВК і СНК СССР за 21 студзеня 1927 г. аб рэарганізацыі таварных бірж (З. З. № 6, арт. 56) устанаўляе асновы гэтай рэарганізацыі: дабрахвотнасьць удзелу прадпрыемстваў, у тым ліку дзяржаўных трэстаў, у якасьці членаў бірж і зьвяртаньня да біржавога фактарства; асроджаньне чыннасьці бірж на фактарскай рабоце з таварамі, якія сапраўды маюць запатрабаваньне фактарства, на катыроўцы тавараў па зьдзелках, зробленых на біржы, і на рэгістраваньні пазабіржавых зьдзелак, для якіх устаноўлена абавязковасьць рэгістраваньня і скарачэньня сеткі бірж, якія захоўваюцца толькі ў 14 найбольш буйных гандлёвых пунктах СССР. Паводле гэтага закону ўсе таварныя біржы БССР зачынены.

## IV. Крымінальнае права.

6) Пастановамі 3-й сэсіі ЦВК СССР III скліканьня за 25 лютага 1927 г. (З. З. № 12, арт. арт. 122 і 123) зацьверджаны шэраг зьмен асноў крымінальнага законадаўства СССР і саюзных рэспублік і палажэньне аб дзяржаўных злачынствах (контр-рэвалюцыйных і асабліва небясьпечных для СССР злачынствах супроць парадку кіраваньня. Выклад сутнасьці гэтых законаў гл. ў гэтым нумары, у хроніцы.

## V. Сацыяльнае забесьпячэньне.

7) Пастанова ЦВК і СНК за 31 сьнежня 1926 г. аб забясьпечаньні сем'яў грамадзян, якія заклікаеы на сапраўдную вайсковую службу ў кадравым складзе частак рабоча-сялянскае Чырвонае Арміі (З. З. № 3, арт. 30) устанаўляе права на сацыяльнае забясьпечаньне членаў сем'яў заклканых, якія карыстаюцца льготамі па сямейна-маемаснаму становішчу, калі яны знаходзіліся на ўтрыманьні закліканых. Асобы, якія падпадаюць пад забясьпечаньне, або зьмяшчаюцца ва ўстановы органаў сацыяльнае забясьпекі, аховы здароўя і народнае асьветы, або атрымоўваюць штомесячныя грашовыя дапамогі. Права на забясьпечаньне ў парадку пастановы 31/XII--26 г. ня маюць асобы, якія падпадаюць пад забясьпечаньне ў парадку сацыяльнага страхаваньня, або на падставе адмысловых узаканеньняў. Пазбаўляюцца забясьпекі сем'і дэзэртыраў.

## VI. Фінансы і крэдыт.

8) Пастанова ЦВК і СНК СССР за 22 сьнежня 1926 г. аб устанаўленьні дзесяці--гадовага тэрміну для паданьня на аплату облігацый, якія выйшлі ў тыраж, і паданьня заявак на атрыманьне выйгрышаў

з дзяржаўнай выйгрышнай пазыкі 1922 г., 2-й дзяржаўнай выйгрышнай пазыкі 1924 г., 2-й дзяржаўнай сялянскай выйгрышнай пазыкі і дзяржаўнай унутранай выйгрышнай пазыкі 1926 г. (Збор. Зак. № 1, арт. 4) выдана з прычыны таго, што ня ўсе асобы, якія маюць пералічаныя облігацыі, скарысталі ўстаноўлены трохгадовы тэрмін для паданьня на аплату облігацый, якія выйшлі у тыраж, а таксама для атрыманьня выкупное сумы і паказаньне заявак на атрыманьне выйгрышаў.

9) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 7 студзеня 1927 г. зацьверджана палажэньне аб сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту (З. З. № 4, арт. арт. 38 і 39). Мэта ўстановы сельска-гаспадарчага крэдыту--дапамога разьвіцьцю сельскае гаспадаркі і сельска-гаспадарчай прамысловасьці. У сыстэму ўстаноў сельска-гаспадарчага крэдыту ўваходзяць: Цэнтральны-Сельска-Гаспадарчы Банк СССР, сельска-гаспадарчыя банкі саюзных рэспублік, таварыствы сельска-гаспадарчага крэдыту (мясцовыя сельска-гаспадарчыя банкі), сельска-гаспадарчыя крэдытна- коопэрацыйныя організацыі. Усесаюзны і рэспубліканскія сельска-гаспадарчыя банкі закладаюцца ў форме акцыйных таварыстваў з удзелам дзяржаўнага капіталу (ня менш 51 проц. акцый); парадак іх чыннасьці і аб'ём опэрацый вызначаюцца статутамі. Агульныя палажэньні аб організацыі і чыннасьці таварыстваў сельска-гаспадарчага крэдыту зацьвярджаюцца СНК СССР; нормальныя статуты зацьвярджаюцца ўрадамі саюзных рэспублік. Нагляд за чыннасьцю ўстаноў сельска-гаспадарчага крэдыту ажыцьцяўляецца Народнымі Камісарыятамі Грашовых Спраў СССР і саюзных рэспублік у парадку агульнага нагляду і рэгуляваньня чыннасьці крэдытных устаноў. У законе падробна выкладзены функцыі Цэнтральнага Сельска-Гаспадарчага Банку СССР і рэспубліканскіх банкаў — прадстаўніцтва інтарэсаў усёй сыстэмы ўстаноў сельска-гаспадарчага крэдыту, плянаваньне іх дзейнасьці і кіраваньне імі, распрацоўка агульных правіл рэвізіі і кантролю.

10) Пастанова ЦВК і СНК СССР за 18 студзеня 1927 г. аб зацьверджаньні палажэньня аб коопэрацыйным крэдыце (З. З. № 4, арт. арт. 43 і 44) выклікана неабходнасьцю аб'яднаць у адным законадаўчым акце шэраг законаў і ведамственых распараджэньняў. якімі да гэтага часу рэгулявалася справа коопэрацыйнага крэдыту. Спажывецкім і сельска-гаспадарчым коопэрацыйным організацыям, дзейнічаючым на падставе палажэньняў 1924 г., даецца права прыймаць уклады ад сваіх членаў. Іншыя коопэрацыйныя організацыі, утвараючыя крэдытныя опэрацыі, маюць права працягваць гэтыя опэрацыі да канца тэрмінаў, якія ўстанаўляюцца ў парадку законадаўства саюзных рэспублік.

Асноўная задача крэдытнай коопэрацыі—абслугоўваньне шляхам дачы грашовага крэдыту вытворчых патрэб коопэраванага ім насельніцтва, якое займаецца сельскай гаспадаркай або саматужнымі промысламі і рамёсламі. Членамі крэдытных таварыстваў могуць быць фізычныя і юрыдычныя асобы (першастковыя коопэрацыйныя організацыі ўсіх відаў). Найменшы лік членаў крэдытнага таварыства —50; для саюзу гэты мінімум устаноўлен у пяць членаў. Уклады прымаюцца імянныя і на паказчыка; дапушчаецца ўнясеньне ўкладу з паказаньнем асобы, якой уклад павінен быць выдадзен пасьля сьмерці ўкладніка, незалежна ад таго, ці ўваходзіць гэта асоба ў кола законных спадчынаёмцаў. Усякія даведкі аб укладах могуць выдавацца толькі самім кліентам або судовым і сьледчым органам у

выпадках паказаных у законе. На ўклады можа быць зварочана спагнаньне і накладзен арышт ня інакш, як па асобнай пастанове суду. Нагляд за чыннасьцю крэдытна - коопэрацыйных організацый зьдзяйсьняецца народнымі камісарыятамі грашовых спраў.

11) Пастанова ЦВК і СНК СССР за 4 лютага 1927 г. аб выдачы дзяржаўнае ўнутранае дзесяціпроцантнае выйграшнае пазыкі 1927 году (З. З. № 7, арт. 71) устанаўляе суму пазыкі ў 100 мільёнаў рублёў, вартасьць паасобнай аблігацыі ў 25 рублёў, выпускную цану яе 24 рублі, тэрмін пазыкі ў 8 гадоў.

## VII. Замежны і ўнутраны гандаль.

12) Пастанова СНК СССР за 9 лістапада 1926 г. аб абавязковым вядзеньні рахункаводзтва гандлёвымі і прамысловымі прадпрыемствамі (З. З. № 1, арт. 8) выдана дзеля скасаваньня ранейшых пастаноў па даным прадмеце і значна спрашчае абавязкі прадпрыемстваў па вядзеньню гандлёвых кніг. Кожнае прадпрыемства, у залежнасьці ад разраду, павінна весьці вучот касавых таварных і разьлікавых опэрацый, інвэнтару і матар'ялаў. Вучот вядзецца на адной з жывых моваў і можа весьціся або ў кнігах, або па картках, або па паасобных аркушах на надставе асобных правілаў. Гэтыя кнігі, карткі і аркушы павінны падавацца інспэктарам па непасрэдных падатках. Парушэньне пастановы і правіл караецца як парушэньне правіл аб гандлю.

13) Пастановай СНК СССР за 11 лютага 1927 г. зацьверджан збор мытных тарыфаў па прывознаму і вывознаму гандлю (З. З. № 8, арт. арт. 78 і 79); разам з гэтым скасаваны мытныя тарыфы 1924 г. і шэраг наступных узаканеньняў, якія дапаўнялі і зьмянялі гэтыя тарыфы. Стаўкі мытных пошлін установлены з такім разьлікам, каб дапамагаць разьвіцьцю унутранай вытворчасьці, высокімі прывознымі мытамі абкладаюцца такія тавары, якія вырабляюцца ў выстарчальнай колькасьці ў СССР, а таксама прадметы пышнасьці, меншымі мытамі абкладаюцца прадметы, якія зусім не вырабляюцца ў СССР, або патрэбны для разьвіцьця ўнутраных вытворчых сіл. Асобныя льготы ўстаноўлены для гандлю з краінамі, якія прылягаюць да нашай азіяцкай граніцы. Пералік тавараў, вываз якіх забаронен, скарочан.

## VIII. Прамысловасьць.

14) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 17 сьнежня 1926 г. аб рэгуляваньні мукамольнай прамысловасьці СССР (З. З. № 2, арт. 15) рэгуляваньне мукамольнай прамысловасьці СССР, якое да гэтага часу было ўскладзена на Вышэйшыя Саветы Народнай Гаспадаркі, аднесена да веданьня Народных Камісарыятаў Гандлю СССР і саюзных рэспублік. Загадваньне дзяржаўнымі прадпрыемствамі мукамольнай прамысловасьці ўскладаецца на народныя камісарыяты гандлю саюзных рэспублік і іх мясцовыя органы. Млынарныя прадпрыемствы, якія не знаходзяцца пад ведамам вышэйшых саветаў народнай гаспадаркі саюзных рэспублік, могуць перадавацца да народных камісарыятаў гандлю па спэцыяльнай кожны раз пастанове экономічнае нарады саюзнае рэспублікі.

## *Б. Пастановы Ураду БССР.*

## I. Сельская і лясная гаспадарка.

1) Пастановай Савету Народных Камісараў за 17 студзеня 1927 г. зацьверджана часовае палажэньне аб Беларускім Навуковага Дасьледчым Інстытуце Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. ЛЕНІНА (З. З.

№ 8, арт. 27). Інстытут мае на мэце на аснове сыстэматычнага і ўсебаковага вывучэньня сельскае і лясное гаспадаркі Беларусі дапамагаць разьвіцьцю вытворчых сіл у гэтых галінах народнае гаспадаркі. Задачы яго: організацыя стацыянарных і экспэдыцыйных досьледаў, распрацоўка навуковых літаратурных матар'ялаў, распрацоўка навуковых асноў рацыяналізацыі сельскае і лясное гаспадаркі Беларусі, распрацоўка агульных тэорэтычных пытаньняў сельскае і лясное гаспадаркі, падрыхтоўка маладых навукова-дасьледчых работнікаў у галіне сельскагаспадарчых і лясных навук, аб'яднаньне і навуковае кіраваньне сялян-дасьледчыкаў, папулярызацыя сярод шырокіх гушч Рэспублікі дасягненьняў сельска-гаспадарчых і лясных навук і практычнага ўжываньня іх у сельскай і лясной гаспадарцы. Інстытут складаецца з пяці аддзелаў: расьлінагадоўлі і прыкладное батанікі; жывёла-гадоўлі і прыкладное зоолёгіі, лясное гаспадаркі; мэліорацыі і культуры балот; сельскагаспадарчае экономіі і аграрнае палітыкі. На чале інстытуту стаіць савет з прадстаўнікоў СНК, Інбелкульту, Дзяржплану, НКЗ, ВРНГ, НКА, Акадэміі Сельскай Гаспадаркі і ЦСПСБ. Інстытутам кіруе дырэктар, які выбіраецца Саветам і зацьвярджаецца СНК.

## II. Грамадзянскае права.

2) Пастановай СНК за 12 студзеня 1927 г. зацьверджаны правілы аб прыблуднай жывёле, выдадзеныя ў разьвіцьцё арт. 68 Грамадзянскага Кодэксу (З. З. № 5, арт. 18). Затрыманая прыбудная жывёла, калі гаспадар яе невядомы, перадаецца сельскім саветам у часовае карыстаньне сялянскага таварыства ўзаемадапамогі; па пастанове камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі прыблудная жывёла можа перадавацца ў часовае карыстаньне паасобным бяднейшым сялянскім гаспадаркам. Прыблудныя коні і каровы могуць знаходзіцца ў часовым карыстаньні камітэту 2 гады, а дробная жывёла—1 год. Пасьля выхаду гэтага тэрміну гаспадар губіць свае права на жывёлу і калі ён ня будзе знойдзен, то жывёла пераходзіць ва ўласнасьць камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі.

3) Пастановай IV сэсіі ЦВК VII скліканьня за 27 студзеня 1927 г. зацьверджан і ўведзен у сілу з I/III—1927 г. Кодэкс Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы (З. З. № 7, арт. 26).

Рэгістрацыя шлюбу ўстанаўляецца для палепшаньне аховы асабовых і маемасных праў супругаў і дзяцей. Шлюб афармляецца рэгістрацыяй у органах ЗАГС; да зарэгістраваных шлюбаў прыраўноўваюцца шлюбы, узятыя ў рэлігійным парадку да 1/V—1920 г. Шлюбны век для асоб абодвых полаў устанаўляецца ў 18 год. Ня могуць браць шлюб асобы душэўна-хворыя і слабыя на розум, кроўныя па простай лініі, браты і сёстры, апякуны з сваімі падапечнымі і ўсынавіцелі з усыноўленымі да спыненьня юрыдычных адносін, аснованых на апецы і ўсынаўленьні, а таксама асобы, якія ўжо знаходзяцца ў зарэгістраваным шлюбе.

Маемасьць, нажытая супругамі ў часе шлюбу супольнаю працаю, належыць абодвым супругам на асновах супольнае ўласнасьці. Маемасныя правы і абавязкі супругаў--працоўных землякарыстальнікаў рэгулююцца Зямельным Кодэксам. Дзеяньне гэтага палажэньня пашыраецца таксама і не маемасьць асоб, якія фактычна знаходзяцца ў шлюбных адносінах, хоць бы і не зарэгістраваных, калі гэтыя асобы ўзаемна прызнаюць адзін другога супругамі, альбо калі шлюбныя адносі-

ны паміж імі ўстаноўлены судом. Асоба, якая знаходзіцца ў шлюбе, мае права на ўтрыманьне ад супруга ў тым выпадку, калі яна мае ў гэтым патрэбу з прычыны непрацаздольнасьці, або беспрацоўя, а супруг па сваім маемасным становішчы можа даваць ёй падтрыманьне; жонка, апроч таго, мае права на ўтрыманьне ад мужа ў пэрыяд кармленьня дзіцяці грудзьмі. Пасьля скасаваньня шлюбу, ня маючы сродкаў да існаваньня і непрацаздольны супруг мае права на працягу аднаго году ад дню скасаваньня шлюбу на ўтрыманьне ад другога супруга, калі апошні можа дапамагаць яму; права на ўтрыманьне мае таксама і ня маючы сродкаў для існаваньня працаздольны супруг у часе беспрацоўя, на працягу 9 месяцаў ад дню разводу. Правам на ўтрыманьне і ў часе шлюбу і пасьля такого скасаваньня карыстаюцца таксама асобы, якія фактычна знаходзяцца ў шлюбных адносінах, хоць і не зарэгістраваных. Падзел кодэксу аб сям'і зьмяшчае парадак устанаўленьня пахаджэньня дзіцяці, асабовыя правы і абавязкі дзяцей і бацькоў і маемасныя правы і абавязкі кроўных асоб. Бацькоўства, у выпадку спрэчкі, устанаўляецца народным судом. Бацькі павінны клапаціцца аб сваіх няпоўналетніх дзецях: аб іх выхаваньні, фізычным разьвіцьці, навучаньні і аб падрыхтоўцы да грамадзка-карыснай дзейнасьці, а таксама павінны абараняць іх асабовыя і маемасныя інтарэсы. Бацькоўскія правы даюцца бацьком да дасягненьня дзяцьмі паўналецьця. Бацькоўскія абавязкі ляжаць аднолькава на абодвых бацьках. Абодвы бацькі маюць таксама аднолькавыя правы ў адносінах да дзяцей. У выпадку невыкананьня бацькамі сваіх абавязкаў або злоўжываньня сваіх праў, яны могуць быць пазбаўлены пастановаю суду бацькаўскіх праў. Пазбаўленьне бацькаўскіх праў не звальняе бацькоў ад выдаткаў на ўтрыманьне і выхаваньне дзяцей. У выпадку адсутнасьці сродкаў для існаваньня непрацаздольнасьці, беспрацоўя і г. д. бацькі маюць права на ўтрыманьне ад дзяцей, няпоўналетнія браты і сёстры—ад сваіх родных братоў і сясьцёр, дзед і бабка—ад унукаў, унукі—ад дзеда і бацькі. Наступны падзел кодэксу зьмяшчае правілы аб усынаўленьні. Усынаўленьне дапушчаецца толькі ў адносінах да няпоўналетніх дзяцей, члены сялянскага двара могуць усынаўляць незалежна ад узросту ўсынаўляемага пры ўмове, што ўсынаўляемы будзе фактычным удзельнікам у вядзеньні гаспадаркі данага двара. Усынавіцель павінен мець ня менш 20 гадоў і быць старэйшы за ўсынаўляемага ня менш як на дзесяць год. Апошні падзел Кодэксу зьмяшчае правілы аб апецы і папячыцельстве. Апека ўстанаўляецца над асобамі няпоўналетнімі да 14 гадоў, над душэўна-хворымі і над слабымі на розум, а таксама над маемасьцю памершага, або невядома дзе адсутнага. Папячыцельства ўстанаўляецца над асобымі дзеяздольнымі, калі яны па сваім фізычным стане або псыхічным укладзе ня могуць самастойна абараняць свае правы і інтарэсы, над няпоўналетнімі старэйшымі за 14 гадоў, а таксама над марнатраўцамі. Органамі апекі і папячыцельства зьяўляюцца: у сельскіх мясцовасьцях—прэзыдыумы сельскіх саветаў, у мястэчках—прэзыдыумы местачковых саветаў, у гарадох—прэзыдыумы гарадзкіх саветаў. Да абавязкаў гэтых органаў належаць: устанаўленьне і ажыцьцяўленьне і зьняцьце апекі і папячыцельства, назначэньне, звальненьне і адхіленьне апякуноў і папячыцеляў, нагляд за іх дзейнасьцю, а таксама падняцьце ў належных выпадках супроць гэтых асоб судовых спраў. Апяку-

намі і папячыцелямі могуць назначацца дзеяздольныя асобы, пераважна з асоб блізкіх падапечнаму, або з асоб вылучаных профэсіянальнымі організацыямі, сялянскімі таварыствамі ўзаемадапамогі і іншымі ўстановамі і організацыямі, якія маюць на мэце абарону дзяцей; ня могуць быць апякунамі і папячыцелямі: асобы пазбаўленыя выбарных праў, асобы пазбаўленыя бяцькаўскіх праў, даўжнікі, крэдытары і наогул асобы, інтарэсы якіх супярэчаць інтарэсам асоб, належачых да апекі або папячыцельства, і асобы пазбаўленыя праў судом. Апякунскія абавязкі складаюцца з клопатаў аб асобе падапечнага, аб яго выхаваньні, фізычным разьвіцьці, лячэньні, ахове і г. д., з кіраваньня яго маемасьцю і з прадстаўніцтва за падапечнага ва ўсіх справах і выпадках; апякуны над душэўнахворымі і слабымі на розум павінны рабіць захады аб лячэньні і аб трыманьні іх ва ўмовах, адпавядаючых стану іх здароўя. Да Кодэксу даданы правілы аб запісах актаў грамадзянскага стану і аб аглядзе душэўна-хворых і слабых на розум.

4) Пастановай ЦВК і СНК за 7 лютага 1927 г. зацьверджана палажэньне аб дагаворы камісіі (З. З. № 9, арт. 30), якое ўключана ў Грамадзянскі Кодэкс. Паводле гэтага палажэньня камісіянэр выступае па ўгодах з трэцімі асобамі як самастойны кантрагэнт ад свайго імя, дзейнічаючы з кошт камітэнта. Камісыянэрам і камітэнтам могуць быць фізычныя і юрыдычныя асобы; дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы могуць выступаць у якасьці камісыянэраў і камітэнтаў з абмежаваньнямі, устаноўленымі асобнымі законамі. Па дагавору камісыянэра з трэцяю асобаю набывае правы і становіцца абавязным камісыянэр, а не камітэнт; маемасьць, што знаходзіцца ў распараджэньні камісыянэра, як дадзеная яму камітэнтам, так і купленая за кошт апошняга, прызнаецца ўласнасьцю камітэнта. Камісыянэр, наогул, не нясе адказнасьці перад камітэнтам за атрыманьне плацяжу або за іншае выкананьне трэцяю асобаю дагавору, заключанага камісыянэрам з гэтаю асобаю за кошт камітэнта, але ён можа паручыцца перад камітэнтам за трэцюю асобу, з якою ён заключыў дагавор, і тады ён павінен даставіць камітэнту ўсё, што належыць яму па дагавору. За такую паруку (дэлькрэдэрэ) камісіянэр бярэ з камітэнта спэцыяльную плату—паручальную камісію. Калі даручаецца прадаць або купіць такую маемасьць, якая мае афіцыйна публікуемыя рынкавыя або біржавыя цэны, то камісыянэр, калі іншае не ўстаноўлена дагаворам, мае права сам набываць ад камітэнта або прадаць яму сваю маемасьць па цане, існаваўшай у дзень адсылкі камітэнту паведамленьня аб набыцьці або продажу. У такім выпадку камісійныя ня плацяцца. Камісійная плата вызначаецца згодай старон, а калі няма згоды—судом. У палажэньні падробна выкладзены ўзаемныя правы і абавязкі камісіянэра і камітэнта.

5) Пастановай ЦВК і СНК за 26 студзеня 1927 г. арт. 73 Грамадзянскага Кодэксу дапоўнен трэцяй увагай (З. З. № 10, арт. 36), якая ўстанаўляе новую льготу для забудоўшчыкаў. Паводле гэтай пастановы, калі жылішчная плошча адноўленага або новага будынку складае ня менш 75 проц. усяе плошчы будынку, забудоўшчык можа быць звольнены камунальным аддзелам ад арэнднае платы за вучастак зямлі на ўвесь тэрмін або на частку тэрміну дзейнасьці дагавору аб праве забудоўкі.

## III. Судабудаўніцтва.

6) Пастановай ЦВК і СНК за 31 сьнежня 1926 г. зацьверджана Па-

лажэньне аб дзяржаўным натарыяце БССР (Зб. Зак. № 5, арт. 17). Гэтае палажэньне ўводзіцца на замену палажэньня 6 сакавіка 1925 г., на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 14/V 1926 г. аб галоўных прынцыпах організацыі дзяржаўнага натарыяту. Да компэтэнцыі дзяржаўных натарыяльных кантор належыць пасьведчаньне угод, учыненьне пратэстаў, засьведчаньне правільнасьці копій і выпісаў і праўдзівасьці подпісаў на дакумэнтах, засьведчаньне абставін і фактаў, маючых юрыдычнае значэньне, прыём заяў для перадачы іншым асобам, рэгістрацыя арыштаў, якія накладаюцца на будынкі і на права забудоўкі, захоўваньне дакумэнтаў, пераклады з аднэй мовы на іншыя, прыняцьце для перадачы плацяжоў па паданых да пратэсту вэксалёх. Пры выкананьні натарыяльных дзеяньняў, натарыусы павінны сачыць, каб засьведчаныя імі ўгоды і дакумэнты не супярэчылі закону і былі аплочаны ўстаноўленымі зборамі, не разглядаючы мэтазгоднасьці ўгод і дакумэнтаў, а таксама выгоднасьці і стратнасьці іх для старон. Пры гэтым натарыусы павінны актыўна дапамагаць працоўным у абароне іх праў і законных інтарэсаў, каб юрыдычнае няведаньне і малапісьменнасьць не маглі зрабіць ім шкоды. Акты і дакумэнты могуць быць напісаны на аднэй з дзяржаўных моў БССР—беларускай, яўрэйскай, польскай і расейскай. У палажэньні пералічаны кнігі, якія вядуць натарыяльныя канторы, запісан парадак іх вядзеньня, а таксама падробна выкладзен парадак пасьведчаньня ўгод, парадак пасьведчаньня актаў ад імя або на імя хворых, глухіх, нямых, сьляпых, парадак пратэсту вэксалёў, засьведчаньня правільнасьці копій і праўдзівасьці подпісаў, перадачы заяў адных асоб другім і рэгістрацыі арыштаў, якія накладаюцца на немуніцыпалізаваныя будынкі і права забудоўкі.

# Хроніка.

## ЗАКОНАДАЎЧАЯ ХРОНІКА.

### Пытаньні крымінальнага законадаўства на III сэсіі ЦВК Саюзу ССР III скліканьня.

На Ш-й сэсіі ЦВК Саюзу ССР III скліканьня прыняты законапраэкты ў галіне крымінальнага законадаўства, якія знаходзіліся на абмеркаваньні яшчэ папярэдняй сэсіі ЦВК БССР, у сакавіку 1926 г. і адкладзеныя па тэй прычыне, што ня было водзываў Саюзных Рэспублік. Законапраэктаў гэтых два: 1) зьмены галоўных асноў крымінальнага законадаўства Саюзу ССР і Саюзных Рэспублік і 2) Палажэньне аб дзяржаўных злачынствах. Абодвы гэтыя законапраэкты сталі цяпер законамі („Известия ЦИК“ за 27 лютага 1927 г. № 41).

I.

У першым з паказаных законаў, найбольш прынцыповым зьяўляецца зьмена арт. 3 галоўных асноў крымінальнага законадаўства, разьмяжоўваючага кампэтэнцыю Саюзу ССР і Саюзных Рэспублік у азначэньні паасобных відаў злачынстваў і парадку дапасаваньня да іх мер сацыяльнай абароны. Як і ў першапачатковай рэдакцыі арт. 3, у новай рэдакцыі яго да кампэтэнцыі Саюзу ССР аднесена, між іншым, рэгуляваньне дзяржаўных злачынстваў, але разам з тым у новую рэдакцыю арт. 3 ўведзена азначэньне паняцьця „дзяржаўныя злачынствы“, якога ў першапачатковай рэдакцыі ня было: пад дзяржаўнымі злачынствамі разумеюцца злачынствы контр-рэвалюцыйныя і асобна для Саюзу ССР небясьпечныя злачынствы супроць парадку кіраваньня. Больш-жа дакладнае азначэньне паняцьця „асобна небясьпечныя для СССР злачынствы супроць парадку кіраваньня“ уключана ў Палажэньне аб дзяржаўных злачынствах (арт. 15): гэта-злачынствы супроць парадку кіраваньня, учыненыя без контр-рэвалюцыйных мэтаў, якія хістаюць асновы дзяржаўнага кіраваньня і гаспадарчай моцы Саюзу ССР і Саюзных Рэспублік. Такім чынам, усе іншыя, менш сур‘ёзныя злачынствы супроць парадку кіраваньня, якія ўключаліся раней, згодна крымінальным кодэксам саюзных рэспублік, у катэгорыю дзяржаўных злачынстваў, цяпер павінны лічыцца выключанымі з яе і рэгуляваньне іх адносіцца да кампэтэнцыі саюзных рэспублік.

У сувязі з пытаньнем аб дзяржаўных злачынствах найбольшыя спрэчкі на Ш сэсіі ЦВК ўзбудзіла папраўка УССР, унесеная ею яшчэ на прошлую сэсію,—аб выключэньні з крымінальнага законадаўства тэрміну „дзяржаўныя злачынствы“. Прыхільнікі гэтай папраўкі паказвалі, што паняцьце дзяржава не адпавядае арганізацыі пралетарскай дзяржавы, што дзяржаве суджана памерці і па гэтаму ўжываць тэрмін „дзяржаўныя злачынствы“ ня зусім зручна. Абаронцыж захаваньня гэтага тэрміну знаходзілі, што ў выніку Кастрычнікавай рэвалюцыі ўтварылася дзяр-

жава асобная, асабістая, але ўсё-ж такі дзяржава і таму злачынствы, накіраваныя супроць яе будуць дзяржаўнымі.

Пры гэтым абаронцы такога погляду рабілі сасланьне на думку Ў. І. Леніна, выказаную ім у брашуры „Государство и Революция“, што тэрмін „дзяржава“ яшчэ доўга павінен жыць, бо дзяржава, хоць і адмірае, але і адмірае пры роўналежным разьвіцьці камунізму і зусім адамрэ толькі пры поўным камунізьме.

Іншыя зьмены галоўных асноў крымінальнага законадаўства заключаюцца ў наступным:

З арт. 9 галоўных асноў, устанаўліваючага вызваленьне ад адказнасьці за злачынныя дзеяньні, якія ўчынены ў стане неабходнай абароны, выключаны выпадкі вызваленьня ад адназнасьці асоб, учыніўшых гэтакія дзеяньні супроць пасяганьня на рэвалюцыйны парадак. Выключэньне гэта абасноўвалася тым, што няпэўнасьць у такіх выпадках аб'екту пасяганьня робіць небясьпеку, што сасланьнем на „неабходную абарону“ могуць прыкрывацца розныя праявы адміністрацыйнага самавольства. УССР ў сваіх папраўках да асноўных пачаткаў крымінальнага законадаўства пайшла яшчэ далей, прапанаваўшы выключыць з пункту „а“ арт. 32 „галоўных асноў“, устанаўліваючага зьмякчаючыя акалічнасьці, паказаньні на тое, што адной з такіх акалічнасьцяй пры правышэньні мер неабходнай абароны зьяўляецца абарона ад пасяганьня на рэвалюцыйны парадак. Аднак, гэта папраўка сэсіяй была адхілена на тэй падставе, што ў даным выпадку размова ідзе толькі аб зьмягчэньні меры сацыяльнай абароны, а не аб поўным вызваленьні ад яе.

Зьменен арт. 10 галоўных асноў, устанаўляючы і даўнасныя тэрміны для крымінальнага прасьледваньня. Па дзеючай рэдакцыі (Зб. Зак. СССР 26 г. № 55, арт. 401)—тэрміны гэтыя ўстаноўлены былі ў залежнасьці, як ад прадзельных тэрмінаў пазбаўленьня волі, паказаных у артыкулах крымінальных кодэксаў, Саюзных рэспублік, так і ад тых тэрмінаў пазбаўленьня волі, якія могуць быць назначаны судом, згодна адпаведным артыкулам кодэксаў. Цяпер-жа даўнасныя тэрміны ўстанаўліваюцца выключна ў залежнасьці ад гэтых апошніх тэрмінаў. Так, напрыклад, 10 гадовы даўнасны тэрмін устаноўлен: па дзейнічаўшай рэдакцыі арт. 10 для злачынстваў, за якія судом можа быць назначана пазбаўленьне волі на тэрмін звыш 5 год, або ў законе азначана пазбаўленьне волі ня ніжэй аднаго году, па новай-жа рэдакцыі яго—для злачынстваў, за якія судом можа быць назначана пазбаўленьне волі на тэрмін звыш 5 год. Разам з тым, у даны артыкул ўведзена новае паняцьце „перарыў даўнасьці“, працяг даўнаснага тэрміну прарываецца, калі ўчыніўшы злачынства учыніць на працягу даўнасьці другое аднастайнае, або ня менш цяжкае злачынства, або схаваецца ад сьледзтва, ці суду, пры чым працяг даўнасьці зноў пачынаецца ў першым выпадку-з дню ўчыненьня другога злачынства, а ў другім—з дню ўзбуджэньня прыпыненага справаводзтва.

Па прапанове БССР ўключана ў „галоўныя асновы“ правіла, паводле якога асобы, асуджаныя да пазбаўленьня волі на тэрмін ня звыш 3-х гадоў або да больш мягкіх мер сацыяльнай абароны, лічацца ня маючымі судзімасьці, калі ня ўчынілі другога злачынства на працягу вызначаных тэрмінаў з дню адбыцьця імі меры сацыяльнай абароны, назначанай за першае злачынства. Гэта правіла ўведзена ў асабовы арт. 10[1] „галоўных асноў“, які лічыць ня маючымі судзімасьці таксама асоб, па суду

апраўданых, і асоб умоўна асуджаных, пры няўчыненьні апошнімі на працягу апрабавальнага тэрміну новага злачынства.

Па першапачатковай рэдакцыі арт. 20 „галоўных асноў“ паражэньне праў заключалася, між іншым, у пазбаўленьні права быць членам грамадзкіх і прафэсійных арганізацый (п. „б“). Паводле новай рэдакцыі пазбаўленьне гэтага права па суду не дапускаецца, бо прызнана, што пытаньне аб дапусьцімасьці прабываньня данай асобы ў складзе членаў тэй або іншай грамадзкай арганізацыі ёсьць унутраная справа самой гэтай арганізацыі і ў адпаведнасьці з гэтым у статутах як прафсаюзу, так і іншых грамадзкіх арганізацый прадугледжваецца выключэньне з ліку членаў асоб, асуджаных за ганьбуючыя і нядобравідныя злачынствы; к таму жа пазбаўленьне па суду права быць членам грамадзкіх і прафэсійных арганізацый у сучасных умовах Савецкай дзяржавы раўнасільна пазнаўленьню магчымасьці існаваць.

У арт. 20 пунктам „б“ уключана пазбаўленьне права займаць выбарчыя пасады ў грамадзкіх арганізацыях. Апрача таго, у тым-жа арт. 20 з п. „в“, расчлененага цяпер на два пункты, выключана пазбаўленьне права выконваць грамадзкія абавязкі.

У арт. 31 з ліку акалічнасьцяй, узмацняючых адказнасьць за злачынства, выключана ўчыненьне злачынства асобай, у тэй ці іншай меры зьвязанай з прыналежнасьцю яе ў прошлым або цяперашнім да клясы асоб, эксплёатуючых чужую працу (п. „б“). У адпаведнасьці з гэтым у арт. 32 з ліку акалічнасьцяй, зьмягчаючых адказнасьць за злачынства, выключана ўчыненьне гэтакага рабочым або працоўным селянінам (п. „б“). Зьмены гэтыя ўнесены ў асноўныя пачаткі на тэй падставе, што ў сваечасовых умовах Савецкай дзяржавы клясавае пахаджэньне і клясавая прыналежнасьць, самі па сабе, у незалежнасьці ад іншых акалічнасьцяй учыненьня злачынства, ня могуць азначаць большую або меншую цяжкасьць ці слабасьць сацыяльнай рэпрэсіі, накірованай супроць паасобных асоб.

II.

У праэкт Палажэньня аб дзяржаўных злачынствах, г. зн. аб злачынствах контр-рэвалюцыйных і асобна для Саюзу ССР небясьпечных злачынствах супроць парадку кіраваньня, якія знаходзіліся на разгледжаньні саюзных рэспублік (гл. „Весьці НКЮ БССР“ 1927 г. № 1, стар. 43 і 44) пастановай сэсіі ЦВК саюзу ССР ўнесены наступныя істотныя зьмены.

Праэкт прадугледжваў толькі масовы, па папярэдняй згодзе, адмоў, або ўхіленьне ад прызываў да адбываньня сапраўднай ваеннай службы, або ад мабілізацыі, устанаўленьне адказнасьці за адмову або ўхіленьне ад прызыву, або ад мабілізацыі з боку некаторых асоб было аднесена да кампэтэнцыі саюзных рэспублік. Цяпер пастановай сэсіі ЦВК Саюзу ССР паказаныя кваліфікуючыя адзнакі „масавага“ адмаўленьня, або ўхіленьня і „папярэдняга згавору“ выключаны, бо было прызнана, што Чырвоная Армія зьяўляецца агульна-саюзнай, адносячыяся да яе заканадаўчыя органы зьяўляюцца таксама агульна-саюзнымі, а дзеля гэтага і ў даным выпадку меры сацыяльнай абароны, якія патрэбна ўжываць да адхіляючыхся ад вайсковай службы, хоць-бы гэта былі і паасобныя асобы, павінны быць таксама агульна-саюзнымі.

Згодна таму-ж праэкту адказнасьць за парушэньне Палажэньняў аб тэй або іншай дзяржаўнай манаполіі наогул устанавілася агульна-саюзным законадаўствам. Між тым у прынятым сэсіяй ЦВК СССР Палажэньні аб дзяржаўных злачынствах устаноўлена адказ-

насьць толькі за парушэньне Палажэньняў аб замежным гандлі і такім чынам, устаноўленьне адказнасьці за парушэньне палажэньняў аб іншых дзяржаўных манаполіях аднесены да кампэтэнцыі саюзных рэспублік. Падставай-жа ўнясеньня такой зьмены ў першапачатковы праэкт паслужыла тое меркаваньне, што сярод усіх дзяржаўных манаполій, іменна манаполія замежнага гандлю займае выключнае месца і мае асобна важнае значэньне для ўсяго Саюзу, а пагэтаму, парушэньне Палажэньняў аб гэтай манаполіі, як асобна небясьпечныя для Саюзу ССР злачынствы, павінны рэгулявацца агульна-саюзным законадаўствам.

## АКРУГОВЫЯ І РАЁННЫЯ ВЫКАНАЎЧЫЯ КАМІТЭТЫ АБ АБАВЯЗКОВЫХ ПАСТАНОВАХ.

Новы проэкт Палаженьня аб парадку выданьня абавязковых пастаноў і накладаньня адміністрацыйнага пакараньня, які ўнесен Народным Камісарыятам Унутраных Спраў у законадаўчыя органы, быў накіраван Камісіяй Законадаўчых Проэктаў Акруговым Выканаўчым Камітэтам на заключэньне з тым, каб з кожнае акругі было таксама заключэньне хоць аднаго раённага выканаўчага камітэту. Нажаль толькі 6 акруговых Камітэтаў і 2 раённых далі адказы. Адказы гэтыя зьяўляюцца досыць цікавымі.

Слуцкі, Мазырскі і Рэчыцкі Акруговыя Камітэты, Грэскі (Слуцкае акругі) і Хойніцкі (Рэчыцкае акругі) раённыя выканаўчыя камітэты выказаліся за тое, каб у палажэньні быў зьмешчан дакладны вычэрпываючы пералік тых пытаньняў, па якіх акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы маюць права выдаваць абавязковыя пастановы, і далі шэраг пытаньняў да тых, якія зьмешчаны ў проэкце Наркамунутраных Спраў. Пры гэтым падаюцца вось якія матывы, каб папярэдзіць усялякія хістаньні і мясцовыя законадаўствы (Слуцкі); каб адсунуць, як пашыранае тлумачэньне мясцовымі органамі свайго права, гэтак і разнабой у іх рабоце (Рэчыцкі); бо пры выданьні іх у мінулым здараліся непаразуменьні і няяснасьці, як вынік слабага разуменьня нашых законаў (Грэскі), у мэтах адсоўваньня мясцовага творчаства (Хойнікі). Толькі Калінінскі АВК адказвае, што вычэрпываючы пералік трэба даць для РВК і Горсаветаў, а для АВК прыкладны.

Аб парадку абвяшчэньня абавязковых пастаноў толькі Калінінскі АВК выказаўся за непатрэбу паказваць гэтага парадку ў палажэньні, а 5 адказаў лічаць неабходным паказаць гэты парадак у палажэньні: пры гэтым прапануюць спосаб апавяшчэньня: Слуцкі—абавязковыя пастановы апублікоўваюцца на беларускай мове і ў неабходных выпадках на мовах нацменшасьцяў з гэткім разрахункам, каб абавязковая пастанова была выстаўлена ў кожным залюдненым пункце, у гарадох шляхам расклейкі на кожнай вуліцы, а ў сельскіх мясцовасьцях таксама шляхам расклейкі на кожнай вуліцы, а ў сельскіх мясцовасьцях, таксама шляхам выстаўленьня на відных мясцох, з пасьледуючым агалашэньнем на агульных сходах грамадзян; „Рэчыцкі“: угарадох і дзе маюцца свае мясцовыя органы,—абвяшчэньнем абавязковай пастановы у апошнім і расклейкай на вуліцах і рынках, у гарадох, і дзе органаў няма, расклейкай на дзьвярах Горсавету, Выканкому, паштова-тэлеграфнае канторы і іншых дзяржаўных устаноў і грамадзянскіх арганізацый, на базарах і цэнтральных вуліцах. У сельскіх мясцовасьцях —расклейкай на дзьвярах сельса-

ветаў, коопэратываў, і дзе яны ёсьць, і агалашэньнем на сельскіх сходах. Тое-ж самае праапануюць райвыканкомы.

У проэкце ёсьць артыкул, што і дзейнічаньне абавязковых пастаноў распаўсюджваецца як на прыватных асоб, так і на дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы і грамадзянскія арганізацыі, пры чым адпаведныя ўрадавыя асобы нясуць у адміністрацыйным парадку такую-ж адказнасць, як і прыватныя асобы. Цікавае заключэньне па гэтаму артыкулу дае Слуцкі АВК: ён прапануе да першае часткі дадаць: „і на кіраўнікоў дзяржаўных устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый“, але агаварвае, што гэту папраўку галасавалі 5 членаў прэзыдыуму, а 4 супроць, лічачы, што адказнай павінна быць установа, а не кіраўнік.

Па пытаньнях аб накладаньні адміністрацыйнага ўзысканьня Мазырскі, Калінінскі і Рэчыцкі АВК лічаць, што разьмер пакараньня ў палажэньні трэба адзначыць у залежнасьці ад таго, які орган накладае ўзысканьне, а не ў залежнасьці ад таго, які выдае абавязковую пастанову, а Грэскі РВК прапануе разьмер пакараньня ўстанавіць 300 р. штрафу, або 3 месяцы прымусовых работ, пры чым разьмер павінен быць захован у незалежнасьці ад таго, хто выдаў пастанову. Накладаньне-ж штрафу дазволіць у разьмерах, вызначаных у проэкце, гэта значыць у залежнасьці, які орган накладае штраф.

У адказах прапануецца павялічыць правы РВК па накладаньню штрафу. Бабруйскі, Слуцкі і Хойніцкі РВК да 50 р. штрафу і 20 дзён (30 дзён) прымусовых работ; Калінінскі АВК да 100 р. штрафу і 3 мес. прымусовых работ.

Бабруйскі, Слуцкі, Мазырскі АВК і Рэчыцкі і Хойніцкі РВК лічаць, што адміністрацыйнае пакараньне за парушэньне ўсіх абавязковых пастаноў, у тым ліку і выданных АВК, павінны накладаць РВК і Горсаветы ў разьмеры прадстаўленых ім праў з тым, што калі неабходна прызначыць пакараньне ў вышэйшым разьмеры, гэта прадстаўляецца на зацьверджаньне АВК. Пры гэтым Акрвыканкомы і Райвыканкомы дадаюць, што за Акрвыканкомамі належыць пакінуць кіраўніцтва і нагляд за ажыцьцяўленьнем адміністрацыйных санкцый і разгляд скарг.

Менскі АВК лічыць, што за парушэньне абвязковых пастаноў, якія выданы АВК, або Горсаветам Акруговага гораду, адміністрацыйнае пакараньне павінна накладацца начальнікам адміністрацыйнага аддзелу, або яго намесьнікам. Слуцкі-ж АВК прапануе: у артыкулах, дзе надаецца права накладаньня пакараньняў за парушэньне абавязковых пастаноў загадчыкам адміністрацыйных аддзелаў, або іх намесьнікам, выкрасьліць адміністрацыйныя аддзелы, бо па агульнаму і дакладнаму сэнсу палажэньня, апошнія ні ў адным выпадку не зьяўляюцца першай, або другой інстанцыяй па разгляду адміністрацыйных спраў.

Адносна тэрміну, у працягу якого павінна накладацца адміністрацыйнае пакараньне, вось якія прапановы: Слуцкі АВК—справа павінна заводзіцца не пазьней месячнага тэрміну, пастанова не пазьней 2-х месячнага тэрміну з дню завядзеньня справы, а выканана павінна быць не пазьней 3-х месячнага тэрміну. Бабруйскі АВК—2 месяцы для ўзбуджэньня справы і 1 месяц для разгляду. Калінінскі АВК —пастанова павінна быць вынесена не пазьней 2-х месяцаў з дню складаньня пратаколу, а ўзысканьне не пазьней 2-х месяцаў з дню пастановы. Грэскі АВК—справа павінна заводзіцца не пазьней месяца, у справаводстве павінна быць ня больш месяца, а што тычыць разгляду, дык для гэтага можна ўстанавіць 2-х месячны тэрмін з дню сканчэньня справы ў справа-

водзтве, або даць 3 месяцы для накладаньня ўзысканьня, не падзяляючы на іншыя тэрміны. Хойніцкі РВК лічыць, што на парушэньні неабходна хутка рэагаваць, а дзеля гэтага прапануе ўстанавіць тэрмін для пакараньня не пазьней месяца з дню парушэньня.

Аб парадку абскарджаньня пастаноў аб адміністрацыйным пакараньні Менскі АВК прапануе: на ўзысканьні, якія накладае Адміністрацыйны Аддзел АВК за парушэньне абавязковых пастаноў, якія выданы АВК-ам, скарга падаецца ў АВК; на пастановы тых-жа адміністрацыйных аддзелаў АВК за парушэньне абавязковых пастаноў Горсаветаў акруговых гарадоў—у прэзыдыум Горсавету; на пастановы прэзыдыумаў горсаветаў неакруговых гарадоў—у прэзыдыум РВК-у; на пастановы старшыні РВК ў Прэзыдыум РВК; пры адхіленьні скаргі паказанымі органамі, можа быць пададзена не пазьней месячнага тэрміну хадайніцтва перад АВК аб пераглядзе пастановы, пры чым, у выпадках адхіленьня апошняга, нарушыцелю даецца права прасіць Прэзыдыум ЦВК аб аслабаненьні ад пакараньня ў парадку памілаваньня. Слуцкі лічыць, што скаргі на пастановы старшыні выканкомаў і горсаветаў павінны падавацца ў адпаведныя прэзыдыумы выканкомаў, або горсаветаў. Мазырскі АВК—на пакараньні, накладзеныя старшынямі гарадзкіх саветаў акруговых і не акруговых гарадоў—у прэзыдыумы гарадзкіх саветаў акруговых гарадоў і раённых выканаўчых камітэтаў па прыналежнасьці.

Рэчыцкі АВК лічыць, што ва ўсіх выпадках разгляд скаргаў на пастановы горсаветаў і райвыканкомаў павінен належаць да акрвыканкомаў.

Адначасна з праэктам палажэньня Акруговым Выканаўчым Камітэтам было накіравана запытаньне аб тым, ці належыць да пастановы аб парадку выданьня абавязковых пастаноў прытасаваць і пакараньне па крымінальнаму кодэксу, дзе апошнім прадугледжана адміністрацыйнае пакараньне, ці аб гэтым выдаць асобную пастанову.

На гэтае запытаньне Слуцкі АВК адказвае: паколькі даны проэкт прадугледжвае парадак выданьня абавязковых пастаноў і пакараньне за парушэньне іх, і паколькі справы па абавязковых пастановах значна адрозьніваюцца ад адміністрацыйных спраў паводле Крымінальнага Кодэксу, лічыць бязумоўна неабходным і юрыдычна лёгічным аб апошніх выдаць паасобнае палажэньне; у супраціўным-жа выпадку належыць выдаць спэцыяльны адміністрацыйна-карны Кодэкс, бо зьмешчаць гэтых двох відаў спраў абсалютна немагчыма.

Рэчыцкі АВК, выходзячы з таго, што палажэньне аб выданьні абавязковых пастаноў мае на мэце нармаваньне выпадкаў дапасаваньня адміністрацыйнае ўплывовасьці пры ўчыненьні малаважных парушэньняў, лічыць, што было-б мэтазгодным ахапіць адным законадаўчым актам усе выпадкі накладаньня адміністрацыйнага пакараньня.

Мазырскі АВК лічыць, што парадак адміністрацыйных спраў павінен быць аднолькавы, як па абавязковых пастановах, так і па перададзеных для разгляду ў адміністрацыйным парадку арт. Кр. Код. Апроч гэтага ўсе Акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты дадаюць, што ў выпадках спыненьня спраў аб лесапарубках з пропускам тэрміну, карнявы кошт павінен спаганяцца ў адміністрацыйным парадку.

Гэтыя заключэньні сьведчаць, што мінулая практыка ня выявіла больш—менш аднолькавых ліній.

## Разработка „основ гражданского законодательства Союза ССР“.

Согласно п. „п“ ст. 1 Конституции Союза ведению Союза в лице его верховных органов подлежит устновление основ гражд. законодательства Союза. Разработанный на этом основании проект был прислан в КЗП для отзыва в конце февраля текущего года. Проект состоит из 12-ти разделов: 1) общие положения; 2) о правоспособности; 3) о сделках; 4) об ответственности за причиненный вред; 5) о договорах 6) о вещных правах; 7) о наследовании и дарении; 8) о давности; 9) о реквизиции и конфискации; 10) о законодательстве в области промышленности, внешней торговли и установления системы внутренней торговли; 11) о законодательстве в области кредита и 12) об авторском праве.

В некоторых из указанных глав точно установлены соответствующие правовые нормы, в других же указывается лишь, каким законодательством, общесоюзным или республиканским, регулируется тот или иной правовой институт. Таковы последние три главы: законодательство по вопросам, предусмотренных в этих главах должно регулироваться по мнению составителей проекта общесоюзным законодательством. Проект страдает весьма крупными недостатками, при чем одним из основных является тот, что в проекте, да и у составителей его, невыяснено понятие „Гражданское законодательство“. Нельзя выяснить при чтении проекта, чем руководствовались составители при внесении той или иной нормы в „основы“, т. е. почему именно одни нормы отнесены к общесоюзному законодательству, а другие к республиканскому. КЗП, приступив к обсуждению проекта, сразу обнаружила эти дефекты, а при постатейном рассмотрении первых двух глав проекта, отметила ряд недостатков и неправильностей как в содержании предложенных в проекте норм, так и в их формулировках. Дальнейшее постатейное рассмотрение проекта было приостановлено, так как согласно сообщению постоянного представительства БССР при правительстве Союза, комиссия для разработки проекта, выделенная подготовительной комиссией СНК Союза, признала проект неудовлетворительным и в основу своей работы не приняла. В виду необходимости дать представительству БССР мнение правительства БССР по наиболее принципиальным вопросам, КЗП выделила подкомиссию в составе членов КЗП тов. Гавзе и тов. Элькинда и консультанта КЗП проф. Гредингера для разработки вопроса о том, что должно составлять содержание „основ гражданского законодательства Союза“. К работе в комиссию были привлечены консультанты Отд. Законодательных Предположений НКЮ, т. Банин и Ватаци и юрисконсульт ВСНХ тов. Макуня.

Подкомиссия в составе перечисленных товарищей прорабатывала на 6-ти заседаниях этот вопрос, в результате чего был представлен КЗП проект тезисов по „основам“, который и был заслушан по докладу тов. Гавзе на специальном заседании КЗП 6-го мая 1927 г.

Прежде всего был разрешен вопрос о том, что должно войти в основы гражданского законодательства. Подкомиссия приняла следующую формулировку: „в подлежащие изданию основы должны войти обязательные для всех союзных республик гражданско правовые нормы, вытекающие из классовой природы советских республик и основной цели государства, в частности те нормы, которые

должны быть одинаковыми во всем Союзе ССР в целях регулирования государственного оборота исходя из этой основной точки зрения, подкомиссия нашла необходимым разбить „основы" на следующие 5 разделов:

1) Общие положения; 2) вещное право; 3) исключительное право; 4) носледственное право; 5) обязательственное право. Особых разделов об об'ектах прав и о сделках признано нецелесообразным вводить, считая, что основные нормы этих двух разделов должны войти в „вещное право" (об,екты прав) обязательственное право (о сделках). В первом разделе устанавливается цель предоставления гражданских прав, и условия, при которых государство отказывает в их охране, порядок разрешения гражданских споров, общий предельный срок исковой давности, перечисление суб'ектов права и об'ема их право и дееспособности.

2-й раздел „ 'вещное право" содержит в себе перечисление видов имущества, являющегося исключительно государственной собственностью, порядок использования и отчуждения; установление предельных размеров предприятий, могущих быть об'ектом частной собстенности, а также установление круга об'ектов частной собственности, допускаемых в гражданский оборот, с известными ограничениями; право истретребования государством своего имущества из чужого незаконного владения, принцип установлен в 101 ст. ГК (при чем подкомиссия считает более правильной формулировку, этой статьи в ГК БССР). право реквизиции и конфискации.

3-й раздел устанавливает виды исключительных прав, при чем право на фирмы и промышлэнные образцы признается подлежащим регулированию Союза ССР·

4-й раздел устанавливает круг наследников по закону и по завещанию, причем в число лиц, могущих наследовать по завещанию включены государственные учреждения, профессиональные и кооперативные организации, а также частные общества, не преследующие цели извлечения прибили, если это право предусмотренно уставами общества.

В 5-м разделе „обязательное право" устанавливаются основные нормы-безусловной недействительности, оспоримости сделок, ответственности за причиненный вред и и последствие неосновательного обогащения. Принципы ответственности за причиненный вред государству или должностными лицами разработаны более полно, чем в действующем законодательстве. Подкомиссией принято весьма важное принципиальное положение о порядке регулирования сделок гособорота. Наконец, в этом же розделе установлен круг сделок, подлежащих регулированию общесоюзным законодательством.

Проэкт подкомиссии принят КЗП с некоторыми поправками и утвержден Председателем Совета Народных Комиссаров тов. Голодедом, как предварительная директива постоянному представительству БССР. В окончательном виде этот проект сводится к следующему:

Считать, что в основы гражданского законадательства Союза ССР должны войти следующие положения:

## I. Общее положение.

1) Государство предоставляет гражданские права в целях развития производительных сил для построения социалистического хозяйства.

2) Государство отказывает в охране гражданских прав, если они используются в противоречии с той целью, ради которой предоставлены.

3) Споры по гражданско-прабовым отношениям разрешаются судебными учреждениями, за исключением случаев, специально указанных в законе.

4) Отказ от установленной законом защиты прав недействителен.

5) Общий предельный срок исковой давности, устанавливается в три года, за исключением случаев, указанных в законе.

6) Гражданская правоспособность и дееспособность представляется Законодательством Союза ССР и союзных республик, в пределах их компетенции: а) государственным учреждениям, б) государственным предприятиям и их об'единениям, в) кооперативным организациям, г) всякого рода иным организациям, за которыми признаны права юридического лица, д) всем гражданам Союза ССР, е) иностранцам и их об'единениям, с ограничением в порядке, предусмотренном специальными законами, поскольку их правовое положение не определяется международными договорами.

7) юридические лица действуют на основании уставов или положений о них утверждаемых в установленном порядке. Пределы их правоспособности определяются уставом или положением в соответствии с целью, ради которой создается данное юридическое лицо.

Примечание: Общие положения об об'ектах права должны быть помещены в отделе о вещных правах, а положение о сделках—в отделе об обязательном праве.

Принцип допущения распространительного толкования и регулирования правоотношений, возникших до 7-го ноября, должен быть установлен вводном к „Основам" законе.

## II. Вещные права.

В этом разделе должно заключаться:

1) Перечисление видов имущества, являющегося об'ектом исключительно государственной собственности.

2) Указание на то, что может быть об'ектом частной собственности (в „основах" должна быть указана максимальная мощность предприятия, которое может быть предметом частной собственности, с предоставлением союзным республикам права снижать эту норму).

3) Указание имущества, которое может быть об'ектом частной собственности, но допускается в гражданский оборот с известными ограничениями.

4) Виды пользования государственной собственностью:

а) непосредственное использование государством в лице его учреждений или предприятий, б) аренда, в) концессия, г) использование через смешанные акционерные общества, д) предоставление права пользования землей и недрами—на основании специальных законов.

5) Основные нормы, „регулирующие отчуждение государственной собственности.

6) Неограниченное сроком право государства истребовать принадлежащее ему имущество (за исключением ценных бумаг на пред'явителя), незаконно отчужденное каким бы то ни было способом.

7) Принцип изложенный в ст. 101 Гражданского Кодекса БССР.

8) Право реквизиции и конфискации (лишь основная норма о праве государства на реквизицию и конфискацию).

## III. Исключительные права.

В этом разделе должно быть указано:

а) в области авторского права— исключительное право автора на свои произведения и права государства на выкуп авторского права, б) право изобретателя на изобретение, имеющее промышленное значение и исключение из этого права, в) регулирование общесоюзным законодательством права на фирмы и промышленные образцы.

## IV. Наследственное право.

В этом разделе должен быть установлен круг наследников по закону и по завещанию со включением в число лиц, которые могут наследовать по закону и по завещанию кроме перечисленных в гражданских кодексах союзных республик: а) родственников по прямой восходящей линии, б) лиц, находящихся в трудовой связи с хозяйством наследодателя, а в число лиц, которые могут наследовать по завещанию: государственных учреждений, профессиональных и кооперативных организаций, а также частных обществ, не преследующих цели извлечения прибыли, если право наследовать предусмотрено уставом общества.

## V. Обязательственное право.

В этом разделе должно быть предусмотрено:

1) Возникновение обязательств: а) из сделок и б) из других фактов, указанных в законе в качестве основания для возникновения обязательств.

2) Безусловная недействительность сделок: а) если они запрещены законом или совершены в обход закона, б) если они направлены к ущербу для государства, в) если они явно невыгодны для одной из сторон и совершены этой стороной под влиянием крайней нужды (кабальные сделки).

3) Недействительность сделок, совершенных без соблюдения установленной законом формы лишь в том случае, если такое последствие несоблюдения формы прямо предусмотрено законом.

4) Случаи оспоримости сделок по требованию заинтересованных лиц и учреждений (перечисление должностных лиц и учреждений, имеющих право оспаривать сделки; среди них должны быть указаны: прокуратура, профессиональные организации и крестьянские общества взаимопомощи в отношении своих членов).

5) Допущение договоров как указанных в законе, так и непредусмотренных законом, если последние не противоречат общим началам советского законодательства и общей политике социалистического государства.

6) Принципы ответственности за причиненный вред: а) установление общей нормы об имущественной ответственности за причинение вреда и принципа такой ответственности предприятий с повышенной опасностью, б) ответственность государства за целость и сохранность имущества, принятого на хранение или во временное заведывание учреждениями или должностными лицами по предписанию закона или по распоряжению правительственных органов, в) ответственность учреждения за вред, причиненный неправильными служебными действиями должностного лица лишь в случаях, особо указанных в законе.

7) Передача в доход государства неосновательного обогащения, полученного вследствие противозаконного или направленного в ущерб государству действия, и возврат во всех остальных случаях неосновательного обогащения лицу, за счет которого получено неосновательное обогащение.

8) Положение о том, что сделки государственных органов между собою, а также с кооперативными

организациями регулируются и обсуждаются по гражданским законам союзных республик, поскольку нормы этих гражданских законов не вступают в противоречие с плановыми началами, регулирующими оборот в пределах Союза ССР, и с постановлениями планирующих органов в развитие этих начал.

9) Установление правила, по которому договоры подряда и поставки, заключаемые государственными органами с частными лицами, должны обеспечиваться залогом и штрафной неустойкой.

10) Законодательством Союза ССР должны регулироваться: а) кредитные сделки, б) складские операции, в) перевозка (железнодорожная и водная), г) организация государственных смешанных и частных акционерных обществ.

## Сыстэматызацыя і ўніфікацыя дзейнічаючага ў БССР законадаўства.

Работа па сыстэматызацыі і ўніфікацыі законадаўства праводзіцца поўным тэмпам. Ужо поўнасьцю падрыхтован да выданьня на беларускай і расейскай мовах зборнік дзейнічаючых законаў БССР за 1921-1924 г. г. З 450 з лішкам законаў, выданых за гэтыя гады, прызнана дзейнічаючымі каля 150 законаў. Астатнія альбо фармальна адменены да складаньня зборніку, або фактычна ня дзейнічаюць, дзякуючы выданьню новых законаў. Аддзелам Законадаўчых Проэктаў НКЮ ўнесен у законадаўчыя органы праэкт пастановы аб адмене законаў, якія страцілі сілу, але фармальна не адменены. Проэкт пастановы ўжо разгледжан КЗП і зацьверджан законадаўчымі органамі.

Такім чынам, застаўшыеся законы прызнаны дзейнічаючымі і ўваходзяць у зборнік. Аднак, шмат якія з іх таксама падпалі частковым зьменам у пазьней выданых законах. З прычыны гэтага пры складаньні зборніку гэтыя зьмены ўнесены альбо ў тэкст закону, калі яны прыняты законадаўчым органам і выданы ў відзе закону, альбо зьмешчаны ў відзе ўваг у зносках, калі закон фактычна зьменен у сувязі з выданьнем другога закону. Законы ў гэтым „Зборніку“ будуць разьмешчаны ў храналёгічным парадку. Да „Зборніку“ будзе прыкладзены альфабэтна прадметны паказальнік.

Кадыфікацыя кодэксаў праводзілася і праводзіцца паасобна ад зборніку законаў. Да цяперашняга дню скадыфікаваны і выданы кодэксы: Грамадзянскі, Грамадзянска-Працэсуальны, Шлюбны, Зямельны, Лясны, Справіцельна-Працоўны і Палажэньне аб судабудаўніцтве. Засталіся такім чынам не скадыфікаванымі кодэксы: Крымінальна-Працэсуальны, Крымінальны і Працоўны.

Першыя з іх ужо скадыфікаваны Аддзелам Законадаўчых праэктаў НКЮ і па прыняцьці законадаўчымі органамі распрацованага Аддзелам Законадаўчых Проэктаў праэкту зьмен у УПК у сувязі з „асновамі“, ён будзе выдан у самы кароткі тэрмін. Крымінальны Кодэкс у сучасны момант прапрацоўваецца ў НКЮ. Кодэкс законаў аб працы прапрацоўваецца ў Народным Камісарыяце Працы.

Разам з тым пачынае праводзіцца работа па паглыбленьню і прапрацоўцы кодэксаў. У сучасны момант па ГПК распрацоўваецца пытаньне аб судовых загадах, па ГК—аб запродажу і г. д.

Што-ж тычыцца ўніфікацыі законадаўства, то ў разьвіцьцё дэкрэту „аб сіле законаў БССР і РСФСР на

тэрыторыі б. Гомельскага і Рэчыцкага паветаў“ (З. З. БССР за 1927 г. № 1, арт. 1), якое дало пэўны напрамак складанаму пытаньню ўніфікацыі законадаўства, выдана шэраг пастаноў аб распаўсюджваньні законаў БССР ў той або іншай галіне кіраваньня на далучаныя тэрыторыі. Работа гэта прадоўжваецца ў розных Наркаматах. У прыватнасьці Аддзелам Законадаўчых Праэктаў|ужо падрыхтована для разгл ıду ў Калегіі НКЮ пытаньне аб распаўсюджваньні на далучаных тэрыторыях ГК і ГПК, а таксама шэраг паасобных законаў, якія адносяца да ведамства Юстыцыі. Таксама НКЮстыцыі паднята пытаньне аб сіле інструкцыі і абежніку Наркамату па законадаўству БССР для тэрыторыі б. Гомельскага і Речыцкага паветаў.

Калі прыняць пад увагу, што ўжо апублікован закон „аб парадку ўступленьня ў сілу законаў БССР“, паводле якога ўсе законы ўводзяцца ў дзеяньне аднача сна на ўсёй тэрыторыі БССР, то можна прыйсьці да заключэньня, што мы ўступілі на шлях правядзеньня вялікай рацыяналізатарскай работы па законадаўству, гэта значыць на шлях, каторы намечан Калегіяй НКЮ ў рэзалюцыі па дакладу аб працы, Аддзелу Законадаўчых Проэктаў („Весьці НКЮ“ № 2-3 старонка 58), прычым частка задач, якія пастаўлены ў гэтай рэзалюцыі ўжо выканана.

# У НАРОДНЫМ КАМІСАРЫЯЦЕ ЮСТЫЦЫІ.

## Рэзалюцыя

### па дакладу пракурора па працоўных справах калегіі НКЮ.

1. Заслухаўшы даклад пракурора па працоўных справам Калегія НКЮ канстатуе, што за 1926 г. у працы мясцовых органаў суду і Пракуратуры прыкметна значнае палепшаньне ў працы на нагляду па працоўных справах. якаснае палепшаньне спраў у судовых органах, барацьба з парушэньнем законадаўства аб працы.

Разам з тым, у сувязі з ростам працоўных спраў, агульным напрамкам барацьбы з бюракратызмам, правядзеньнем рэжыму экономіі, Калегія прапануе ўсім органам Суду і Пракаратуры ўзмацніць працу па нагляду па працоўных справах, нагляду за органамі дазнаньня (інспэкцыя працы), хутчэйшаму прахаджэньню да вырашэньня працоўных канфліктаў і ўзмацненьне барацьбы з парушэньнямі законадаўства аб працы.

2. У мэтах узмацненьня работы мясцовых органаў па працоўных справах, Пракурору па працоўных справах распрацаваць прыкладны плян працы ў гэтай галіне і схэму справаздачнасьці (у мэтах агульнай справаздачнасьці Пракуратуры) і парадак правядзеньня абсьледваньня і нагляду за інспэкцыяй працы.

3. у сваёй рабоце па працоўных справах Акруговая Пракуратура павінна ўзмацніць сувязь з праф. арганізацыямі і органамі НКП.

4. Аддзелу Судабудаўніцтва і Нагляду НКЮ выдаць інфармацыйны ліст усім Акруговым судам, працоўным сэсіям і нарсудом аб працы судовых органаў на падставе маючыхся матар‘ялаў па абсьледваньню Менскай Працсэсіі па запатрабавальных справах па Рэспубліцы і матар‘ялах НКРСІ па разгледжаньні працоўных спраў.

5. Для палепшаньня работы органаў дазнаньня па працоўных

справах (інспэкцыя працы) і ўстанаўленьня аднастайнага Кіраўніцтва нагляду і інструктаваньня лічыць неабходным прымацаваць да аднаго з Народных Сьледчых у акруговым горадзе менш загружанага вучастку ўсе дазнаньні па працоўных справах.

6. Прапанаваць Акруговым Пракурорам у бліжэйшы час на падставе усебаковага абсьледваньня і вывучэньня становішча работы па працоўных справах, паставіць пытаньне аб узмацненьні барацьбы з парушэньнем працоўнага заканадаўства на нарадзе па барацьбе з злачыннасьцю, заслухаўшы яго пры ўдзеле прадстаўнікоў прафэсіянальных арганізацый, Народнага Камісарыяту Працы, Старшыні Працсэсіі і іншых судовых працаўнікоў і працаўнікоў Пракуратур.

У буйных прамысловых акругах такія нарады прывурочыць да прыезду Пракурора па працоўных справах пры НКЮ.

7. Пракурору па працоўых справах устанавіць сыстэматычную прапрацоўку і праверку справаздач мясцовых органаў Пракуратуры, на падставе чаго і даваць указаньні аб недахопах у працы, а таксама паведамляць вопыт мясцовай работы для дальнейшых дырэктыў.

8. Лічыць невыстарчальным колькасьць выступленьняў Пракурора па працоўных справах і мясцовай Пракуратуры на рабочых сходах па працоўнаму заканадаўству, дзеля чаго ў далейшым павялічыць колькасьць выступленьняў як з боку Пракурора па працоўных справах гэтах і Акруговых Пракурораў на мясцох.

9. У мэтах папулярызацыі работы Працоўнай Пракуратуры, Пракуратору па працоўных справах узмацніць высьвятленьне работы па працоўных справах у друку.

Усе выдаваемыя абежнікі і пастановы НКЮ, НКП і УСПСБ ў галіне працоўнага заканадаўства высьветліць у друку з абаснаваньнем неабходнасьці мерапрыемстваў.

10. Прапанаваць Пракурору па працоўных справах у Менскай Пракуратуры ў тэрміновым парадку ўстановіць разьмеркаваньне ў рабоце з тым, каб Пракурору па працоўных справах разгрузіцца ад дробнай працы.

## ДА ПРОЭКТУ ЗЬМЕН І ПАПАЎНЕНЬНЯЎ КПК.

Распрацованы ў Аддзеле Заканадаўчых Проэктаў НКЮ проэкт зьмен і дапаўненьняў КПК, выклікаемых агульна-саюзным заканадаўствам („Весьці НКЮ БССР“ № 2-3 стр.53), ужо разгледжан у Калегіі НКЮ і цяпер знаходзіцца на разглядзе заканадаўчых органаў БССР.

## II ЎСЕСАЮЗНАЯ НАРАДА ЮРЫСКОНСУЛЬТАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ.

20-25 сакавіка г. г. адбывалася ў г. Маскве, у памяшканьні Дзелавога Клюбу, II Ўсесаюзная Нарада Юрысконсультаў Дзяржаўнай Прамысловасьці (I адбылася ў маі 1025 г.). На гэтай нарадзе прысутнічала да 230 дэлегатаў усіх краін СССР (юрысконсульты ВСНГ СССР, ВСНГ саюзных і аўтаномных рэспублік, СНГ, Арбітражных Камісій, гаспадарчых органаў і г. д.), у ліку каторых БССР прадстаўлялі 3 дэлегаты.

Нарада была адчынена 20/III членам Прэзыдыуму ВСНГ СССР т. Аванэсавым, каторы вітаў нара-

ду ад імя Прэзыдыуму ВСНГ СССР. Нарада заслухала наступныя даклады: І) старшыні Камісіі па расправацоўцы праэкту агульна-саюзнага дэкрэту аб трэстах т. Гінзбурга (члена Прампляну ВСНГ СССР) аб выніках працы камісіі, 2) прафэсараў Мартынава і Шрэтэра на тэму: „Г.К. і дзяржаўны зварот“, 3) праф. Вормса і Юрысконсульта Кісьнемскага на тэму: „унутрысіндыкацкія ўзаемаадносіны“, 4) юр. Вінаградава „аб праэкце палажэньня аб акцыйных таварыствах“, 5) юр. Павалоцкага на тэму: „угоды, якія непрадугледжаны Г.К“, 6) 2 даклады падатковых сэкцый аб прамысловым падатку і аб гэрбавым зборы і 7) некалькі справаздачных. Даклады пасьля спрэчак выклікалі рэзалюцыі, каторыя былі перададзены для ажыцьцяўленьня Праўнаму Аддзелу ВСНГ СССР. З усіх дакладаў, апрача дакладу аб праэкце агульнасаюзнага дэкрэту аб трэстах, найбольшую ўвагу нарады прыцягнуў да сябе даклад праф. Мартынава і Шрэтэра аб адпаведнасьці Г.К. дзяржаўнаму звароту; іх даклады займалі 2 пасяджэньні Пленуму і выклікалі моцныя спрэчкі (выступалі да 25 апанэнтаў--праф. Агаркаў, Нячаяў і інш.). Сапраўды тэма гэтага дакладу вельмі цікавіла і цяпер цікавіць юрыстаў, каторыя працуюць у галіне прамысловасьці, і зьяўлялася яшчэ значна раней да гэтай нарады тэмай многіх артыкулаў юрыдычнай літаратуры.

Абодва прафэсары ў сваіх дакладах падыйшлі да тэмы з двух розных і амаль што процілеглых пунктаў гледжаньня.

Якраз праф. Мартынаў у сваім дакладзе падрабязна разьвівае думку аб тым, што наш Г.К., каторы быў пабудаваны паасобку ў частцы дагаворнага права на падставе найлепшых Гр. укладаў буржуазных краёў(ВДВ, праэкт расейскага Гр. укладу 1912 г. і інш.) зьяўляецца ўступкай НЭП; больш адпавядае да рэгуляваньня прыватнага звароту, або звароту паміж дзяржорганаў, і прыватных асоб, чым да рэгуляваньняа звароту паміж дзяржорганаў а таксама-ж іх і каапэрацыі. Прынцып плянавасьці, каторы вельмі ўласьцівы дзярж-звароту, зьяўляецца нязгодным з прынцыпам аўтаноміі старон, каторы знаходзіць свой адбітак у н.Г.К. і каторы характарызуе прыватны зварот. Толькі ў сэнсе дагаворнай тэхнікі мажліва гаварыць, што трэсты робяць сваі апэрацыі паводле Г.К. Аўтаномія дагаворнага права Г.К. не адпавядае плянаваму звароту: плянавы прынцып дзярж-звароту вымагае інш. норм права, і карэктывы ВАК СПА і інш А. К., каторыя дзейнічаюць на паставе гаспадарчай мэтазгоднасьці, зьяўляюцца нездавальняючымі у гэтым напрамку.

Такім чынам, нельга гаварыць аб адзіным зваротным праве, і Г. К.—толькі адзін з элемэнтаў, каторы рэгулюе амаль што выключна няплянавы зварот. Праф. Шрэтэр у сваім садакладзе на тую самую тэму стаіць на інш. пункце гледжаньня: ен лічыць, што з боку метадалёгіі зусім няправільна гаварыць аб пранікаьні плянавага прынцыпу ў дагаворнае права Г. К., каторы зьяўляецца правовым выразам вольнага рынку; плянавы прынцып стаіць па-за Г. К. і выяўляецца ў форме загадаў, інструкцый, арбітражнай практыкі і інш., а таксама-ж і гэнэральных дагавораў (паміж трэстаў і сіндыкатаў і інш.), каторыя маюць аналёгію да калектыўных дагавароў. Г. К. несваечасова перавыдаваць і дагаворнае права адпавядае да розных мэтаў і ў розныя эпохі: Г. К. вымагае толькі некаторых карэктываў у бок зьмякчэньня эгаізму старон і дапасаваньня яго да ўкараненьня прынцыпу салідарызму паміж кантрагэнтаў дзяржорганаў. Як раз, арт. 137 Г. К. неабходна пераапрацаваць у сэнсе мінімальнага ўжы-

ваньня патрабаваньня аб несапраўнасьці ўгод пры парушэньні г. артыкулу.

Далей, неабходна ўвясьці ў Г. К. палажэньне аб напамінах з боку кантрагэнта, каторы чакае выкананьня дагавору ад інш. кантрагэнта, і толькі тады ён можа вымагаць адказнасьць за пропуск тэрміну (121 ар. Г. К.), неабходна дапоўніць арт. 117 Г. К. патрабаваньнем, кабы пацярпеўшая ад невыкананньня старана клапацілася аб памяншэньні страт ад невыкананьня, зьвярнуць увагу на фіксацыю ў дагаворах недахопаў у якасьці прадукцыі, памягчыць палажэньне аб штрафной няўстойцы і г. д.

Рэзалюцыя па названых дакладах адзначыла:

а) неабходнасьць юрыдычнай пераапрацоўкі і законадаўчага рэгуляваньня ўнутры сіндыкацкіх узаемаадносін (адпаведна да тэзісаў дакладаў праф. Вормса і Кісьнемскага), у дакладненьне тыпаў генэральных дагавораў, плянавых заданьняў па цэнтралізаванай і дэцэнтралізаванай загатоўцы, а таксама-ж узаема адносін паміж дзяржоганаў па адчуджэньню і разьмеркаваньню абсталяваньня і частак асноўнага капіталу, а таксама-ж амартызайнага і рэзэрвовага капіталаў і б) захаваньня арбітражных камісій, як самастойнага гаспадарча-судовага інстытуту.

Дакладчыкі і апанэнты па інш. дакладах у сваіх прамовах большай часткай датырківаліся да тэзісаў названых дакладаў, у паасобку-ж пры дакладзе тав. Павалоцкага аб угодах, непрадугледжаных Г. К., дакладчык, згаджаючыся з праф. Мартынавым, лічыў неабходным выданьне асноў грам. законадаўства СССР, да выданьня-ж іх выдаць у агульна-саюзным парадку (у мэтах аднастойнага ужываньня) палажэньні аб вэксалёх, аб дагаворы камісіі і аб крэдытных угодах) напрыклад, аб завозе тавараў ў звароце і пераапрацоўцы, а таксама-ж пашырыць Г. К. дагаворамі паклажа, рабочага крэдытаваньня і пазычкі, як віду дарэмнага карыстаньня маемасьцю.

З ліку інш. работ нарады неабходна адзначыць наступнае:

Агульна-саюзны праэкт аб трэстах быў адрэдагаваны спэцыяльнай камісіяй з складу дэлегатаў Нарады адпаведна да тэзісаў апошняга Пленуму ВСНГ СССР—аб кіраваньні прамысловасьцю, пры гэтым у частцы праэкту, якая тычыцца да рэспубліканскіх і мясцовых трэстаў былі ўзяты пад увагу ўсе папраўкі саюзных рэспублік.

На апошнім Пленуме Нарады была прынята рэзалюцыя аб неабходнасьці выданьня спэцыяльнага часопісу, прысьвечанага пытаньням прамысловага права і аб утварэньні найцясьнейшай сувязі юрысконсультаў Цэнтру з мясцовымі юрысконсультамі шляхам: а) штогодняга скліканьня Нарад юрысконсультаў дзяржаўнай прамысловасьці; б) запытаньня Праўным Аддзелам ВСМГ СССР заключэньняў мясцовых Бюро Юрысконсультаў па законапраэктах гандлёва-прамысловага права і в) уключэньня іх прадстаўнікоў у склад Прэзыдыуму Бюро Юрысконсультаў пры ВСНГ СССР.

Наогул Нарада адбылася вельмі ажыўленна і праходзіла пад адзнакай цясьнейшага аб'яднаньня юрыдычнай думкі з пэрыфэрыяй.

## Юрыдычныя курсы пры НКЮ.

5 мая г/г. пры Народным Камісарыяце Юстыцыі, распачаліся заняткі на 7 месячных юрыдычных курсах 2-га скліканьня.

Згодна палажэньня аб юрыдычных курсах, зацьверджанага Народным Камісарыятам асьветы—гэтыя курсы маюць сваей мэтай: а) перападрыхтоўку і падняцьце кваліфікацый працаўнікоў суду, сьледзтва і пракуратуры і б) падрыхтоўку

новых кадраў працаўнікоў юстыцыі з ліку працоўных. галоўным чынам, з ліку рабочых і сялян, высоўваемых савецкімі, партыйнымі і прафэсіянальнымі арганізацыямі. Прычым перападрыхтоўка працаўнікоў юстыцыі зьяўляецца грунтоўнай і галоўнай задачай курсаў, і прыём на курсы слухачоў з ліку нясудовых працаўнікоў—дапушчалася толькі пры незапаўненьні вольных месц працаўнікамі юстыцыі.

Праграма курсаў, па згодзе з Галоўпрафасьветы, устаноўлена наступная: 1) беларуская мова,—120 гадзін, 2) Дзяржаўная Права—25 гадзін, 3) Агульная тэорыя права—25 гадзін, 4) асновы Ленінізму, гісторыя і задачы партыі 100 гадзін, 5) Крымінальнае права—110 гадзін, 6) Грамадзянскае права—150 гадзін, 7) Крымінальны працэс—110 гадзін, 8) Грамадзянскі Працэс—90 гадзін, 9) зямельнае і лясное права—30 гадзін, 10) Працоўнае права—25 гадзін, 11) Асновы судабудаўніцтва—30 гадзін, 12) Асновы справіцельна-працоўнага кодэксу—10 гадзін, 13) Тэхніка ўзіманьня розных судовых збораў—20 гадзін, 14) Тэхніка дзелаводзтва—15 гадзін і 16) Статыстыка—10 гадзін, а разам—870 гадзін.

Настаўніцкі пэрсанал курсаў, па згодзе з Галоўпрафасьветы НКЮ зацьверджан у колькасьці 24 чалавек, галоўным чынам, з працаўнікоў НКЮ, Найвышэйшага Суду і членаў калегіі абаронцаў.

Згодна палажэньню, на курсы прыняты асобы абодвых полоў, якія былі камандыраваны па разьліку НКЮ адпаведнымі ўстановамі і арганізацыямі, а іменна: а) асобы, якія служылі ў органах юстыцыі ня менш аднаго году і займалі пасаду ня ніжэй народнага судзьдзі, сьледчага, пам. пракурора, альбо сэкратара нарсуду—без апытаньня, і б) працоўныя, галоўным чынам—рабочыя і сяляне з падрыхтоўкай ня ніжэй 7 гадовай школы, якім мінула 21 год і вытрымалі апытаньне па асновах палітграматы.

Прыёмная камісія залічыла на курсы ўсяго 66 курсантаў, якія падзяляюцца: а) мужчын 54—81,82%, і б) жанчын—12—18%, па нацыянальнасьці: а) беларусаў—38—57,6%, б) яўрэяў—14—12,2%, в) расейцаў—7—10,6 і г) іншых—7—10,6%, па сацыяльнаму становішчу: а) рабочых—17—25,75%, б) сялян 23—34,85% і г) служачых 26—39,4%. па партыйнасьці: а) сяброў КПБ—24—36.78%, б) кандыдатаў КПБ—8 12,12%; в) сяброў ЛКСМ—7—10,6% і г) беспартыйных—27—40,9%; па сямейнаму становішчу: а) сямейных—33—50% і б) адзінокіх—33—50%; па адукацыі а) з сярэдняй—16—24,24% і б) з ніжэйшай—50—75—76%; па ўзросту: а) ад 20 да 25 гадоў 21—31,81%, б) ад 25 да 30 гадоў—23—34,85% і в) вышэй 30 гадоў 22—33,34% па юрыдычнай працы: а) нарсудзьдзяў—15—22,75 проц., б) сэкратароў—19—28,78 проц.

Робячы параўнаньне цяперашняга складу курсаў са складам 1-га скліканьня трэба адзначыць, што цяперашні склад курсантаў па нацыянальнасьці, сацыяльнаму становішчу і партыйнасьці амаль што нічым не адрозьніваецца ад мінулага складу. Па адукацыі ў цяперашнім складзе з ніжэйшай адукацыяй курсантаў некалькі больш мінулага. жанчын менш але ж судовых працаўнікоў, а таксама і працоўнікаў міліцыі і крымінальнага вышуку значна больш мінулага складу і наогул можна сказаць, што гэты склад амаль што выключна зьяўляецца судовым.

Бліжайшае і беспасрэднае загадваньне юрыдычнымі курсамі ўскладаецца на загадчыка курсаў, які прызначан НКЮ па згодзе з Галоўпрафасьветы і вядзеньне вучэбнай часткі курсаў ускладаецца на савет курсаў, у склад якога ўваходзяць а) прадстаўнік НКЮ, б) прадстаўнік Галоўпрафасьветы, в) прадстаўнік ЦСПСБ, г) загадчык курсамі, д) прадстаўнік факультэту Права і Гаспадаркі, е) настаўнікі курсаў і кіраўнікі практычных заняткаў і ж) прадстаўнікі ад слухачоў курсаў, якія абіраюцца агульным сходам іх.

## З МЕСЦ.

### Мерапрыемствы Прэзыдыуму Магілёўскай акруговай Калегіі абаронцаў па інструкцыйнаму лісту Н.К Ю за 2 лютага 27 г. за № 2 аб арганізацыі і інструктаваньні даведачных сталоў пры хатах-чытальнях.

Акруговы прэзыдыум калегіі абаронцаў распрацаваў інструкцыйны таварыскі ліст з адзначэньнем у ім мэты арганізацыі даведачных сталоў і іх галоўных галін, мэтадаў правядзеньня кансультацыйнае працы з далучэньнем таксы НКЮ і формы вядзеньня рэгістрацыі зварочваючыхся грамадзян. Гэткі ліст быў ухвален аддзелам Культасьветы і накіраван пры адносінах апошняга па ўсіх хатах-чытальнях і нардамох.

Адначасова з гэтым, прэзыдыум склікаў канфэрэнцыю членаў калегіі абаронцаў па Магілёўскай акрузе, для інструктаваньня іх па пытаньнях: арганізацыі, кіраўніцтву і сувязі з ізбачамі ў гэтай новай галіне працы, у мэтах дасягненьня аднастайнасьці.

Апрача таго, акруговы прэзыдыум калегіі абаронцаў зьвярнуў увагу культасьветы на неабходнасьць забясьпечаньня даведачных сталоў патрэбнай юрыдычнай літэратурай для штодзёнай кансультацыйнай дзейнасьці хатнікаў і адзначыў пералік гэткіх кніг. Гэты недахоп у сучасны момант адсутнічае, бо юрыдычныя бібліатэкі распаўсюджаны.

Члены калегіі абаронцаў па Магілёўскай акрузе, у мэтах інструктаваньня і забясьпечаньня жывой сувязі, даведаліся да ўсіх хат-чытален за выключэньнем хат Журавіцкага раёну, дзе выездаў ня было да 15 сакавіка г. г., бо адсутнічаў там абаронец па гэтаму раёну. Ведаў аб зробленай ім працы яшчэ не паступіла.

Пры даведваньні хатнікаў была зьвернута іх увага на якасьць і тэхніку працы і гэтым шляхам рабіліся тлумачэньні па ўзьнікаючых пытаньнях права, згодна існуючым характарам спраў у той альбо іншай мясцовасьці. Вялікія недарэчнасьці выклікалі пытаньні ў галіне аплаты юрыдычнай дапамогі і, ня гледзячы на самыя дакладныя тлумачэньні аб прынцыповым прызначэньні таксы НКЮ, гэткае становішча да гэтага часу не ажыцьцявілася і ў некаторых мясцох зусім не праводзіцца ў жыцьцё.

Далейшая сувязь з хатнікамі падтрымліваецца з аднаго боку—даведваньнем саміх членаў калегіі абаронцаў даведачных сталоў, а з другога боку—даведваньнем хатнікам членаў калегіі пры паездках хатнікаў у раённыя цэнтры па службовых справах, але гэта сувязь незаўсёды сыстэматычна і паўнамерна.

А таксама адным з угледжаных ненармальных зьявішч патрэбна лічыць адсутнасьць пісьмовай сувязі шляхам прадстаўленьня зьвестак для дакладнага падрахунку характару і колькасьці зваротак, што не дае магчымасьці пакуль зрабіць акуратны вывад. Для паляпшэньня гэтага боку працы—прэзыдыум калегіі абаронцаў пасылае ўсім хатнікам інструкцыйныя лісты спэцыяльна па гэтаму пытаньню.

Прэзыдыум калегіі абаронцаў прапанаваў раённым членам калегіі для ўстанаўленьня сувязі і кіраваньня ізбачоў-карыстацца ўсякімі зборамі астатніх, для правядзеньня сярод іх гутарак па пытаньнях права і законадаўства з мэтай падняцьця іх юрыдычнай кваліфікацыі; да сучаснага моманту гэткія гутаркі праведзены ў Шклове, Карме і Чычэвічах. На зьезьдзе ізбачоў у акруговым маштабе, які мяркуецца склікацца.—Прэзыдыум калегіі абаронцаў прапанаваў культаддзелу свае паслугі па правядзеньню кароткатэрміновых трохдзённых курсаў сярод ізбачоў—удзельнікаў зьезду.

На працягу працы члены калегіі абаронцаў спаткалі матар'яльную перашкоду, бо райвыканкомы ня могуць даваць сыстэматычна сродкаў перасоўцы, дзякуючы чаму раённым членам калегіі абаронцаў прыходзіцца з сваіх бедных заробкаў нясьці трату і досыць часта прыходзіцца вялікія адлегласьці ісьці пехатой для даведваньня хатчытален, як гэта было ў Прапойскім, Кармянскім, Чычэвіцкім і Быхаўскім раёнах. Акруговы прэзыдыум калегіі абаронцаў таксама ня мае азначаных сродкаў для гэтай мэты, што зьяўляецца перашкодай для больш шырэйшай працы.

# КНІГАПІС.

## Юрыдычная картатэка.

Маскоўскім коопэрацыйным выдавецтвам „Начатки Знания“ зроблен цікавы досьлед — выданьне ўсяго бягучага законадаўчага матар‘ялу СССР і РСФСР і ведамственых загадаў на паасобных картках, індэксаваных па дзесятковай сыстэме, якая дае магчымасьць зарэгістраваць неабмежаваную колькасьць зьяў. Гэты спосаб захаваньня законадаўчага матар‘ялу, падказаны навукова-бібліографічнай работай апошніх дзесяцігодзьдзяў, зьяўляецца асабліва выгадным у нашу эпоху ломкі жыцьцёвых і праўных адносін, у якую законадаўчыя нормы мяняюцца без парушэньня часьцей, чымся ў эпоху з адносна павольным працэсам разьвіцьця, калі нормы права маюць больш стабільны характар.

Выдавецтва абяцае выпушчаць карткі з адпаведнымі законадаўчымі актамі не пазьней трох дзён пасьля іх апублікаваньня. На кожнай картцы маюцца ўвагі кодыфікацыйнага характару, — паказаньні аб тым, якія акты з складу чыннага законадаўства знаходзяцца ў сувязі з тым дэкрэтам, які друкуецца на гэтай картцы. Гэтая акалічнасьцьдае магчымасьць практычнаму працаўніку ў розных галінах савецкага будаўніцтва скласьці сабе поўнае і дакладнае ўляўленьне аб пункце погляду савецкага законадаўцы на кожнае пытаньне; кожны працаўнік вызваляецца ад неабходнасьці „саматужнічаць“ у галіне сыстэматызацыі бягучага законадаўства дзеля таго, што гэтая работа робіцца за яго рэдакцыяй „юрыдычнай картатэкі“. На чале рэдакцыі стаяць М. В. Крыленка і іншыя адказныя працаўнікі НКЮ РСФСР, што зьяўляецца гарантыяй за якасьць выданьня.

Падпіска на „Юрыдычную Картатэку“ прымаецца поўнасьцю, або па аддзелах: законадаўства СССР; дзяржаўнае і адміністрацыйнае законадаўства; працоўнае законадаўства; зямельнае законадаўства; гаспадарчае законадаўства; фінансавае, падатковае і крэдытнае законадаўства; коопэрацыйнае законадаўства; грамадзянскае і крымінальнае права, папраўна-працоўнае законадаўства і судабудаўніцтва. Да картатэкі дадаецца інструкцыя аб тым, як карыстацца картатэкай. Для працаўнікаў БССР, зразумела, мае галоўнае значэньне частка картатэкі, якая зьмяшчае законадаўства СССР. Мы лічым вельмі пажаданым, каб юрыдычнае выдавецтва НКЮ БССР пачало выдаваць па тэй самай сыстэме картатэку па законадаўству БССР.

**С. Рахманін.**

---

**Ад рэдакцыі:** Рэдакцыя часопісі паведамляе сваіх падпісчыкаў і чытачоў, што ўжо падрыхтован да выданьня 6-ы нумар часопісі, які мяркуецца выйсьці не пазьней 15 ліпеня.

Таксама рэдакцыя зьвяртаецца да сваіх чытачоў з просьбай выказацца аб адмоўных і становчых баках нашай часопісі шляхам дасылкі нататак, якія будуць друкавацца ў чарговых нумарох.

*Рэдакцыя часопісі „ВЕСЬЦІ НКЮ“.*

# Частка афіцыйная.

## Усім Старшыням Акрсудоў.

### АБ ТЭРМІНОВАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ЗАНЯТКАЎ З НАРЗАСЯДАЦЕЛЯМІ.

*Паважаныя таварышы!*

Абежнікам НКЮ за 5 лістапада 1926 году за № 140 было прапанована ўсім Акруговым Судом і іх Упаўнаважаным кампанію па выбарах Народных Засядацеляў на 1927 год скончыць да 15-га сьнежня 1926 г. з тым, каб да 1-га студзеня 1927 г. ўсе судовыя ўстановы былі забясьпечаны новымі сьпіскамі нарзасядацеляў. а пасьля гэтага тэрміну—арганізаваць пры ўсіх акруговых і народных судох сыстэматычныя заняткі з народнымі засядацелямі па праграме, якая была дададзена да вышэйпаказанага цыркуляру.

Арганізацыя гэтых заняткаў мае вельмі важнае значэньне ня толькі ў сэнсе падвышэньня кваліфікацыі Народных Засядацеляў, якія ў значнай сваёй частцы заклікаюцца да выкананьня сваіх абавязкаў непасрэдна ад сахі і ад варштату і ня могуць здавальняюча выконваць гэтых абавязкаў без набыцьця неабходных ведаў у галіне права, але і ў сэнсе палітычным узмацняючы асновы рэвалюцыйнай законнасьці сярод шырокіх мас працоўных, з якімі Народныя засядацелі маюць сталыя зносіны, як у сваім жыцьці, так і ў сваёй звычайнай штодзённай працы, і на якіх яны могуць мець уплыў шляхам азнаямленьня іх з набытымі ведамі ў галіне права і з асновамі рэвалюцыйнай законнасьці, правядзеньне якой сярод насельніцтва застаецца і доўга будзе яшчэ заставацца важнай задачай Савецкай улады і, у першую чаргу, органаў Юстыцыі.

Між тым, па зьвестках, якія маюцца ў НКЮ, заняткі з Народнымі Засядацелямі да сучаснага моманту ня ўсюдь атрымалі тое разьвіцьцё, якое яны павінны былі атрымаць, а ў некаторых мясцох і зусім не арганізаваны. ня гледзячы на тое, што выбары Народных Засядацеляў усюды скончаны і што сучасны момант, зімні пэрыяд часу, пакуль не пачаліся веснавыя палявыя працы сялян і пэрыяд водпускаў рабочых на прадпрыемствах і заводах, зьяўляецца найбольш выгадным для правядзеньня заняткаў сярод Народных Засядацеляў

Зварочваючы на вышэйпамянёнае вашу ўвагу, Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць неабходным, каб вы, ня гледзячы на тыя перашкоды, якія стаяць на шляху ажыцьцяўленьня заняткаў з Народнымі Засядацелямі, у сэнсе адсутнасьці здавальняючых сродкаў на выезды, памяшканьняў і г. д., зараз-жа, па атрыманьні гэтага ліста, прадпрынялі неабходныя крокі ў напрамку арганізацыі больш інтэнсыўных заняткаў з Народнымі Засядацелямі, як пры Акруговых, так і пры Народных Судох, з тым, каб у гэту працу быў уцягнут шырокі круг працаўнікоў Юстыцыі (суду, сьледзтва і пракуратуры, а таксама і калегіі абаронцаў) і каб па магчымасьці, да наступленьня вясны, да пэрыяду палявых прац і водпускаў, ажыцьцявіць найбольшую частку праграмы, дадзенай НКЮ пры абежніку яго за 5 лістапада 1926 г. за № 140.

Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што па думцы НКЮ, заняткі з Нарзасядацелямі лепш весьці ў гарадох на больш-менш шырокіх сходах іх, а ў вёсцы—не на агульных раённых сходах, а ў некалькіх пунктах, далучаючы да кожнага з іх па некалькі сельсаветаў.

З таварыскім прывітаньнем *М. Сегаль.*

*С. Эднэрал.*

3 сакавіка 1927 г.
№ 2.

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

*Усім Акруговым і Народным Судом.*

### I. АБ ПАСЫЛЦЫ СУДАМІ Ў МЯСЦОВЫЯ ОРГАНЫ КРЫМІНАЛЬНАГА ВЫШУКУ ДАВЕДАК АБ АСУДЖАНЫХ.

Па маючыхся ў Управе Міліцыі і Крымінальнага Вышуку зьвестках шмат Нарсудоў і нават Акрсудоў не прысылаюць у мясцовыя органы Крымінальнага вышуку даведак аб асуджаных, адносна якіх прыгавары ўвайшлі ў законную сілу.

Маючы на ўвазе вельмі важнае значэньне паказаных зьвестак для Крымінальнага Вышуку ў справе падліку злачыннага элемэнту і правідловай выдачы даведак, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе Акруговым і Народным Судом прыняць адпаведныя меры да самага дакладнага выкананьня існуючых распараджэньняў аб пасылцы ў органы Крымінальнага Вышуку адпаведных даведак аб асуджаных.

### 2. АБ ПАСЫЛЦЫ ПРАКУРОРАМ КОПІЙ ПАСТАНОЎ, ЯКІЯ ВЫНОСЯЦЦА СУДАМІ ПА ІХ ПРАТЭСТАХ.

У мэтах інфармацыі Пракурораў аб пастановах, якія выносяцца Судамі па пратэстах Пракурора, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе: ва ўсіх выпадках разгляданьня Судамі пратэстаў Пракурораў пасылаць Пракурорам у трохдзённы тэрмін копіі пастаноў вынесеных па гэтых пратэстах.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

Ст. Інспэктар НКЮ БССР *Барышаў.*

17 мая 1927 г.
№ 2.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ ВЫЗВАЛЕНЬНІ АД ГЭРБАВАГА ЗБОРУ КВІТКОЎ І РАСЬПІСАК, ЯКІЯ ЎЧЫНЯЮЦЦА ПА СУДОВЫХ СПРАВАХ.

*Усім Акруговым Судом.*

Народны Камісарыят Юстыцыі пры гэтым абвяшчае для ведама і кіраваньня копію адносіны Народнага Камісарыяту Фінансаў за 23 красавіка г г за № 3181/24 аб вызваленьні ад гэрбавага збору квіткоў і расьпісак, якія ўчыняюцца па судовых справах.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль.**

Член Калегіі НКЮ БССР **С. Эднэрал.**

4 мая 1927 г.
№ 34

*Усім Акрфінадзелам,*

### АБ ВЫЗВАЛЕНЬНІ АД ГЭРБАВАГА ЗБОРУ КВІТКОЎ І РАСЬПІСАК, УЧЫНЯЕМЫХ ПА СУДОВЫХ СПРАВАХ.

У аднэй з акруг на тэхнічнай нарадзе па гэрбаваму збору ўзьнікла пытаньне аб аплаце гэрбзборам расьпісак, якія адбіраюцца судовымі выканаўцамі ад ісцоў пры перадачы ім грошай па выканаўчых лістох.

Прыймаючы пад увагу, што такое пытаньне можа ўзьнікнуць і ў другіх акругах, Падатковае Кіраўніцтва паведамляе для кіраваньня ніжэйнаступнае:

1. Расьпіскі, якія атрымоўваюць судовыя выканаўцы ад ісцоў, пры выдачы ім спагнаных у іх карысьць грошай па выканаўчых лістох гэрбавым зборам не аплачваюцца (145 Падр. Пер.),

2, Расьпіскі (квіткі) судовых выканаўцаў у атрыманьні імі грошай ад адказчыкаў для перадачы ісцом таксама гэрбаваму збору не падлягаюць (60 п. 1 Падр. Пер.),

Пам. Начальн. Падатковага Кіраўніцтва **Каліцкі.**

Інспэктар **Рэксьцін.**

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ДАПАЎНЕНЬНІ П. „Б“ § 1 АБЕЖНІКА НКЮ БССР № 94 1925 Г.

*Усім Акруговым і Народным Судом.*

Цэнтральны Савет Прафсаюзаў БССР паведамляе, што ў судох прыкмячаюцца выпадкі маруднасьці разгляду спраў па ісках працоўных аб адплаце ім шкоды, выклікаўшай страту імі працаздольнасьці (арт. арт. 403—415 ГК).

Прыймаючы пад увагу, што паказаная катэгорыя спраў аналёгічна справам аб зарплаце, якія згодна п. „б“ § 1 абежніку НКЮ № 94 за 1925 г. павінны прызначацца да слуханьня ў другую чаргу, Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць неабходным дапоўніць свой абежнік № 94 1925 г. ўключэньнем у катэгорыю спраў, пералічаных п. „б“ § 1 памянёнага абежніку і павінных прызначацца да слуханьня ў другую чаргу і спраў па ісках працоўных аб адплаце ім шкоды вынікам якой была страта імі працаздольнасьці.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль.**

Член Калегіі НКЮ БССР **С. Эднэрал.**

14 красавіка 1927 г.
№ 26.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ СКАСАВАНЬНІ п. 4 З УВАГАЙ АБЕЖНІКУ НКЮ БССР ЗА 20 ЛІПЕНЯ 1926 Г. № 87, АБ ПАРАДКУ ВЯДЗЕНЬНЯ ПРАТАКОЛАЎ ПАСЯДЖЭНЬНЯЎ ДЫСЦЫПЛІНАРНЫХ КАЛЕГІЙ АКРСУДОЎ І АБ УМОВАХ ПРЫЦЯГНЕНЬНЯ СУДПРАЦАЎНІКОЎ ДА ДЫСЦЫПЛІНАРНАЙ АДКАЗНАСЬЦІ.

*Усім Акруговым Судом.*

Народны Камісарыят Юстыцыі даводзіць да ведама, што п. 4 з увагай абежніку НКЮ БССР за 20 ліпеня 1926 г. № 87, аб парадку вядзеньня пратаколаў пасяджэньняў дысцыплінарных калегій Акрсуду і аб умовах прыцягненьня судпрацаўнікоў да дысцыплінарнай адказнасьці—скасоўваецца.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль.**

Член Калегіі НКЮ БССР **С. Эднэрал.**

15 красавіка 1927 г.
№ 27.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ СКАСАВАНЬНІ АБЕЖНІКУ НКЮ І НКЗема БССР ЗА 30 ЛІСТАПАДА 1926 Г. ЗА № 149 І П. „21“ ЦЫРКУЛЯРНАГА ЛІСТА НКЮ ЗА 24 ЖНІЎНЯ 1926 Г. ЗА № 1.

*Усім Акруговым і Народным Судом і органам Лясьніцтва.*

Народны Камісарыят Юстыцыі і Нар. Каміс. Земляробства БССР паведамляюць, што абежнік НКЮ і НКЗема за 30 лістапада 1926 г. за № 149, аб парадку прыйманьня Нарсудамі да свайго разгляду крымінальных спраў па 2 ч. 99 арт. К.К. і п. „21“ цыркулярнага ліста НКЮ за 24 жніўня 1926 г, за № 1—аб тым жа, скасоўваюцца.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль.**

Нам. Народн. Камісар. Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

15 красавіка 1927 г.
№ 29.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

*Усім Акрпракурорам.*

Прапануецца ўсім Акруговым Пракурорам прыняць рашучыя м-ры да таго, каб усе сьледчыя сваю працу зараз-жа і цалкам перавялі на беларускую мову ў тым ліку і допыт, як абвінавачваемых, так і сьведак.

У выпадках допыту яўрэяў, палякаў. альбо грамадзян іншых нацыянальных меншасьцяў, ня ведаючых беларускае мовы—допыт па іх вымаганьню павінен весьціся на іх роднай мове, хоць-бы праз перакладчыка.

Ва ўсіх гэтых выпадках сьледчы абавязан весьці допыт на простай, зразумелай для дапытваемых, мове: вычурных сказаў і пытаньняў, перасыпаных юрыдычнымі тэрмінамі належыць не ўжываць. у неабходных выпадках растлумачваючы дапытваемым у кожны асобным выпадку ўсе тэхнічныя і юрыдычныя тэрміны.

Акруговыя Пракуроры павінны прыняць ўсе меры да поўнага правядзеньня ў жыцьцё, а таксама заўсёды наглядаць за тым, каб сьледчыя ў будучым цалкам выконвалі гэты абежнік.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль.**

18 красавіка 1927 г.
№ 30.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ АПЛАЦЕ ГЭРБАВЫМ ЗБОРАМ АБАВЯЗНАСЬЦЯЙ ГРАМАДЗЯН НА ІМЯ Н. К. ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ АБ ДАЗВОЛЕ ЎЕЗДУ З-ЗА ГРАНІЦЫ Ў БССР ІХ РОДЗІЧАМ.

*Акруговым Судом і Натарыяльным Канторам.*

Народны Камісарыят Юстыцыі БССР растлумачвае натарыяльным канторам, што абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 12 студзеня 1927 г. № 4 мае зваротную моц.

На падставе гэтага належыць спыніць патрабаваць зьвесткі ад кожнай асобы па ўсіх тых абавязнасьцях, якія былі засьведчаны канторамі да 12 студзеня 1927 году.

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сегаль**

Член Калегіі НКЮ БССР **С. Эднэрал.**

26 сакавіка 1927 г.
№ 31.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ПАРАДКУ РАЗГЛЯДУ КВАТЭРНЫХ СПРАЎ.

*Усім Акруговым і Народным Судом.*

У дадатак да абежніку Народнага Камісарыяту Юстюцыі БССР за 18 сьнежня 1925 г. за № 94, аб устанаўленьні чаргі для разгляду спраў розных катэгорый, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе прыняць да ведама і кіраваньня, што кватэрныя справы павінны разглядацца таксама ў парадку п. „б“ вышэйпамянёнага абежніку за № 94,—гэта значыць—у другую чаргу.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль.**

Член Калегіі НКЮ БССР **С. Эднэрал.**

3 мая 1927 г.
№ 32.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ЗАХАВАНЬНІ МОЦЫ НА ДАЛЕЙШЫ ЧАС ТАКСЫ АПЛАТЫ ДЗЕЯНЬНЯЎ СУДОВЫХ ВЫКАНАЎЦАЎ ПА ВЫКАНАНЬНІ ІМІ РАШЭНЬНЯЎ, ПАСТАНОЎ І АБЕЖНІКУ ЗА 11 КАСТРЫЧНІКА 1923 ГОДУ за № 12 АБ ПАРАДКУ ВЫКАНАНЬНЯ СУДОВЫХ РАШЭНЬНЯЎ І ПАСТАНОЎ.

*Усім Акруговым Судом і Акруговым Пракурорам.*

Народны Камісарыят Юстыцыі паведамляе, што такса аплаты дзеяньняў судовых выканаўцаў па выкананьні імі рашэньняў і пастаноў за 4 студзеня 1924 году за № 1 (Зб. Закон. і Загадаў Ураду БССР № 1, арт. 12 за 1924 год) і абежнік за 11-га кастрычніка 1923 году за № 42 аб парадку выкананьня судовых рашэньняў і пастаноў (Зб. Закон. і Загад Ураду БССР № 15—16, арт. 152 за 1923 год які памылкова скасованы абежнікам НКЮ за 23 сакавіка г. г. за № 24—захоўваюць сваю моц і на далейшы час.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль.**

Член Калегіі НКЮ **С. Эднэрал.**

3 мая 1927 г.
№ 33.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ГРАМАДЗЯНСКІМ ПРАЦЭСУЛЬНЫМ КОДЭКСЕ БССР ВЫДАНЬНЯ 1927 ГОДУ

*Усім Судом і Прокурорам БССР у межах 1926 году.*

Народным Камісарыятам Юстыцыі выданы Грамадзянскі Працэсуальны Кодэкс БССР, зьмяшчаючы ў сабе ўсе зьмены і дапаўненьні, прынятыя законадаўчымі органамі БССР пасьля 1-га верасьня 1923 г., г.-з. пасьля ўвядзеньня ў дзеяньне Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу ў першапачатковай яго рэдакцыі, апублікаваныя да 16 красавіка 1927 г. ўключна. Пры гэтым ў сілу пастановы СНК ад 22 верасьня 1926 году дадатковыя арт. арт выд. 1927 г., якія зьмяшчаюць зазначаныя зьмены і дапаўненьні, абазначаныя ў ім не праз далучэньне літар да нумароў адпаведных арт. Кодэксу выданьня 1923 году, а ўваходзяць у агульную парадковую нумэрацыю артыкулаў, маючы кожная свой самастойны нумар у выніку чаго аульны лік артыкулаў Кодэксу павялічыўся. Прыложаны да Кодэксу выданьня 1927 г. параўнальны паказчык артыкулаў Кодэксу выданьня 1927 г. і 1923 г. дае магчымасьць лёгка адзначыць тыя артыкулы Кодэксу выданьня 1923 г., а таксама зьмены і дапаўненьні да яго, каторыя складаюць зьмест артыкулаў Кодэксу выданьня 1927 г.

Даводзячы гэта да ведама Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе пры дапасаваньні Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР выданьня 1927 г. мець на ўвазе ніжэйнаступнае:

1. Нормы, якія заключаюцца ў тых артыкулах Кодэксу выд. 1927 г., якія прадстаўляюць зьмест выданых пасьля 1 верасьня 1923 г. зьмен і дапаўненьняў да Кодэксу выд. 1923 г. павінны лічыцца чыннымі з моманту ўступленьня ў сілу гэтых зьмен і дапаўненьняў, знаходзячагася ў залежнасьці ад часу атрыманьня ў адпаведным выканаўчым камітэце таго нумару Збору Законаў і Загадаў БССР ці газэты „Савецкая Беларусь", две тая ці іншая зьмена або дапаўненьне апублікавана.

Зьмяшчаемая ніжэй табліца паказвае:

а) артыкулы Кодэксу выд. 1927 г., якія зьмяшчаюць зьмены або дапаўненьні да Кодэксу выд. 1923 г.

б) адпаведныя ім артыкулы Кодэксу выд. 1923 г. або дадатковыя да яго, пастановы

в) год і нумар Збору Законаў і Загадаў БССР і газэты „Савецкая Беларусь" дзе зазначаныя зьмены ці дапаўненьні першапачаткова апублікаваны.

| Арт. арт. ГПК выд. 1927 г. | Арт. арт. ГПК выд. 1923 г. або дадатковыя да яго пастановы | Год і № збору Закон. БССР або газэты „Савецкая Беларусь“ |
|---|---|---|
| 16 п. „б“ | 16 п. „б“ | З. З. 24 г. № 24 арт. 216 |
| 23 п. „а“ | 23 п. “а“ | З. З. 24 г. № 24 арт. 216 |
| 25 увага | 25 увага | З. З. 24 г. № 24 арт. 215 |
| 186 | 186 | З. З. 25 г. № 29 арт. 271 |
| 187 | 187 | З. З. 25 г. № 29 арт. 271 |
| 188 | 187-а | З. З. 25 г. № 29 арт. 271 |
| 189 | 187-б | З З. 25 г. № 29 арт. 271 а адносна іскаў аб заработнай плаце З. З. 26 г. № 6 арт. 24 |
| 190 | 187-в | З. З. 25 г. № 29 арт. 271 |
| 194 п. „б“ | разьдзел II пастановы ЦВК і СНК ад 26-III—27 г. аб прызнаньні асобы невядома дзе адсутнай і невядома дзе адсутную прапаўшай | „Савецк. Бел. ад 6-IV 1927 г. № 78 (З. З.—27 г. № 17, арт. 70) |
| 194 п. „з“ | Пастанова ЦВК і СНК ад 18-IX-26 г. аб справавядзеньні па аднаўленьню спраў па страчаных дакумэнтах на прад'яўніка | „Савецк. Бел.“ ад 1-X 26 г. № 223 (З З. 26 г. № 39. арт. 143) |
| 202, 203, 204, 205, 206, 207, 208, 209, 210 | Пастанова ЦВК і СНК ад 26/III-27 г. аб прызнаньні асобы невядома дзе адсутнаю і невядома дзе адсутную прапаўшай (арт. ) | „Савецк. Бел.“ ад 6IV—1927 г. № 78 (З, З.—27 г. № 17 арт. 70) |
| 211, 212, 213 | артыкул 1—12 | |
| 214, 215, 216, 217, 218 | арт. 1, „ 2, „ 3, „ 4, „ 5 Палаж. аб Трацейскіх Судох | З, З. 1925 г. № 29 арт. 275 |
| 219 | 199 | З. З. 25 г. № 29 арт. 275 |
| 220 | 200 | З. З. 25 г. № 29 арт 275 |
| 221, 222, 223, 224, 225, 226, 227, 228, 229, 230 | арт. 7, „ 8, „ 10, „ 11, „ 12, „ 13, „ 14, „ 15, „ 16, „ 17 Палаж. аб Трэцэйскіх Судох | З. З. 25 г, № 29 арт. 275 |
| 234 | 203-а | |
| 235 | 203-б | „Сав. Бел.“ ад 2/X 26 г. № 224 (З. З. 26 г. № 40 арт 144) |
| 236 | 203-в | |

| Арт. арт. ГПК выд. 1927 г. | Арт. арт. ГПК выд. 1923 г. або дадатковыя да яго пастановы | Год і № Збору Закон. БССР або газэты „Савецкая Беларусь“ |
|---|---|---|
| 243 п. „е“ і ўвага | Пастанова ЦВК і СНК ад 16/і 1925 г. аб спагнаньні пазычак, выданых крэдытнымі і пазычкова ашчаднымі таварыствамі, упарадку судовага загаду | З. З. 25 г. 7 арт. 44. |
| 244 п. п. „а“ і „б“ і ўвага | 211 п. п. 1 і 2 увага | З. З. 24 г. № 24, арт. 215 |
| 253—257 | 226—230 | „Сав. Бел.“ ад 29-V 26 г. № 120 (З. З. 26 г. № 21 арт, 78). |
| 262 | 234—а | |
| 263 | 234—б | |
| 264 | 234—в | |
| 265 | 234—г | |
| 266 | 234—д | |
| 267 | 234—е | |
| 268 | 234—ж | |
| 269 | 234—з | „Савецкая Беларусь“ за 1 кастрычніка 926 г. № 223 |
| 270 | 234—і | |
| 271 | 234 к | |
| 272 | 234—л | (З. З. 1926 г. арт. 143,) |
| 273 | 234—м | |
| 274 | 234—н | |
| 275 | 234—о | |
| 276 | 234—п | |
| 277 | 234—р | |
| 285 | 242 | |
| 289 | 246 | З. З. 26 г. № 24 арт, 216 |
| 297 | 254 | З. З. 24 г. № 24 арт. 216 |
| 298 | 254—а | „Сав. Бел.“ за 2-Х 26 г. № 224 (З. З. 1926 г. № 40 арт. 145) |
| 299 | 254—б | |
| 311 | 266 | З. З. 25 г, № 29 арт. 272 |
| 316 п „е“ | 271 п. „е“ | З. З. 24 г, № 21 арт, 187 |

II. Усе іншыя, апрача пералічаных вышэй у п. 1 нормы, якія заключаюцца ў Кодэксе выданьня 1927 г., як нязьменныя у параўнаньні з адпаведнымі нормамі Кодэксу выданьня 1923 г. павінны лічыцца чыннымі з 1-га верасьня 1923 г.

III. Прынятая ў Кодэксе выд. 1924 г. паводле пастановы СНК новая нумарацыя артыкулаў яго для наданьня судовым працаўнікам магчымасьці азнаёміцца з ёй, уводзіцца ў деяньне з 15 чэрвеня 1927 г.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі М. Сегаль.

Загадч. Аддз. Законадаўчых проэктаў Гаўзе.

17 мая 1927 г.
№ 136.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ ПАРАДКУ СПАГНАНЬНЯ ЗАВІНАВАЧАНАСЬЦІ ПА НАСЕННЫХ ПАЗЫЧКАХ.

*Усім Судовым органам, копія Цэнтральнаму Камітэту Сялянскіх Вобчастваў Узаемадапамогі.*

Па зьвестках, якія маюцца ў НКЮ, некаторыя раённыя Камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі зварочваюцца да Народных Судоў з хадайніцтвамі аб узысканьні з неплацельшчыкаў завінавачнасьці па насенных пазычках за мінулыя гады, пры чым Народныя Суды прымаюць гэтакія справы да свайго разгляду, а ў некаторых выпадках адмаўляюцца прыймаць іх за пропускам тэрміну на прадяўленьне іску ў парадку арт. 44 Грамадзянскага Кодэксу.

З прычыны вышэйпамянёнага Народны Камісарыят Юстыцыі растлумачвае наступнае:

На падставе арт. 3-га Палажэньня аб дзяржаўна-грамадзянскім насенным натуральным фондзе БССР (Зб Зак. 1926 г № 45. арт. 168) у склад насеннага фонду, які перадаецца ў веданьне і распараджэньне камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі. між іншым, уваходзяць: насенныя запасы, паступаючыя на ўзварот завінавачанасьці па насенных пазычках ад пазычкоўцаў мінулых гадоў, а згодна пункту „ж“ арт. 1 пастановы ЦВК і СНК СССР за 17 верасьня 1926 году (Зб. Зак. СССР 1926 г. № 64, арт. 482) спагнаньне незаплачаных у тэрмін выплат па скасаваньні дзяржаўнай насеннай пазычкі ўтвараецца ў парадку Палажэньня аб спагнаньні падаткаў (З. З. СССР 1925 г. № 70, арт. 518 і 1926 г. № 67, арт. 504).

Такім чынам. спагнаньне завінавачанасьці з нядоімшчыкаў насеннай пазычкі павінна рабіцца ня ў судовым. а ў бяспрэчным парадку, і Народныя Суды не павінны прыймаць гэтакія справы да свайго разгляду,

Што-ж датычыць пытаньня аб іскавой даўнасьці, якая прадугледжана ў арт. 44 Грам. Код., то дзеяньне гэтага артыкулу, як нормы грамадзянскага права, не пашыраюцца на падаткі і зборы.

Нам. Народнага Камісара НКЮ БССР **С. Эднэрал.**

Ст. Інспэктар НКЮ **Барышаў.**

21 мая 1927 г.
№ 37.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ ТЭРМІНЕ ВЫДАЧЫ СУДОВЫХ ЗАГАДАЎ НА СПАГНАНЬНЕ НЯЎНЕСЕНЫХ ПАЗЫЧАК У КАРЫСЬЦЬ ОРГАНАЎ СЕЛЬСКА ГАСПАДАРЧАГА КРЭДЫТУ І СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЙ КААПЭРАЦЫІ.

*Усім Акруговым і Народным Судом.*

Пунктам 2-м абежніку НКЮ і НКУС за № 154—1926 г. аб дапамозе ўстановам сельска-гаспадарчага крэдыту і сельска-гаспадарчай коопэрацыі ў справе спагнаньня неадданных у тэрмін пазычак прапанована было ўсім Нарсудом выдаваць судовыя загады на спагнаньня няўнесеных у тэрмін пазычак неадкладна па паступленьні ў суд адпаведных заяў ад паказаных устаноў.

Між тым, па зьвестках, якія маюцца ў НКЮ, у некаторых акругах Нарсуды затрымліваюць выдачу судовых загадаў на працягу двух і больш месяцаў, што зьяўляецца недапушчальным і вельмі дрэнна адбіваецца на дзейнасьці сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту і сельска-гаспадарчай коопэрацыі.

З прычыны вышэйпамянёнага Народны Камісарыят Юстыцыі, пацьвярджаючы абежнік свой за № 154—1926 году, прапануе наступнае.

Судовыя загады па справах аб спагн ньні няўнесеных пазычак у карысьць органаў сельска-гаспадарчага крэдыту, сельска-гаспадарчай коопэрацыі выдаваць у тэрмін ня больш як сем дзен з дню паступленьня ў суд заявы ад паказаных органаў аб выдачы судовага загаду, маючы таксама на ўвазе, каб выкананьне гэтых загадаў, згодна абежніку НКЮ за № 154—1926 г., вытваралася ў гэтакі-ж эрмін, г. зн. у сем дзён з дню ўручэньня абвесткі аб выкананьні.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі **С Эднэрал.**

Ст. Інспэктар НКЮ **Барыщаў.**

21 мая 1927 г.
№ 38

# Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

## АБ ЗАБЯСЬПЕЦЫ ТАЯМНІЦЫ І НЕДАТЫКАЛЬНАСЬЦІ УКЛАДАЎ, ЯКІЯ УНОСЯЦЦА Ў ДЗЯРЖАУНЫЯ ПРАЦОУНЫЯ АШЧАДНЫЯ КАСЫ СІ ЮЗУ ССР.

*Усім органам Суду, Пракуратуры і сьледзтва.*

Пастановай ЦВК і СНК саюзу ССР 27 лістапада 1925 г. зацьверджана новае Палажэньне аб дзяржаўных працоўных ашчадных касах Саюзу ССР (Весткі ЦВК'а СССР і У ЦВК за 5 сьнежня 1925 г. № 278).

З прычыны асобнага значэньня, якое прыдаецца ашчаднаму апарату ў справе замацаваньня дзяржаўных фінансаў і крэдыту, у новы закон уключан цэлы шэраг норм выключнага характару, якія маюць мэтай пасьпешнае разьвіцьцё ашчаднае справы

У гэтым напрамку заканадаўцам зьвернута асаблівая ўвага на забясьпеку таямніцы і недатыкальнасьці ўкладаў, якія ўносяцца ў ашчадныя касы, бо вопыт паказаў. што галоўным стымулам звароту насельніцтва да ашчадных кас зьяўляецца ня той параўнальна назначаны прыбытак, які атрымаецца ад зьмяшчэньня грошай у касы, а магчымасьць хаваць свае ашчады ў пэўным месцы, дзе яны будуць недатыкальны і захаваны ад цікавых узрокаў таксама, як-бы гэтыя ашчады знаходзіліся у самых таемных таемніках насельніцтва.

Абсалютная забясьпека таемнасьці і недатыкальнасьці укладаў, зразумела, недапусьціма, бо ашчадныя касы ў гэтым выпадку сталі-б месцам сакрыцьця такіх дзеяньняў, якія знаходзяць сябе азначэньне ў крымінальных кодэксах Саюзных Рэспублік. Пагэтаму, новы закон аб ашчадных касах, пашыраючы граніцы недатыкальнасьці і таемнасьці укладаў да максімуму, дапушчае іх парушэньне толькі ў інтарэсах крымінальнага правасудзьдзя

Недатыкальнасьць укладу, згодна гэтаму закону, можа быць парушана шляхам налажэньня на яго арышту, альбо канфіскацыі яго выключна судовымі і судова-сьледчымі органамі і толькі па крымінальных справах, Г. К. у тых выпадках, калі ўнесеныя ў ашчадную касу грошы, здбытыя злачынным шляхам, альбо ўкладчык павінен пазбавіцца іх па судоваму прысуду ад канфыскацыі маемасьці. Адсюль відаць, што канфіскацыя укладу, альбо зварот спагнаньня на ўклад, можа мець месца толькі па прысуду адпаведнага крымінальнага Суду, а наклад арышту можа быць па азначэньнях і пастановах крымінальных Судоў, а таксама судова-сьледчых органаў, да якіх павінны быць аднесены пракурорскі нагляд і народныя сьледчыя.

Значыцца, ні грамадзянскія суды, ні адміністрацыйна-судовыя органы ня могуць зварочваць спагнаньня, альбо накладваць арышту на ўклады ашчадных кас.

Таемнасьць укладу, апроч укладчыка і яго законных прадстаўнікаў, можа быць ускрыта выключна па патрабаваньню судовай і судова-сьледчай улады і толькі па крымінальных справах, якія знаходзяцца ў іх справавядзеньні.

Гэткім чынам, у адпаведнасьці з арт. 3 Палажэньня аб ашчадных касах, таемніца ўкладаў можа быць парушана толькі ў тым выпадку, калі уклад здабыт злачынным шляхам, або ўскрыцьце таямніцы можа дапамагаць выяўленьню злачынства, альбо затрыманьню злачынцаў.

Таемнасьць укладаў можа быць адкрыта толькі па патрабаваньню тых-жа судова-сьледчых органаў, якім, згодна арт. 3 Палажэньня аб ашчадных касах, дадзена права парушэньня недатыкальнасьці ўкладаў. Органы дазнаньня могуць патрэбаваць адкрыцьця таямніцы ўкладаў толькі на падставе адпавеных пісьменых азначэньняў і пастаноў вышэйпамянёных судовых і сьледчых органаў.

З прычыны гэтага, ні грамадзянскія Суды, ні судовыя выканаўцы, ні адміністрацыйна-судовыя органы, ні органы дазнаньня, за выключэньнем вышэйпаказаных выпадкаў, ня могуць трэбаваць ад ашчадных кас ускрыцьця таямніцы укладаў.

Паміж тым, па зьвестках НКЮ на мясцох, нярэдка наглядаюцца выпадкі парушэньня таямніцы і недатыкальнасьці укладаў органамі дазнаньня, а таксама судовымі органамі па грамадзянскіх справах.

Зварочваючы вашу ўвагу на недапушчальнасьць гэтакіх парушэньняў і на тую шкоду, якую яны робяць ашчаднай справе, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе пры вырашэньні пытаньняў, якія зьвязаны з парушэньнем таемніцы і недатыкальнасьці укладаў ашчадных кас, кіравацца гэтым абежнікам і Палажэньнем аб дзяржаўных ашчадных касах.

Час. Выкан. аб. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі С. Гохман.

Член Калегіі НКЮ С. Эднэрал



## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ПАРАДКУ НАТАРЫЯЛЬНАГА ПАСЬВЕДЧАНЬНЯ ЗГОД АБ ЗДАЧЫ Ў АРЭНДУ МЛЫНОЎ.

*Усім Дзяржаўным Натарыяльным Канторам.*

Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе ўсім Натарыяльным канторам пры натарыяльным пасьведчаньні згод аб здачы дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі арганізацыямі ў арэнду млыноў прыватным асобам вымагаць прадстаўленьня пасьведчаньняў з боку адпаведных Акркамунгандлю аб дазволе на здачу ў арэнду дзяржаўных і каапэрацыйных млыноў прыватным асобам.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі **С. Гохман.**

Член Калегіі НКЮ **С. Эднэрал.**

30 мая 1927 г.
№ 42.

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**

Галоўлітбел № 25.628 Тыраж 1500 экз. Друкарня Менспраўдому

# Зьмест

## афіцыйчай часткі.

Стар.

ЦЫРКУЛЯРНЫЯ ЛІСТЫ: — I

1. Аб тэрміновай арганізацыі занятkaў з Нарзасядацелямі . . . I
2. Аб пасылцы судамі ў мясцовыя органы Крымінальнага Вышуку даведак аб асуджаных . . . . . . II

АБЕЖНІКІ:

1. Аб вызваленьні ад гэрбавага збору квіткоў і расьпісак, якія ўчыняюцца па судовых справах . . . . II
2. Аб дапаўненьні п. „б“ § 1 абежніка НКЮ БССР № 94, 1925 г. . . III
3. Аб скасаваньні п. 4 з увагай абежніку НКЮ БССР за 20 ліпеня 1926 г. за № 87 аб парадку вядзеньня пратаколаў пасяджэньняў дысцыплінарных калегій Акрсудоў і аб умовах прыцягненьня судпрацаўнікоў да дысцыплінарнай адказнасьці . . . . III
4. Аб скасаваньні абежнка НКЮ і НКЗема БССР за 30 XI 1926г. № 144 і п. „21“ цыркулярнага ліста НКЮ за 24 жніўня 1926 г. за № 1 . . III
5 Абежнік № 30 . . . . . . . . . IV
6. Аб аплаце гэрбавым зборам абавязнасьцяй грамадзян на імя НК Замежных Спраў аб дазволе ўезду з-за граніцы ў БССР іх родзічам. . . . . . . . . IV
7. Аб парадку разгляду кватэрных спраў . . . . . . IV
8. Аб захаваньні моцы на далейшы час таксы аплаты дзеяньняў судовых выканаўцаў па выкананьні імі рашэньняў . пастаноў і абежніка за 11 кастрычніка 1923 г. за № 12 аб парадку выкананьня судовых рашэньняў і пастаноў . . . . V
9. Аб Грамадзянскім Працэсуальным Кодэксе БССР выданьня 1927 г. . V
10. Аб парадку спагнаньня завінавачанасьці па насенных пазычках . VIII
11. Аб тэрміне выдачы судовых загадаў на спагнаньне няўнесеных пазычак у карысьць органаў Сельска-Гаспадарчага Крэдыту і Сельска-Гаспадарчай Каапэрацыі . . . . . VIII
12. Аб забясьпецы таямніцы і не датыкальнасьці ўкладаў, якія ўносяцца ў дзяржаўныя ашчадныя касы Саюзу ССР . . . . IX
12. Аб парадку натарыяльнага пасьведчаньня згод аб здачы ў арэнду млыноў. . . . . . . . . X

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1917 г.

на Беларускую часопісь Літаратуры, Політыкі, Экономікі, Гісторыі

# „ПОЛЫМЯ“

(ШОСТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)

пад рэд.: З. Жылуновіча, М. Зарэцкага і Я. Лімаоўскага.

У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ САМЫЯ ВЫДАТНЫЯ
БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ І НАВУКОВЫЯ СІЛЫ

### Ў 1927 ГОДЗЕ

### Ў СКЛАД СУПРАЦОЎНІКАЎ ЎВАХОДЗЯЦЬ:

Адамовіч А., Адамовіч Я., Александровіч А., Арэшнікаў П.,
Байкоў М., Баліцкі А., Бандарына З., Барашка І., Білец-
кі А. проф. (Харкаў), Бываеўскі Н., Быхоўскі Б., Бядуля З.
(Ясакар), Бузук П. проф., Бонч-Асмалоўскі А. (Масква),
Барычэўскі Е. проф., Багдановіч А., Васілеўскі Д., Воль-
ны А., Вольфсон С. проф., Гартны Ц. (Жылуновіч З.), Га-
рэцкі М., Гарабурда К., Гарэцкі Г., Гарбацэвіч В., Грамы-
ка М., Гурло А., Глебка П., Грэдынгер М. проф. Герчыкаў І.,
Даркевіч П., Дрэйзін Ю., Дзяржынскі У., Дружчыц В.,
Жарскі П., Жарынаў З. проф., Жылка Ў., Журба Я., За-
моцін І. проф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Ігнатоўскі Ўс. проф.,
Імшэньнік Ф., Карклін М., Каліноўскі Ў., Кацэнбоген С. проф.,
(Саратаў), Каган Л., Канаплін Н., Кіпель Я., Колас Я. (Та-
рас Гушча), Купала Янка, Круталевіч А., Крыніцкі А.,
Лёсік Яз., Ліманоўскі Я., Лявонны Ю., Маракоў В., Марук Я.,
Моркаўка А., Мурашка Р., Мялешка М., Некрашэвіч С., Нё-
манскі Я., Нікановіч М., Нодэль В. (Ташкент), Окіншэвіч Л.
(Кіеў), Падабед Я., Пічэта Ў. проф., Пушча Я., Пфляўм-
баум Е., Пятровіч Я., Пятуховіч М. проф., Сэрбэнта В., Сянь-
кевіч А., Трус П., Харэвіч А., Хэрсонскі Х., Хлябцэвіч Я.,
Хмарка, Цьвікевіч Я., Цьвікевіч Аляксандр, Чарвякоў А.,
Чарнушэвіч З., Чарот М., Чорны Кузьма, Чарнушэвіч Н.,
Шатэрнік М., Шыпіла Ів., Шлюбскі А., Шчакаціхін М.,
Шукевіч-Трацьцякоў Р. і інш.

### ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ПАЎТАРА МЕСЯЦЫ—8 КНІЖАК НА ГОД, РАЗЬМЕ-
РАМ КОЖНЫ НУМАР 12 ДРУКАВАНЫХ АРКУШОЎ.

ГАДАВЫЯ ПАДПІСЧЫКІ на 1927 г. АТРЫМОЎВАЮЦЬ
ПА ВЫБАРУ БЯСПЛАТНА ЛІТАРАТУРНЫ ДАДАТАК ПА
ДЗЬВЕ КНІЖКІ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ І ПОЭТАЎ.
ПОГАЎДОВЫЯ ПАДПІСЧЫКІ Ў ДАДАТАК АТРЫМОЎВАЮЦЬ АДНУ
КНІЖКУ.

**АКРАМЯ ТАГО, ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ ПРАДАСТАЎЛЯЕЦЦА**
**РАССРОЧКА З УПЛАТАЮ:** 1 студзеня—4 р.; 1 ліпеня—3 р. 50 к.;
1 кастрычніка—2 р. 50 к.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: На год 10 руб., на 6 месяцаў 5 руб.,
на 3 месяцы 2 руб. 50 кап.

**АСОБНЫ НУМАР КАШТУЕ 1 руб. 50 кап.**

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у рэдакцыі часоп. „Полымя“ (Менск, Саве-
цкая 63), У цэнтральнай кнігарні Бел. Дзярж. Выдавецтва (Менск, вуг.
Ленінскай і Савецкай), ва ўсіх акруговых аддзяленьнях Бел. Дзярж. Вы-
давецтва, ва ўсіх паштовых аддзяленьнях і ў канторы падпіскі на га-
зэты „Правда“ і „Известия“ (Менск, Савецкая 61).

Цана 80 кап.